Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 13 (4557) 2 красавіка 2010 г.

# У нумары:





Задоўга да з'яўлення сучасных мабільнікаў таленавітых паэтаў Бог надзяляў здольнасцю да магічна-мабільнай сувязі, каб яны маглі перамаўляцца з часам і вечнасцю. Атрымаў такі дар і Аляксей Пысін. Яго радкі тояць у сабе непаўторную ўнутраную таямнічасць, адчувальную энергетыку. Часта само сабою ўсплывае і гучыць у памяці, напрыклад, вось гэтае: "Ёсць на свеце мой алень // Ёсць і гэткае маленне: // Будзь заўсёды ў аленя // Цёмны мох і светлы дзень!.." Або вось гэта, што любілі часта паўтараць паэты-франтавікі: "Ведайце: калі мяне не стане — // Я ў сваю дывізію пайшоў".



# Сваёй эпохі сувязны

Колькі ў апошнім павагі і пашаны да сваіх баявых пабрацімаў, да тых, хто не вярнуўся з вайны! На маёй памяці гэтыя радкі цытавалі не толькі прыцярушаныя сівізной франтавікі, але і безвусыя юнакі. І для адных, і для другіх яны былі аднолькава блізкімі, нібыта да іх сэрцаў скіраваныя.

Калі А. Пысін упершыню "выбухнуў" сваімі франтавымі вершамі, яго аднагодкі ўжо на поўную моц выгаварваліся вайною і цяпер на блізкіх і далёкіх дарогах свету шукалі іншыя, новыя тэмы. А ён, нібыта спахапіўшыся, прызнаваўся: "Я зведаў адставання шлях пакутны, // Хаду пад дых абознага каня". Яго першыя кнігі нібыта ўзбоччам абышлі яго галоўную тэму, пра што ён, вядома ж, потым шкадаваў.

У 1962 годзе я працаваў у Стаўбцоўскай раённай газеце "Голас селяніна", і на маім рабочым стале ляжала разгорнутая свежая, яшчэ з моцным пахам друкарскай фарбы, кніга А. Пысіна "Сонечная паводка". Гэта быў трэці зборнік паэта, мала каму тады вядомага, які, і сапраўды, нібыта "адстаў" ад сваіх аднагодкаў. Наша машыністка, звярнуўшы ўвагу на кнігу, пачала з успамінаў:

— Ведаем мы Аляксея. Працавала я з ім у палітаддзельскай газеце пры Свержаньскай МТС.

— Ну і як працаваў? — пачаў я дапытвацца.

— Я-як… — перавяла на жарт жанчына. — Як і ты, хіба што спакайнейшы быў перад дзяўчатамі. Надта перад імі не прыхарошваўся. Валасы былі разбэрсаны, быццам расчоскі не меў.

— Упартыя валасы былі! — заступіўся я.

— Не ведаю, — адказала яна. — Сам то крыху ўпарты быў і маўклівы.

— А гэта, відаць, пра вас? — я зачытаў радкі:

Сяброўкі даўнія ў калгасах
Ідуць палоць
І жыта жаць,
Прад імі ж у наборных касах
Шрыфты гранёныя ляжаць.

Да знака знак —
і ззяюць словы
Ў тугіх абоймачках-радках.
У фарбе рукі, пыл свінцовы
На косах русых
І шчаках.

— І, праўда, як пра нас, — згадзілася мая супрацоўніца. Тады, не так і далёка па часе ад вайны, усе раёнкі набіраліся ўручную, па літарцы. Здзіўляла мяне гэта мурзатая і марудлівая работа, ад якой цяпер залежаў і мой лёс. Праз паўгода раённая друкарня атрымае старэнькі лінатып, і друкары павесялеюць, хоць праз дзень ён будзе псавацца, бо раз за разам псавалася тая тэхніка, не паспяваў прыязджаць з Маладзечна майстра, каб яе рамантаваць. Гэта да слова. А з Пысінам нас ужо як быццам і пазнаёмілі.

Да пысінскага "выбуху" заставалася зусім мала часу. У 1965 годзе ў кнігарнях з'явіцца зборнік "Мае мерыдыяны", і ўсе адразу "зашумяць" пра другое нараджэнне паэта. Для чытача гэта быў зусім нечаканы, а для паэта даўно падрыхтаваны зварот да сваёй памяці, зварот у нядаўняе мінулае, якое, быццам неўзарваная міна, чакае свайго часу. Яны "выбухнулі" амаль адначасова, амаль залпам: ён — у паэзіі, а Васіль Быкаў — у прозе. Памяць, падсвечаная знутры растрывожанай і чуллівай душой, акрэсленая цяжкімі выпрабаваннямі, стратамі баявых сяброў, клікала чытача да саўдзелу ў тых векапомных падзеях:

Пярэдні край. Чужы
Неразгаданы,
Пярэдні край,
як полюс мерзлаты.
На бледны снег
ляглі мерыдыяны,
Армейскія прамыя правады.

Снег раставаў.
Звінелі ў небе птушкі,
І зелянеў абпалены дзірван.
І сувязіст
з напоўненай катушкі
Надтачваў на хаду
мерыдыян.

Вялікая эмацыянальная сіла вершаў А. Пысіна якраз у тым, што іх нараджалі жыццё ды чулае, перапоўненае дабрынёй сэрца, якое ўмела слухаць гэта жыццё. Зусім невыпадковае і прызнанне паэта ў радках, напісаных пасля прагляду кінаэпапеі "Вялікая Айчынная":

На кіламетрах
здымкаў франтавых
Я, можа болей,
чым хто іншы, бачу.
Душой я ў кожным
з мёртвых і жывых…
Наступны заўтра фільм…
Пайду паплачу.

Ён быў занадта заземленым на роднай глебе, занадта свой, беларускі, а таму і не гучаў на поўную моц у перакладах. Адразу ж трацціў тое роднае і непаўторнае, што ў арыгінале было асабліва падкрэсленым і высветленым і што дасягаецца толькі вялікай эмацыянальнай сілай роднай мовы. Да роднага слова ў паэта былі асаблівыя адносіны. Пра непаўторнасць роднай мовы ён гаварыў з асаблівым узрушэннем, нібы прамаўляў малітву.

Па-сапраўднаму пазнаёміцца з Аляксеем Васільевічам мне пашанцавала толькі ў 1974 годзе, недзе напрыканцы сакавіка. Тады ў Беларусі праходзілі Дні літоўскай культуры. Мы з Уладзімірам Паўлавым суправаджалі гасцей свята ў паездцы па Магілёўшчыне. У абласным цэнтры да нас далучыўся і Пысін. У. Паўлаў быў ужо знаёмы з паэтам, а я адкрываў яго для сябе ўпершыню. Надта шчырым, адкрытым, нават разнасцежаным убачыўся мне вядомы паэт. Гэта непадробная адкрытасць лёгка згладжвала знешнюю суровасць ягонага твару, ці, лепш сказаць, ягоную пахмурнасць. Смяяўся, як правіла, мала, прыцішана, кончыкамі вуснаў. А часам доўга засяроджана маўчаў, асабліва калі наведвалі мясціны, звязаныя з мінулай вайной. Тады мог нават заплакаць, зусім не саромеючыся сваіх слёз. Аднойчы запрасіў нас з У. Паўлавым дахаты. Не было там чым хваліцца, бо меў сціплую кватэру ў абласным цэнтры, але ж са сваёй утульнасцю. Астатніх сямейнікаў дома не было, і мы адчувалі сябе па-мужчынску раскавана. Аляксей Васільевіч накрыў сціплы, але гасцінны стол, на якім з'явілася нават пляшка. Сам гаспадар пры нас нічога моцнага не ўжываў, казаў, што нядаўна "завязаў", а нас да "горкай кроплі" шчыра падахвочваў. Мы бралі за яго здароўе па кілішку, а ён і тут, за сталом, быў падкрэслена зямным: дамашні боршч сёрбаў з глінянай міскі драўлянай, расфарбаванай лыжкай. Гэта мне запомнілася добра.

А вось вершы свае чытаць не ўмеў. Голас яго гучаў глуха і манатонна. Перад аўдыторыяй быццам губляўся і ніякавеў, часам нагадваў вучня, які дрэнна вывучыў урок. Але таленавітая паэзія сама выручала сябе: у ёй чуўся голас паэтавага ўсхваляванага сэрца.

Сапраўды паэт павінен яшчэ заставацца і абаронцам усяго жывога навокал. А. Пысін быў менавіта такім.

Нездарма ж у адным з вершаў ён пісаў:

Мяркуй, што робіш
для душы сваёй —
Шпакоўню, вулей,
сціплую кармушку:
Падобны ў чымсьці
на пчалу і птушку,
Ты б мог прыйсці
ў свет птушкаю, пчалой.
Ты мог прыйсці бярозкаю,
што ссек,
Мурашкаю, што сок
з пянёчка выпіла,
У істоце той,
якою быць не выпала,
Сябе адчуй хоць зрэдку,
чалавек!

Часам паэт дакараў сябе: "І чаму не стаў я лесніком, // Лес мой, брат мой… // Быў бы я тваім замком // І тваёй бранёй". І ў паэзіі, і ў жыцці, а яны ў паэта былі ў моцным сплаве, ён заставаўся чалавекам мужным і бескампрамісным, а таму і ненавідзеў "баязліўцаў, здраднікаў, прайдох". А сустракацца з імі даводзілася часта. Ён змагаўся з імі і часта быў у пройгрышы.

У апошнія гады Пысін усё больш звяртаўся да сучаснасці. Аднак суровае мінулае вайны — яго найгалоўнейшая тэма — ішло неадступна за ім да самага апошняга моманту жыцця.

Праз усю вайну прайшоў ён сувязістам і застаўся ім у часе мірным, бо ўсім сэрцам адчуваў "часоў былых і новых сувязь" і лічыў сваім абавязкам мацаваць яе ў новых пакаленнях. Гэтую светлую і святую місію сёння годна працягвае яго паэзія.

Казімір КАМЕЙША

## Узнагароды

# Адзначаны лепшыя

Тыдзень таму Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўрачыста ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды прадстаўнікам розных сфер дзейнасці. Значную групу сярод узнагароджаных склалі працаўнікі і спецыялісты прадпрыемстваў энергетычнага комплексу, прадстаўнікі Узброеных Сіл нашай краіны, а таксама спецыялісты вытворчых аб'яднанняў і канструктарскіх бюро, якія працуюць на абарону.



У ліку ўзнагароджаных — работнікі мастацтва, навукі і адукацыі. Так, ордэнам Айчыны II ступені ганараваны вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Расціслаў Янкоўскі. Ордэна Пашаны ўдастоены дырэктар Лужаснянскай школы-інтэрната-гімназіі для адораных і таленавітых дзяцей Віцебскай вобласці Уладзімір Шыцько, а ордэна Францыска Скарыны — вядомы лектар-музыказнаўца, член Беларускага саюза музычных дзеячаў Іна Зубрыч.

Шэраг іншых знакамітых творчых асоб узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Гэта — супрацоўнік рэдакцыйна-выдавецкай установы "ЛіМ", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі. А таксама — артысты цырка вышэйшай катэгорыі Беларускага дзяржаўнага цырка Сяргей Бандарчук, Вячаслаў Яўхіменка, Настасся Туманава, вядучы майстар сцэны тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай студыі "Беларусьфільм" Ірына Нарбекава.

Прэзідэнт пажадаў усім узнагароджаным, каб гэта былі не апошнія іх узнагароды. "Для гэтага, зразумела, трэба нармальны настрой і добрае здароўе. Не толькі наша асабістае, але і нашых дзяцей, родных і блізкіх. Таму што ад гэтага залежаць усе нашы поспехі", — зазначыў Аляксандр Лукашэнка.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўручае медаль Францыска Скарыны Міколу Мятліцкаму.

Фота БелТА

## Імпрэзы

# Поруч з песнямі

Адметнае свята адбылося ў мінскім Палацы ветэранаў. А нагода была выдатная: выйшаў новы зборнік вершаў членаў клуба "Натхненне", які працуе пры гэтай установе ўжо 16 год, а яшчэ — юбілей кіраўніка клуба, паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольгі Сакаловай.

Распачаў свята народны хор "Спадчына". Пад кіраўніцтвам выдатнага дырыжора, дацэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі М. Хвісюка хор выканаў некалькі народных песень, а таксама "Мелодыю" Антона Рубінштэйна, дзе на яго музыку былі пакладзены словы В. Сакаловай.

Сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў расказаў пра творчасць і грамадскую працу Вольгі Міхайлаўны, уручыў ёй грамату, падарунак. Вёў вечарыну пісьменнік Павел Саковіч, які добра ведае творчасць юбіляркі і з'яўляецца рэдактарам двух яе кніжак вершаў. Выступіла таксама школьная сяброўка В. Сакаловай Святлана Абрамчук, якая агучыла і віншаванне ад землякоў — вучняў і настаўнікаў знакамітай Азарыцкай школы, што ў Калінкавіцкім раёне. Юбілярку віталі дырэктар Палаца ветэранаў Яўген Барсукоў, галоўныя рэдактары часопісаў "Вожык" і "Алеся" Юлія Зарэцкая і Тамара Бунто.

Прагучалі песні на словы В. Сакаловай, а таксама аўтарскія — у выкананні салістаў народнага клуба самадзейнай творчасці "Жывіца" Тамары Кашчэвай і Галіны Дораш. Шмат цікавага пра родны палескі край і свой творчы шлях расказала і сама Вольга Міхайлаўна, яна ж прачытала і новыя вершы.

Павел КУЗЬМІЧ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# У творчым асяродку

На чарговым пасяджэнні прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі сярод іншых актуальных пытанняў, датычных дзейнасці арганізацыі, абмяркоўвалася неабходнасць стварэння Камісіі па этыцы.



Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец зазначыў: "Часам паміж нашымі пісьменнікамі ўзнікаюць спрэчкі, канфліктныя сітуацыі на ўзроўні асабістых стасункаў, якія трэба неяк кулуарна вырашаць, не выносячы на публіку, чым і будзе займацца Камісія па этыцы. Гэта нармальная з'ява, і наша памылка ў тым, што мы не стварылі яе раней". Адразу былі аб'яўлены і члены Камісіі: Алесь Савіцкі, Рыгор Саклоўскі, Ніна Чайка, Міхась Пазнякоў, а ўзначаліць яе Анатоль Сульянаў.

Акрамя таго, Мікалай Чаргінец распавёў пра сваю нядаўнюю паездку ў Маскву на пленум Міжнароднага літфонду. Візіт быў насычаны прапановамі аб супрацоўніцтве. "Абмяркоўваліся пытанні жыццядзейнасці Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Мы падрыхтавалі ліст да расійскага ўрада з просьбай выдаткаваць пэўныя сродкі на развіццё гэтай арганізацыі, каб яна функцыянавала рэальна, а не толькі на паперы. Адначасова абмяркоўвалася пытанне аб выхадзе сумеснага рускамоўнага часопіса, і я думаю, трэба адгукнуцца і стварыць у Мінску такое выданне", — адзначыў Мікалай Чаргінец. Ён таксама звярнуў увагу на перспектывы развіцця Саюза пісьменнікаў Беларусі: "Мы атрымалі статус аддзялення Міжнароднага літфонду. Спадзяюся, гэта дапамажа нам у далейшым развіцці. Трэба шукаць сродкі на падтрымку і маладых і ветэранаў, на выданне кніг, пашырэнне нашых конкурсаў, на выдзяленне грашовых прэмій, пэўных грантаў пад канкрэтныя праекты нашых пісьменнікаў. Нам трэба самім навучыцца зарабляць грошы, як гэта адбываецца ў іншых краінах. Ні ў адной краіне пісьменнікаў дзяржава не ўтрымлівае".

Акрамя таго, на пасяджэнні Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі абмяркоўваліся змяненні ў Статуце арганізацыі. У прыватнасці, удакладнілі фармулёўку аб тым, што ў Саюз пісьменнікаў не прымаюцца літаратары, якія з'яўляюцца членамі іншых пісьменніцкіх арганізацый на тэрыторыі Беларусі.

Алена НАЧАЛАВА

Фота Кастуся Дробава

# Аднадумцы — пра святое

У Доме літаратара адбыўся пленум праўлення СПБ на тэму "Подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне на старонках нашай літаратуры". Ва ўступным слове старшыня СПБ Мікалай Чаргінец зазначыў, што хоць мінула шмат год, вырасла не адно пакаленне, але людскія пакуты, самаахвярнасць жывуць у сэрцах сучаснікаў.

Тое, што цяпер стала гісторыяй, патрабуе памяці і глыбокага асэнсавання. Літаратура — невычэрпная крыніца, якая не дае нам забыцца на тыя трагічныя і гераічныя падзеі, жорсткія рэаліі.

Увазе прысутных быў прапанаваны даклад доктара філалагічных навук, акадэміка НАН Беларусі, пісьменніка Уладзіміра Гніламёдава "Подзвіг народа і літаратура".

Пісьменнік Анатоль Сульянаў узняў тэму багатай літаратурнай спадчыны пра вайну і лёсы людзей, расказаў пра так патрэбныя ў сённяшні час сустрэчы з вайскоўцамі, студэнтамі ВНУ, бо на маскультуры не выхаваеш мужнасць і патрыятызм.

Пісьменнік-франтавік Алесь Савіцкі распавёў пра духоўнасць і праўдзівасць народа, пра падзеі мінулай вайны, обальскае падполле. Кіраўнік ваенна-мастацкай студыі пісьменнікаў, якая ўжо шосты год працуе пры Цэнтральным Доме афіцэраў, Яўген Каршукоў падкрэсліў, што цяжка пераацаніць уздзеянне мастацкай літаратуры на фарміраванне асобы воіна, захаванне высокіх маральных якасцей.

Пра работу гродзенскага, віцебскага, брэсцкага, мінскага абласных і мінскага гарадскога аддзяленняў СПБ паведамілі іх старшыні, адпаведна, Людміла Кебіч, Тамара Краснова-Гусачэнка, Анатоль Крэйдзіч, Рыгор Сакалоўскі і Міхась Пазнякоў. Выступоўцы закранулі тэмы Вялікай Айчыннай вайны ў творчасці сваіх калег, прапагандаў кнігі, заклікалі больш увагі надаваць моладзі, у тым ліку творчай, ладзіць разнастайныя конкурсы.

На завяршэнне пленума быў прыняты праект рэзалюцыі, у якой, у прыватнасці, адзначана, што беларуская літаратура ў пасляваенныя гады глыбока і праўдзіва адлюстравала гераічнае мінулае нашага народа, стварыла яркі вобраз абаронца Айчыны на франтах і ў тыле ворага. Нашы адметныя пісьменнікі Янка Купала, Якуб Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшоў, І. Мележ, І. Шамякін, М. Танк, В. Быкаў, П. Панчанка, А. Пысін, А. Вялюгін, А. Бялевіч, А. Астрэйка, К. Кірэенка і многія іншыя майстры слова папоўнілі скарбніцу беларускай літаратуры выбітнымі, уражваючымі творамі.

Пленум лічыць неабходным звярнуць увагу ўсіх пісьменнікаў СПБ, а таксама кіраўнікоў і супрацоўнікаў літаратурнай перыёдыкі, заснавальнікамі якой з'яўляецца Саюз пісьменнікаў Беларусі, на неаслабную актуальнасць тэмы Вялікай Айчыннай вайны, подзвіга народа ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Гераічная тэма і надалей павінна мець глыбокае, яркае і таленавітае ўвасабленне ва ўсіх жанрах літаратуры — у прозе, паэзіі, публіцыстыцы, даведачнай і дакументальнай літаратуры. Творцы выказалі рашучае "НЕ!" тым, хто перакручвае, пераніцоўвае гісторыю, здзекуецца з усенароднага Подзвігу і Памяці пра яго. Пісаць пра вайну праўдзіва — грамадзянскі доўг пісьменніка, бо літаратура застаецца ў стагоддзях, і яна павінна данесці гістарычную праўду будучым пакаленням.

На пленуме таксама было унесена змяненне у Статут СПБ адносна таго, што рэкамендацыі для прыняцця ў СПБ могуць даваць тыя літаратары, "стаж" якіх у творчым саюзе не менш пяці гадоў. Вырашаны некаторыя кадравыя пытанні. Так, Генадзь Пашкоў зацверджаны на пасадзе першага сакратара СПБ, у склад прэзідыума СПБ выбраны Яўген Каршукоў і Уладзімір Навумовіч.

У працы пленума ў якасці запрошаных удзельнічалі Віталь Дашкевіч, галоўны саветнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Наталля Голубева, намеснік начальніка Упраўлення сацыяльна-культурнай сферы Савета Міністраў краіны, Аляксандр Слабадчук, намеснік міністра інфармацыі краіны.

Віктар КАВАЛЁЎ

Працяг тэмы на стар. 4 — 5.

## Пунктырам

•Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" рэдактара аддзела паэзіі часопіса "Нёман" рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" Юрыя Сапажкова.

•Спецыяльныя прэміі для друкаваных і электронных сродкаў масавай інфармацыі вобласці заснаваў Віцебскі абласны выканаўчы камітэт, паведамілі ва ўпраўленні ідэалагічнай работы аблвыканкама. Друкаваныя выданні і іх журналісты, прызнаныя лепшымі, будуць узнагароджаны прэміяй імя Францыска Скарыны, а прадстаўнікі электронных СМІ ўдастоены прэміі "Віцязь". Пераможцаў вызначаць у 6 намінацыях: "Лепшая абласная, аб'яднаная, гарадская газета", "Лепшая раённая газета", "Лепшая студыя тэлебачання (радыёвяшчання)" і г.д.

•Літаратуразнаўца Уладзімір Содаль выдаў кнігу "Блаславёная Кушляны", прысвечаную 170-годдзю Францішка Багушэвіча. Уладзімір Ільіч апісаў адметнасці колішняга фальварка Кушляны ў Смаргонскім раёне. Аўтар лічыць Багушэвіча літаратарам сусветнага маштабу — як, прыкладам, Тарас Шаўчэнка для Украіны. "Іншая рэч, што Беларусь не адно стагоддзе жыла ў паняверцы, прыгнечаная і непрызнаная. Адсюль і такі слабы водгалас у свеце пра яе лепшых сыноў", — адзначыў ён. Цяпер У. Содаль працуе над чарговай кнігай "Даследніцкія дэтэктывы", у якой таксама звяртаецца да постаці аўтара "Дудкі беларускай".

•Канцэпцыю кансервацыі руін Навагрудскага замка адобрылі ўдзельнікі Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады пры Міністэрстве культуры, паведамляе БелТА. Па словах навукоўца кіраўніка прац на аб'екце Сяргея Друшчыца, першае, што трэба зрабіць у бліжэйшыя два гады — правесці кансервацыю рэшткаў вежаў. Праца можа быць пачата сёлета пры ўмове правядзення гідралагічных і інжынерных даследаванняў. Другім крокам стане раскрыццё захаваных пад культурным слоем рэшткаў іншых вежаў. Пры наяўнасці фінансавання — рэканструкцыя Навагрудскага замка зойме каля 5 гадоў.

•У Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Ф. Багушэвіча адбылася раённая канферэнцыя пад назвай "Францішак Багушэвіч. Гонар і годнасць беларусаў", прымеркаваная да 170-годдзя з дня нараджэння пачынальніка новай беларускай літаратуры. У мерапрыемстве ўдзельнічалі даследчык жыцця і творчасці класіка Уладзімір Содаль, калекцыянер, даследчык ашмянскай шляхты Васіль Юрша, навуковы супрацоўнік музея Ірына Буславіч, паэт Пётр Шакола, а таксама настаўнікі, бібліятэкары і вучні Ашмяншчыны.

Падрыхтавалі Павел РАДЫНА і Саша ДОРСКАЯ

Рэспубліканскае дзяржаўна-грамадскае аб'яднанне "Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў" (РДГА "БТПР") аб'яўляе конкурс на лепшы тэкст і музыку для гімна РДГА "БТПР". Конкурсныя творы павінны адлюстроўваць велічнасць і прыгажосць прыроды, раскрываць значнасць дзейнасці паляўнічых і рыбаловаў у захаванні і памнажэнні прыродных багаццяў, мець інтанацыйна-меладычную выразнасць, урачыстасць, рытм шэсця, запамінальнасць.

Тэкст гімна павінен быць на беларускай мове. Пераможцы конкурсу ўзнагароджваюцца прэміяй у памеры 30 базавых велічынь.

Конкурсныя творы прымаюцца ў РДГА "БТПР" да 20 мая 2010 года па адрасе: г. Мінск, завулак Калініна, 16.

Кантактны тэлефон: 281-72-54

## Літ-абсягі

# У краіне дойлідаў

**У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя выдання "Архітэктура Беларусі: нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэксце" (у 4-х тамах, 6 кнігах), якое выходзіла на працягу 2005 — 2009 гг. у Выдавецкім доме "Беларуская навука".**



У гэтай шматтомнай працы ўпершыню сфарміравана навукова абгрунтаваная канцэпцыя развіцця архітэктуры Беларусі — ад вытокаў да сучаснасці. У кнігах шматбакова і комплексна раскрыта эвалюцыя горадабудаўніцтва, архітэктуры грамадскіх і жылых будынкаў, сакральнага дойлідства, прамысловай архітэктуры, традыцыйнага народнага дойлідства і архітэктуры дарог. Над выданнем працавалі вядучыя вучоныя Беларусі ў галіне архітэктуры і мастацтвазнаўства.

Як адзначыла намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь па інфармацыйных рэсурсах Таццяна Кузьмініч, гэта выданне — не проста чарговы друкаваны твор, а кнігі знакавыя, бо адлюстроўваюць яны цэлы пласт развіцця краіны.

Пра працэс стварэння выдання ад узнікнення задумы да яе рэалізацыі расказаў яго навуковы рэдактар член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, доктар архітэктуры, прафесар Аляксандр Лакотка. Ён заўважыў, што працы такога кшталту не вызначаюцца ў адначчассе аматарскім жаданнем, іх выданню папярэднічае ўся гісторыя архітэктуры, што складвалася ў краіне на працягу тысячагоддзя.

У прэзентацыі выдання прымалі ўдзел і аўтары асобных яго раздзелаў дактары архітэктуры Армэн Сардараў, Георгій Патаеў, Валерый Марозаў, Алена Марозава, Ірына Іода, Юрый Чантурыя, дактары мастацтвазнаўства Тамара Габрусь, Анатоль Кулагін, Ала Шамрук ды іншыя.

Кнігі багата ілюстраваны каляровымі і чорна-белымі малюнкамі, схемамі, планамі, картаграфічнымі матэрыяламі. Выданне разлічана на архітэктараў, мастацтвазнаўцаў, культуролагаў, шырокі круг чытачоў. Гэтыя кнігі могуць служыць выдатнай крыніцай ведаў па гісторыі, культуры, архітэктуры, бо грунтуюцца яны на выніках найноўшых архітэктуразнаўчых даследаванняў, прадстаўляюць новы мастацтвазнаўчы падыход у архітэктуры, і, па сутнасці, з'яўляюцца першым навуковым выданнем па гісторыі архітэктуры Беларусі.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Аляксандр Лакотка расպавядае пра выданне.

Фота аўтара

## Арт-лінія

**Магілёўская гарадская капэла, мастацкім кіраўніком і дырэктарам якой ад пачатку стварэння калектыву з'яўляецца дырыжор Сяргей Лішчэнка, на працягу больш як двух дзесяцігоддзяў знаёміць слухачоў горада і вобласці з лепшымі ўзорамі музычнай класікі, а таксама з найбольш цікавымі творамі сучасных беларускіх кампазітараў.**



# Каханне. Музыка. Вясна…

Свой высокі музычны аўтарытэт Магілёўская гарадская капэла падтрымлівае ўвесь час. Яна — лаўрэат многіх міжнародных конкурсаў і фестываляў, якія ладзіліся як у Беларусі, так і ў іншых краінах. Сярод сур'ёзных творчых дасягненняў калектыву — канцэртнае выкананне опер "Дзідона і Эней" Г. Пёрсела, "Арфей і Эўрыдыка" Х. В. Глюка, пастаноўка сатырычнай оперы Д. Шастаковіча "Антыфармалістычны раёк".

У рэпертуры капэлы кантаты і араторыі А. Вівальдзі, І. С. Баха, Ф. Мендэльсона, імшы і 12 Лондансккіх сімфоній Ё. Гайдна, сімфоніі В. А. Моцарта і Л. ван Бетховена, творы Ф. Шуберта. Па ініцыятыве капэлы ў горадзе ладзяцца фестывалі "Bach-collegium", прысвечаныя славутаму кампазітару, а таксама Фестываль праваслаўнай музыкі, прысвечаны памяці архіепіскапа Георгія Каніскага.

Адметная старонка рэпертуару магіляўчан — творы айчынных кампазітараў: Уладзіміра Карызны, Аліны Безенсон, Уладзіміра Саўчыка, Віктара Кажухара. Нядаўна ў Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава аркестр, хор і салісты калектыву пад кіраўніцтвам С. Лішчэнкі прэзентавалі творы вядомага беларускага кампазітара Алены Атрашкевіч, напісаныя ёю на вершы паэтэсы Таццяны Мушынскай. З імі калектыў звязвае шматгадовае супрацоўніцтва. Праграма ўключыла розныя жанры: арыгінальныя апрацоўкі беларускіх народных песень, зробленыя кампазітарам, рамансы ў выкананні салістаў Аксаны Юрчанкі і Дзмітрыя Радзевіча (партыя фартэпіяна — Алена Касаткіна), акапэльныя творы для жаночага і змяшанага хораў ("Мак таўклі камары", "Ты спявай, непрыкметная птушка" і інш.).

Сапраўднай эмацыйнай і сэнсавай кульмінацыяй вечарыны зрабілася выкананне маштабнага, дзевяцічасткавага музычнага твора — вакальна-сімфанічнай паэмы "Кахаю…", напісанай А. Атрашкевіч на вершы Т. Мушынскай у 2002 — 2004 гг. Яна двойчы выконвалася ў Мінску Дзяржаўным камерным хорам Беларусі. Але калі ў сталіцы быў увасоблены толькі клавір (хор спяваў у суправаджэнні фартэпіяна), дык магіляўчане годна ўвасобілі і партытуру. Камерны, а па сутнасці, малы сімфанічны аркестр, хор і салісты Алена Макаранка і Дзмітрый Радзевіч перадалі трапятліва-маляўнічую прыгажосць аркестравых і харавых фарбаў, меладыйнае багацце твора, увасобілі гісторыю ўзаемаадносін Яе і Яго, узнёслую гісторыю кахання, якая адлюстравалася ў гармоніі музыкі і слова. Цікавасць слухачоў выклікала і прысутнасць на прэм'еры аўтараў — А. Атрашкевіч і Т. Мушынскай, і шматлікія вершы, што прагучалі ў выкананні паэтэсы. Вечарыну ў музеі П. Масленікава вяла музыказнаўца Вольга Марозава.

Новая праграма капэлы прысвячалася XV з'езду Беларускага саюза кампазітараў, які адбудзецца ў лістападзе.

Ірына САЛАЎЁВА

На здымку: Таццяна Мушынская, Сяргей Лішчэнка і Алена Атрашкевіч пасля вечарыны.

Фота аўтара

## Повязі

# Нармандыя… Мінск

**Нацыянальны мастацкі музей Беларусі беспярэпынна радуе сваіх наведвальнікаў новымі экспазіцыямі як айчынных, так і замежных творцаў. Днямі тут адкрылася адметная выстаўка "Нармандыя ў жывапісе", якой папярэднічала прэс-канферэнцыя з удзелам прадстаўнікоў мастацтва Беларусі і Францыі.**

Як зазначыў прэзідэнт калекцыі "Нармандыя ў жывапісе", віцэ-прэзідэнт Рэгіянальнага Савета Ніжняй Нармандыі Ален Турэ, увазе беларускай публікі ў дзвюх залах прадстаўлены 60 карцін, створаныя французскімі мастакамі, сярод якіх Гюстаў Курбэ, Жан-Батыст Каміль Каро, Клод Манэ, Шарль Дабіны ды іншыя, з 1850 па 1950 год. Яны прысвечаны Нармандыі і адлюстроўваюць прыгажосць і разнастайнасць прыроды гэтага рэгіёна.

Увогуле, стварэнне унікальнай для Францыі калекцыі распачалося ў 1992-м. Цяпер яна аб'ядноўвае каля 120 твораў мастакоў 1750 — 1950-х гадоў. Кожны яе экспанат звязаны з Нармандыяй, якая стала крыніцай натхнення і творчых пошукаў для шматлікіх майстроў.

Генеральны куратар выстаўкі, дырэктар калекцыі "Нармандыя ў жывапісе", галоўны захавальнік Палаца мастацтваў г. Ліля Ален Тап'е адзначыў, што дадзеныя творы — гэта лепшае, што ёсць у імпрэсіяністаў. Яны не самыя яркія, не самыя прыгожыя, але яны самыя моцныя па сваім уздзеянні і ўражанні. Работы ствараліся не для шырокага гледача, а спецыяльна для сапраўдных знаўцаў мастацтва…

Міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў успрыняў адкрыццё выстаўкі як новы знак у адносінах паміж нашай краінай і Францыяй: "Сённяшняя падзея — гэта адлюстраванне ўзаемнай цікавасці Беларусі і Францыі да культуры адна адной, цікавасці, якая грунтуецца не толькі на гісторыі, але ў значнай ступені і на сучаснасці".

Намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі ўпэўнены, што дадзены праект адкрые цэлую серыю мастацкіх выставак у абедзвюх краінах. Так, сёлета запланавана правядзенне выстаўкі беларускага мастака Івана Хруцкага ў штаб-кватэры ЮНЕСКА, а таксама шэраг праектаў, якія будуць рэалізаваны сумесна з парыжскім Луўрам.

У сваю чаргу Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Беларусі Мішэль Рэнеры зрабіў акцэнт на тым, што "Нармандыя ў жывапісе" — значны франка-беларускі культурны праект. Выстаўка задумана як крытычны нарыс пра мастакоў, пра іх творчасць і ўспрыманне прыроды. На гэтых карцінах легенда сустракаецца з гісторыяй, Еўропа — са сваёй культурнай спадчынай, прыгажосць — з творчасцю.



Да слова, арганізацыя экспазіцыі заняла амаль два гады. Яна выстаўлялася ў ЗША, Японіі, Італіі, скандынаўскіх краінах. З поспехам экспанавалася ў Таліне і Рызе, адкуль і завітала ў Мінск — апошнюю кропку сусветнага турнэ.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Ален Тап'е, саветнік па супрацоўніцтве і культуры Пасольства Францыі ў Беларусі Людавік Руае і Ален Турэ.

Фота аўтара

## З-пад пяра

Першы Цэнтр беларускай культуры імя Кастуся Каліноўскага адкрыўся ў Лацінскай Амерыцы ў аргенцінскім горадзе Лаваёль (правінцыя Буэнас-Айрэс), паведамляе БелТА. Яго дырэктарам стаў этнічны беларус Эдуарда Пенісі. На ўрачыстым адкрыцці Часовы Паверэны ў справах Рэспублікі Беларусь у Аргенцінскай Рэспубліцы Георгій Кісляк выказаў упэўненасць, што цэнтр зробіць значны ўклад у папулярызацыю беларускай культуры не толькі сярод этнічных беларусаў, але і мясцовага насельніцтва. У цэнтры плануецца праводзіць урокі музыкі і народных спеваў, навучаць разьбе па дрэве, жывапісу, вышыўцы, гісторыі і культуры нашай краіны.

Віктар ЗАЯЦ

У Гомельскай спецыялізаванай славянскай бібліятэцы адбыўся літаратурны вечар таленавітай пісьменніцы Таццяны Нілавай. Яна прадставіла слухачам Школы маладога літаратара свой першы зборнік вершаў "Готыка тонкіх падманаў". Гэта, безумоўна, адкрыццё ў нашай літаратуры: паэтэса здолела адысці ад класічных формаў напісання, не страціўшы пры гэтым пяшчоты і гучнасці роднай мовы. У Таццяны выдатны голас, у чым можна было пераканацца, калі яна праспявала некалькі песень на сваё вершы. Таксама на вечары былі прадстаўлены і кліпы на некаторыя творы. Удала падабраныя фатаграфіі адлюстроўвалі сэнс вершаў і ўнутраны свет аўтара, яе незвычайны погляд на жыццё… Кіраўнік Школы маладога літаратара Ніна Шклярава пазнаёміла ўсіх прысутных з гасцямі вечарыны: членамі СПБ Ганнай Атрошчанкай і Лідзіяй Возісавай, з паэтам Уладзіславам Шышыгіным.

Крысціна ЛАКІЗО

Ад невялікага пакоя-чытальні ў інтэрнаце гомельскага вытворчага прадпрыемства "Святлотэхніка" БелТІЗ да сучаснай спецыялізаванай бібліятэкі для інвалідаў па зроку, якая сёлета заняла паўнапраўнае месца ў ЦБС горада, — такі шлях прайшла 50-гадовая "кніжная" юбілярка. Якраз гэтая знамянальная дата і сабрала сяброў бібліятэкі, каб згадаць тых апантаных людзей, якія ў розныя перыяды яе ўзначальвалі: напачатку па сумяшчальніцтве гэта была камендант інтэрната Клаўдзія Пісчык, потым — Людміла Краўчанка і Якаў Ткачоў. І вось ужо трыццаць гадоў кіруе ўстановай Людміла Шарамет. Музычны віншаванні бібліятэцы адрасавалі самадзейныя артысты прадпрыемства, лаўрэаты і дыпламанты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў: ансамбль народнай песні "Крынічанька", салісты Вольга Пасенка, Ірына Шусцікава, Аляксандр Шапавалаў... Гучала і паэтычнае слова — вершы прачыталі Міхась Болсун і Анатоль Зэкаў.

Лізавета ШЫЛАЙ

Дзіцячая бібліятэка № 15, якая знаходзіцца ў сталічным мікраараёне Малінаўка, актыўна супрацоўнічае з беларускімі літаратурнымі выданнямі. Тут часта праводзяцца цікавыя мерапрыемствы з удзелам вядомых людзей. Вось і нядаўна, напярэдадні Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі і Дня гумару, адбылася сустрэча вучняў, настаўнікаў СШ № 206 з супрацоўнікамі альманаха "Вожык", пісьменнікам Паўлам Саковічам. Па прапанове рэдакцыі ў бібліятэцы была аформлена выстава вожыкаўскіх малюнкаў і коміксаў. Госць расказаў юным чытачам пра альманах, сваё маленства, творчасць і новыя кнігі. Ён прэзентаваў чытачам раздзел дзіцячага гумару альманаха "Вожык" — "Вясёлы Калючык". З задавальненнем слухалі дзеці новыя вершы пісьменніка, разгадвалі гумарыстычныя загадкі. На развітанне юныя чытачы атрымалі кнігі з аўтографам аўтара.

Ларыса АСТАПЕНКА



# Невычэрпная крыніца патрыятызму

Прапануем увазе чытачоў "ЛіМа" тэкст уступнага слова старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца на пленуме праўлення СПБ "Подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне на старонках нашай літаратуры".

Паважаныя калегі! Падчас падрыхтоўкі да пленума Саюз пісьменнікаў Беларусі пры падтрымцы Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь правёў знакавую акцыю, своеасаблівы творчы дэсант — прадстаўнічая група пісьменнікаў пабывала ў буйным цэнтры падрыхтоўкі воінаў і выступіла перад імі. Тэма была такая ж, прыблізна, як і на нашым пленуме. Было некалькі вялікіх аўдыторый, а гэта звыш тысячы афіцэраў і воінаў… Пісьменнікаў кранула цеплыня сустрэч і ўзаемаразуменне людзей у форме, якіх аддзяляюць многія дзесяцігоддзі і ад вайны і ад Перамогі.

Тэма нашага пленума выклікана і знамянальнай датай — 65-годзем Вялікай Перамогі савецкага народа над нямецка-фашысцкімі захопнікамі і, скажам прама, жыццёвай неабходнасцю, паколькі ў свеце, дый у нас, знаходзяцца сілы, якія імкнуцца сказіць і перапісаць гісторыю, прынізіць подзвіг нашага народа.

Словы класіка "большое видится на расстоянии", відаць, прыдатныя і да тэмы нашага сённяшняга абмеркавання. Здавалася б, і баі даўно адгрымелі, і раны зарубцаваліся, і ўжо не адно пакаленне "неабстраляных" вырасла, якіх, магчыма, і не вельмі хвалюе мінулае… І ўсё ж тая вайна, пакуты людскія, самаахвяраванне нашага народа жыве ў сэрцах сучаснікаў. Тое, што цяпер перайшло ў разрад гістарычны, — жывое, канкрэтнае жыццё нашых бацькоў і дзядоў, а значыць, і наша з вамі жыццё, а яно патрабуе і Памяці, і глыбокага асэнсавання.

Літаратура, сапраўдная літаратура — гэта тая невычэрпная крыніца, якая не дае, каб трагічныя і гераічныя падзеі апошняй вайны сышлі ў нябыт.

Сёння мы з удзячнасцю згадваем імёны нашых пісьменнікаў, якія і самі былі ўдзельнікамі баёў, і асэнсавалі вайну, перадалі яе навальнічна-маланкавае дыханне ў сваіх вершах, паэмах і раманах.

Многія класікі нашай літаратуры з першых дзён вайны ўключыліся ва ўсенародную барацьбу, прыраўняўшы да баявога штыка сваё пяро.

Ужо ў чэрвені 1941 года газеты надрукавалі гнеўныя публіцыстычныя словы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Яны выкрывалі і ганьбілі вераломных захопнікаў, заклікалі савецкі народ паўстаць супраць фашысцкага ярма.

Ужо на пачатку вайны магутным заклікам гучалі паэтычныя радкі Янкі Купалы:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

У тыле ворага, у Маскве, а потым у прыфрантавой паласе ў Беліцы пад Гомелем і ў Мінску выдавалася знакамітая газета-плакат "Раздавім фашысцкую гадзіну". Рэдактарамі газеты-плаката былі Міхась Чавускі і Кандрат Крапіва. Нашы пісьменнікі Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Анатоль Астрэйка, Антон Бялевіч, Ільля Гурскі, Максім Лужанін, Міхась Машара праз гэту газету-плакат падымалі баявы дух землякоў-беларусаў, якія змагаліся на франтах і ў партызанскіх атрадах глыбока ў тыле ворага.

Многія пісьменнікі, як прыкладам, народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў, працавалі ў армейскіх газетах, бывалі на перадавой і ведалі вайну не па чутках. І невыпадкова так кранала душу і сталі хрэстаматыйнымі паэма А. Куляшова "Сцяг брыгады" і глыбока патрыятычны ягоны верш "Камсамольскі білет". Стала хрэстаматыйнай і да сёння кранальнай паэма Петруся Броўкі "Голас сэрца", прысвечаная маці, якую спалілі вылюдкі роду чалавечага ў Асвенціме.

А вазьміце нашых пісьменнікаў, якія толькі набіраліся сілы, былі на сваім творчым узлёце — Мікола Сурначоў, Змітрок Астапенка, Алесь Жаўрук, Хвядос Шынклер і шмат якія іншыя маладыя таленты — загінулі, не вярнуліся з поля бою. Іхнія партрэты — у гэтай Мемарыяльнай зале, дзе адбываецца наш пленум, гэтак жа як і партрэты тых пісьменнікаў, хто прайшоў франтавымі дарогамі, адлюстраваў у сваіх творах і ўсенародную трагедыю, і ўсенародны подзвіг.

Згадаем раман Міхася Лынькова "Векапомныя дні", раманы Івана Шамякіна "Глыбокая плынь" і "Зеніт", Івана Навуменкі "Сасна пры дарозе", партызанскую трылогію Алеся Савіцкага "Верай і праўдай", ягоны дакументальны раман "Обаль", раманы і аповесці Васіля Быкава "Альпійская балада", "Здрада", "Трэцяя ракета".

Згадаем дакументальную аповесць пісьменніка-франтавіка Івана Новікава "Руіны страляюць ва ўпор" — пра мінскіх падпольшчыкаў. Гэты твор вярнуў з небыцця імёны шмат каго з герояў мінскага падполля — пяцёра з іх удастоены звання Героя Савецкага Саюза, многія з іх рэабілітаваныя.

Згадаем пранікнёныя вершы Пятра Глебкі, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Анатоля Вялюгіна, Аляксея Пысіна, Алеся Бажко ды многіх іншых нашых калег-пісьменнікаў…

А згадаем далей — творча ўзрасло потым новае пакаленне празаікаў і паэтаў. Яны не ваявалі, але бачылі вайну сваімі ўражлівымі дзіцячымі вачыма і ўспрымалі яе сваімі чуйнымі душамі. Гэта — цэлая плеяда выдатных празаікаў і паэтаў: Іван Чыгрынаў з яго раманамі "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", Іван Пташнікаў са сваімі кнігамі пра вайну "Тартак" і "Найдорф", Барыс Сачанка з яго раманам "Вялікі лес". У гэтым жа пераліку — Сцяпан Гаўрусёў, Еўдакія Лось, Уладзімір Карызна, Валянцін Лукша, Уладзімір Скарынкін, ды і самыя маладыя не абыходзяць гэтую тэму — вайна закранула і іхнія душы.

Вельмі кранальна, што пісьменнікі-франтавікі, якія, дзякаваць Богу, яшчэ жывуць побач з намі, не задавальняюцца сваімі былымі творчымі набыткамі, але актыўна працуюць, выдаюцца і сёння — Уладзімір Федасеенка, Аляксандр Суслаў, Анатоль Сульянаў, Анатоль Дзялендзік, Алесь Савіцкі. Іхнія творы ўжо выдадзены ў нашай серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі", а да Дня Вялікай Перамогі ў свет выйдуць кнігі пісьменнікаў-франтавікоў Міколы Іванова, Юрыя Іванова, Анатоля Кузьмічова.

Прыемна паведаміць, што напярэдадні сённяшняга пленума прэзідыум СПБ вырашыў аб'явіць спецыяльны конкурс для пісьменнікаў-ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. На конкурс — ён будзе доўжыцца на працягу года — будуць прымацца творы, што выйшлі з друку ў 2009 — 2010 гадах. Мяркуецца ўстанавіць тры асноўныя і дзве заахвочвальныя грашовыя прэміі.

Творы на тэму Вялікай Айчыннай вайны, несумненна, ствараюць шырокую літаратурную панараму таго суровага часу, яскрава паказваюць мужнасць і незвычайны патрыятызм нашага народа, яго адданасць роднай зямлі, Айчыне.

Неўзабаве мы адсвяткуем 65-годдзе Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Няхай жа наш сённяшні пісьменніцкі пленум, наша творчасць будуць найвялікшай удзячнасцю тым, хто здабыў Вялікую Перамогу!

На здымку: у Мемарыяльнай зале СПБ — падчас працы пленума.

Фота Кастуся Дробава

# Подзвіг

Ç äàêëàäàì íà ïëåíóìå ïðà¢ëåííÿ Ñàþçà ï³ñüìåíí³êà¢ Áåëàðóñ³ "Ïîäçâ³ã íàðîäà ¢ Âÿë³êàé Àé÷ûííàé âàéíå íà ñòàðîíêàõ íàøàé ë³òàðàòóðû" âûñòóï³¢ äîêòàð ô³ëàëàã³÷íûõ íàâóê, àêàäýì³ê ÍÀÍ Áåëàðóñ³, ï³ñüìåíí³ê Óëàäç³ì³ð Ãí³ëàì¸äà¢. Прапануем увазе чытачоў тэкст даклада ў скарочаным варыянце.

Спаўняецца 65 гадоў з таго векапомнага дня, калі скончылася вялікая вайна, калі гром салюта абвясціў перамогу савецкага народа над германскім фашызмам і яго сатэлітамі, і над краінай пасля чатырох гадоў ваеннага ліхалецця, найцяжэйшых выпрабаванняў, заззяла, нарэшце, блакітнае майскае неба. Беларусь першаю 22 чэрвеня 1941 года прыняла на сябе ўдар ворага. Гітлераўцы накіравалі на ўсход супраць СССР жудасную ваенную машыну, якая дзейнічала з асаблівай жорсткасцю і бязлітаснасцю. Подзвіг народа, які супрацьстаяў ёй і перамог, не забудзецца ніколі.

Вялікі ўклад у справу Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне ўнесла літаратура. Вайна, трэба прызнаць, вярнула ў літаратуру страчаную ў 30-я гады рэальнасць і праўду чалавечага жыцця. Перш за ўсё праўду гераічных паводзін чалавека, павагу да чалавечых каштоўнасцей, якія сталі асновай многіх мастацкіх вобразаў таго часу.



Гэта быў суровы час, але ў маральным сэнсе чысцейшы, чым папярэдні перыяд. Менш даводзілася лгаць. Галасы паэтаў і празаікаў загучалі больш праўдзіва, адкрыта і пераканаўча. Літаратура развівалася, брала новыя эстэтычныя вышыні, імкнучыся да выключнай эмацыянальнай напоўненасці, смеласці думкі, слова. Яна апявала гераізм, мужнасць, выхоўвала нянавісць да бязлітаснага і жорсткага ворага і гаварыла пра родны край.

Успамінаецца верш М.Сурначова "У стоптаным жыце", напісаны ім у жніўні 1941 года на Заходнім фронце:

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.
Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.
Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце, —
Ёй не кажыце…

Кароткі верш. А які ён шматгранны па сваім эмацыянальна-псіхалагічным напаўненні, па глыбіні гістарычных сувязей.

Немагчыма пералічыць усё, вартае ўвагі, што было створана пісьменнікамі як прамы, непасрэдны водгук на падзеі Вялікай Айчыннай вайны і ў той жа час прасякнутае ідэямі, што не страцілі свайго значэння і для нашага часу. Паэзія перыяду вайны не магла абмежавацца толькі агітацыйна-заклінальнымі вершамі і інтанацыямі. Каб выразіць народны лёс, яна павінна была па-сапраўднаму заглыбіцца ў духоўную свядомасць народа.

Жанр ваеннай паэмы запачаткаваў куляшоўскі "Сцяг брыгады" (1942), з уласцівай яму верай у тое, што чалавек можа перамагчы ў безнадзейных абставінах.

Навелістыка ваеннай пары прадстаўлена апавяданнямі Якуба Коласа, К. Чорнага, М. Лынькова, І. Гурскага, А. Стаховіча, І. Мележа, І. Шамякіна і іншых пісьменнікаў.

У вершах і паэмах, апавяданнях і аповесцях таго часу паўстае эстэтычна выключна багаты і шматгранны вобраз Беларусі. У паэзіі зноў узнікаюць купалаўскія матывы курганоў, зязюлі, жалейкі. Пашыраецца гістарычная даль памяці, узмацняецца адчуванне гераічных традыцый.

Літаратура перыяду вайны свядома паставіла сваёй мэтай служэнне народу, здолела ў самых трагічных абставінах і варунках вайны знайсці правільны тон, устанавіць даверлівыя кантакты з чытачом, стаць магутным акумулятарам вітальнай сілы і энергіі.

Выдатная з'ява беларускай літаратуры — раманы К. Чорнага перыяду Вялікай Айчыннай вайны: "Пошукі будучыні" (1943), "Вялікі дзень" (1944), "Млечны Шлях" (1944). Аўтар пільна ўглядаецца ў сваіх герояў, выпрабоўвае іх на чалавечнасць, даследуе якасці і магчымасці чалавека. Мастацкая літаратура пра Вялікую Айчынную вайну мае выразнае жанравае вызначэнне: ваенна-гістарычная літаратура. Вобразна кажучы, яна махае двума крыламі: адно крыло — летапіс, другое — чалавеказнаўства. Летапіс вайны запачаткаваўся ў ёй яшчэ ў час вайны. К. Чорны развіваў чалавеказнаўчыя магчымасці літаратуры, цікавасць да ўнутранага, псіхалагічнага жыцця асобы.

У пасляваенны час сталася так, што чорнаўская праблематыка, на жаль, аказалася слаба запатрабаванай у літаратуры, развіццё якой пайшло іншым шляхам. Ды і падзейна-адлюстравальны бок таксама аказаўся не на вышыні.

Праўда вайны не адразу знайшла дарогу на старонкі літаратурных твораў, доўга шкодзіла прыблізнасць у яе паказе, лішак ідэалагічнай нагрузкі, тэндэнцыйнасць, канфармізм.

Часта замінала рыторыка, непатрэбнае "майстэрства", якое больш працавала ўхаластую, белетрыстыка, залішняе "шчыраванне" рэдактараў, калі жывое, разгалінаванае дрэва ператваралася ў гладкі тэлеграфны слуп. Паспелі аднак убачыць свет буйныя празаічныя творы на гэтую тэму — раманы і аповесці "Братэрства" (1948) Т. Хадкевіча, "Глыбокая плынь" (1949) І. Шамякіна, "Згуртаванасць" (1951) М. Ткачова, "Без нейтральнай паласы" (1950) У. Карпава, "Насустрач" (1951) У. Шахаўца, "Мінскі напрамак" (1952) І. Мележа, "Векапомныя дні" (першая частка, 1951) М. Лынькова, дылогія А. Кулакоўскага "Расстаёмся ненадоўга" (1955) і "Сустрэчы на ростанях" (1962) і інш.

Звяртаючыся да гістарычнага вопыту барацьбы з фашызмам, беларуская проза, нягледзячы ні на што, акумулюе ў сабе многія характэрныя рысы літаратуры ў цэлым. Гэта перш за ўсё засяроджанасць на паказе чалавечай стойкасці, грамадзянскага абавязку і самаахвярнасці. Гераізм у гэтых кнігах выглядаў як вельмі зразумелае, цэласнае паняцце. Фактапагічная аснова ў гэтых і іншых тагачасных творах была яўна недастатковая, няпоўная, што часткова кампенсавалася мастацкім вымыслам, які, аднак, не заўсёды абапіраўся на праўду жыцця.

60-я гады фарміруюць у значнай ступені новы вобраз Вялікай Айчыннай вайны, вопыт якой не страчвае сваёй надзённасці, але яго ацэнка аказваецца больш складанай і неадназначнай, і гэта прынцыпова. Публікацыя ўспамінаў франтавікоў, партызанаў, сведчанні жыхароў спаленых вё-

# народа і літаратура

сак і былых вязняў лагераў смерці праліваюць святло на падзеі, пакінутыя без увагі ў момант усеагульнай пераможна-парадная эйфарыі, на факты, якія сведчылі пра тое, што вайна была куды больш жудасная і бессэнсоўная, чым гэта здавалася раней.

На мяжы 50–60-х гадоў з'явілася гэтак званая "лейтэнанцкая проза" — В. Быкаў, Г. Бакланаў, Ю. Бондараў і інш., якія глядзелі на свет вачыма мільёнаў людзей, што апынуліся ва ўмовах вайны. Трэба было паказаць перажытае імі, рэальныя будні і цяжкасці, якія выпалі на іх долю.

Творам, напісаным у час вайны і адразу пасля яе, па гарачых слядах часу ў большасці выпадкаў бракавала глыбіні маральнага погляду на рэчы, спалучанасці агульнага, генеральнага плана паказу падзей з індывідуальным вопытам удзельнікаў. У 60-я гг. літаратура робіць другі заход у асэнсаванні вайны.

У 1960 г. убачыла свет аповесць В. Быкава "Жураўліны крык", наступнымі былі "Здрада" і "Трэцяя ракета" (1962), "Мёртвым не баліць" (1965), "Праклятая вышыня" і "Круглянскі мост" (1968) і інш. Яны ствараліся на грунце асабістага ваеннага вопыту пісьменніка, які паказаў вайну такой, якой сам яе бачыў, ведаў і помніў, — з яе трагедыямі, жорсткасцю, кроўю і з яе гераізмам. Сюжэтны аповед арганізоўваўся вакол аднаго якога-небудзь, часам нязначнага з пункта погляду агульнай стратэгіі вайны, эпізода, а для ўсяго палатна былі характэрныя рэалістычныя верагоднасць паказу, праўдзівасць, яскравасць і сакавітасць фарбаў.

Новым словам у сусветнай літаратуры пра Вялікую Айчынную вайну з'явіліся раманы І. Навуменкі "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах", "Сорак трэцці", А. Адамовіча "Вайна пад крышамі", "Сыновья уходят в бой"; "Вогненны азімут" А. Асіпенкі, творы "дзяцей вайны" — І. Чыгрынава "Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужыя", І. Пташнікава "Тартак", "Найдорф", Б. Сачанкі "Апошнія і першыя" і многія іншыя. Мастацкія асаблівасці гэтых твораў — аўтабіяграфізм, хранікальнасць, спалучэнне бытапісу і мастацкага філасафізму.

Пра апаленае ваеннай дзяцінства пісалі Іван Навуменка, Віктар Казько, Яўген Каршукоў, Міхась Парахневіч, Валянцін Мыслівец, Уладзімір Федасеенка — аўтар некалькіх цікавых раманаў, напоўненых вострай жыццёвай і сацыяльнай праблематыкай.

Шмат зрабіў для распрацоўкі ваенна-гістарычнай тэматыкі прадстаўнік пакалення партызанаў і франтавікоў Алесь Савіцкі. Ён аўтар надзвычай цікавай трылогіі пра сваю партызанскую маладосць — раманаў "Верай і праўдай", "Літасці не чакай" і "Памерці заўсёды паспееш", створаных у 70-я гады. І гэта яшчэ далёка не ўсё. Пра першыя месяцы вайны на Беларусі — раман "Верасы". Лёс беларускай жанчыны на вайне паказаны ў рамане "Зямля не раскажа". Аповесці "Белая знічка" і "Узаранае поле" расказваюць пра ўдзел моладзі ў партызанскім руху. Раман "Обаль" прысвечаны паказу гераічнага змагання камсамольска-маладзёжнага падполля на станцыі Обаль; твор дакументальны, захаваны прозвішчы рэальных герояў. Творы А. Савіцкага перакладзены на рускую мову, выдадзены ў Маскве. Галоўная іх вартасць, на маю думку, праўдзівасць.

Дужэе тое крыло літаратуры, якое звязана з чалавеказнаўчымі памкненнямі пісьменнікаў.

Мікалай Чаргінец таксама намала напісаў, але, на мой погляд, самы сардэчны, самы душэўны яго твор — гэта дылогія, якая складаецца з раманаў "Вам — заданне" і "За секунду да стрэлу".

У ёй апавядаецца аб простых, але мужных людзях, што жылі і дзейнічалі ў адказныя моманты гісторыі — пачатак аповеда адносіцца да лета 1941 года. Героі дылогіі разам з усім народам ідуць праз вайну, пераадольваючы пасляваенныя нягоды, цяжкасці, працуюць не пакладаючы рук, аднаўляючы краіну, як умелі працаваць людзі ў той час. У кожнага з іх свая доля, свой лёс. Сфера пісьменніцкай кампетэнцыі ў гэтых раманах — чалавек, яго маральны воблік, асаблівасці характару, прафесіяналізм, супрацьстаянне сілам зла. Дылогія "Вам — заданне" і "За секунду да стрэлу" за два прыкладна апошнія дзесяцігоддзі выдавалася больш як дваццаць разоў. Твор атрымаў мноства станоўчых водзываў у прэсе. Пісалі і В. Быкаў, і І. Чыгрынаў, і І. Мележ, і М. Матукоўскі, і А. Макаёнак, і П. Якубовіч ды многія іншыя.

Яшчэ адно імя — Мікола Аўрамчык. Паэт, ён даў, як любіў у такіх выпадках казаць незабыўны Піліп Пестрак, нечаканасць, апублікаваў раман "У падзямеллі" і аповесць "Палон", створаныя на матэрыяле драматычнай ваеннай біяграфіі аўтара.

Галоўная вартасць гэтых створаных у 80-я гады раманаў — праўдзівасць. Аўтар гаворыць пра ўсё так, як яно было на самай справе, і ў гэтым сэнсе твор М. Аўрамчыка нагадвае мне (у добрым сэнсе) аповесць К. Вараб'ёва "Гэта мы, госпадзі!..", якая атрымала надзвычай шырокі водгук у чытача. Чытаць гэтыя творы нялёгка, нягледзячы на тое, што многае аб лёсе савецкіх салдат, якія трапілі ў фашысцкі палон, мы ведаем. Ведаем, але цэласнай карціны пра стойкасць, пра супрацьстаянне палонных фашысцкім катам у нашай літаратуры, трэба адзначыць, усё яшчэ няма. Гэты недахоп у значнай ступені дазваляе пераадолець кніга М. Аўрамчыка, які, як і К. Вараб'ёў, паспытаў "даброты" нямецкай няволі ў мінулую вайну асабіста.

У цеснай сувязі з усёй літаратурай, а часам нават займаючы ў ёй вядучыя пазіцыі, развіваецца дакументалістыка.

У "Блакаднай кнізе" А. Адамовіча і Д. Граніна і ў аповесці трох аўтараў — А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка "Я з вогненнай вёскі…" сабраныя жывыя сведчанні людзей, вытрываўшых трагічныя дні ленінградскай блакады і цудам ацалелых жыхароў беларускіх хатыняў, якія сталі ахвярамі фашысцкага генацыду ў Вялікую Айчынную вайну.

У гэтых аповедах, поўных несціханага болю і пакутаў, вырысоўваюцца лёсы горада і вёскі, ствараецца фенаменальны характар народа, які вынес неверагодныя выпрабаванні і перамог у справядлівай вайне народаў з фашызмам.

Глыбейшага адлюстравання праўда перажытага знаходзіла і ў паэзіі. Прыклад таму — вершы А. Пысіна. З вострым болем, нават з нейкім адчуваннем асабістай віны гаворыць паэт пра загінуўшых, якія павялічваюць маральную адказнасць тых, хто застаўся ў жывых. Спавядальнасць стала для паэта маральнай патрэбай.

Была напісана такая выдатная рэч, як паэма "Варшаўскі шлях" А. Куляшова.

В. Быкаў стварае раман "Знак бяды", які яшчэ больш нагадвае ваенныя раманы К. Чорнага.

Літаратура — і гэта відаць не толькі ў "Знаку бяды" — часцей звяртаецца да карэнных праблем чалавечага быцця: чалавек і народ, абавязак і адказнасць, непрымірымасць і спачуванне, эмоцыі і разважлівасць — і гэта абяцае новыя мастацкія ўдачы.

Акцэнтацыя ўвагі на маральным фактары дабра відаць таксама ў аповесці А. Адамовіча "Карнікі". У ёй расказваецца пра карнікаў з батальёна Дзірлевангера, якія ў вайну палілі беларускія вёскі і забівалі бязвінных людзей. Часткова пра іх ужо гаварылася і ў "Хатынскай аповесці", і ў калектыўнай кнізе "Я з вогненнай вёскі...". Цяпер аўтар імкнецца выйсці на новы ўзровень праўдзівасці ў перадачы фашысцкіх злачынстваў, якія чыніліся на акупіраванай у час вайны Беларусі. Яго цікавіць не чалавек у звычайным жыцці, а чалавек у экстрэмальных умовах.

Ваенна-гістарычная літаратура, пра якую ідзе гаворка на нашым сённяшнім пленуме — гэта гістарычны феномен у культурным жыцці чалавецтва. Недзе бліжэй да 90-х гадоў пачынаецца новы этап у яе развіцці, на што істотным чынам паўплывалі стыхійны працэс перабудовы, калі перастаў дзейнічаць партыйны кантроль і ідэалагічныя рэгламентацыі. Паменела пафасных прамоў, знізілася іх гучнасць, адмянілі цэнзуру. Бесцэнзурную аповесць пра вайну пад назвай "Ахвяры" адным з першых стварыў у пачатку 90-х гадоў І. Шамякін. Гэта аповесць пра партызанскі рух у Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны. Тэма традыцыйная, але аўтар "Глыбокай плыні" на гэты раз стварае больш рэалістычную карціну таго, што адбывалася. Вядома, партызанскі рух на акупіраванай тэрыторыі і ўзаемаадносіны партызанаў з цывільным насельніцтвам выглядалі не так адназначна, як гэта паказана ў "Глыбокай плыні" і іншых творах пісьменнікаў таго перыяду. Патрэбен быў час, каб літаратура магла бліжэй падступіцца да гэтага пытання, да ўсведамлення таго, што барацьба партызанаў з немцамі вялікім цяжарам легла на плечы народа, на насельніцтва акупіраванай тэрыторыі.

Сёння літаратура намаганнямі многіх пакаленняў пісьменнікаў паглыбляе памяць і ўяўленне пра вайну, паказваючы яе ва ўсёй праўдзівасці перажытага і выпакутаванага народам, пазбягаючы іранічных інтанацый, фальшу. У гэтым вялікая заслуга і празаіка Анатоля Сульянава, ваенныя кнігі якога напісаны з веданнем і вайсковай і пісьменніцкай справы, Анатоля Кузьмічова, Алеся Шашкова, Алеся Махнача, Паўла Місько, Віктара Трыхманенкі і інш.

Адметнае месца тэма Вялікай Айчыннай вайны займае ў творчасці Георгія Марчука, які пільна прыглядаецца да чалавека ў ваенных абставінах у рамане "Крык на хутары", п'есе "Пеўчыя 41-га года". Пасоўваючы наперад тэму Вялікай Айчыннай вайны, ён блізка падыходзіць да традыцый К. Чорнага, у якіх вайна, фашызм асэнсаваны з вышыні багатага гістарычнага досведу.

Дзеянне ў п'есе "Пеўчыя 41-га года" адбываецца ў царкве, духоўная прастора якой з асаблівасцю адцяняе супрацьстаянне людзей "чыстых чалавечых парываў" і прадстаўнікоў "чэрствага эгаістычнага разліку". Ці не ўпершыню ў беларускай літаратуры паказана актыўная роля святара, сапраўднага духоўнага пастыра (айцец Вікенцій).

Станоўчую ацэнку чытачоў атрымаў раман Мікалая Ільінскага "Цвіла, цвіла чаромха", які з'явіўся ў "Бібліятэцы Саюза пісьменнікаў Беларусі".

Да часу Вялікай Айчыннай вайны звярнуўся сёння Анатоль Смалянка ў аўтабіяграфічнай аповесці "Мы не покорились" (2008). Не лёгка перажывае вайну гераіня рамана А. Сакалова "Таямнічасць дотыку" Паша Кісялёва. Хачу адзначыць апавяданне С. Трахімёнка "Родная крывінка", напісанае, трэба сказаць, і з веданнем справы, па-майстэрску і з душой. У нас часта спрачаюцца, ці мае права пісаць пра вайну той, хто на ёй не быў. Апавяданне С. Трахімёнка адказвае адназначна: мае.

Да 65-гадовага юбілею Вялікай Перамогі выйдзе надзвычай змястоўная анталогія пісьменніцкіх апавяданняў на тэмы Вялікай Айчыннай вайны. Апроч старэйшых — В. Быкава, І. Шамякіна, І. Мележа, Я. Брыля, — у ёй удзельнічаюць такія аўтары, як Г. Марчук, В. Ткачоў, В. Праўдзін, А. Сакалоў, П. Саковіч, М. Пазнякоў, М. Нікіцін, Ю. Зарэцкая і інш. Укладальнік — У. Саламаха.

Прашу прабачэння, я пакідаю па-за ўвагай паэзію і толькі з тае прычыны, што тут давялося б казаць літаральна пра ўсіх, пералічыць прозвішчы па ўсім тэлефонным даведніку, пачынаючы ад Анатоля Аўруціна і ажно да Святланы Яўсеевай з уключэннем усіх астатніх. Сапраўды, хіба мала намаганняў для ўслаўлення подзвігу народа, арміі ў Вялікую Айчынную вайну зрабілі такія нашы паэты, як Мікола Мятліцкі, Раіса Баравікова, Рыгор Сакалоўскі, Тамара Краснова-Гусачэнка, Уладзімір Скарынкін, Валянцін Лукша, Уладзімір Карызна ды іншыя.

Творы пра Вялікую Айчынную працягваюць з'яўляцца, аднак даводзіцца канстатаваць, што, на жаль, гэты, некалі паўнаводны струмень, абмялеў. Асабліва, мне здаецца, у беларускай літаратуры, што здаўна цягацела да ваеннай тэмы. Цяпер, недзе з сярэдзіны 90-х, пісьменніцкая цікавасць да яе некалькі прытупілася, згасла.

У жыццё ўступіла ўжо не адно пасляваеннае пакаленне, у тым ліку і самае маладое. Паўстае пытанне, як даць яму адчуць усю горыч страт, усе пакуты, якія прынесла вайна, і радасць Перамогі, за якую так дорага, вялікай крывёю, заплаціў народ. Вырашэнне гэтай задачы — абавязак літаратуры, якая ў гэтай сувязі мае патрэбу ў "інавацыях" — прытоку свежых сіл і новых каштоўнасных ідэй і арыентацый.

Вялікая Айчынная вайна і Перамога ў ёй з'яўляюцца цэнтральнай і вызначаючай сусветную гісторыю падзеяй XX стагоддзя. І сусветную гісторыю і "гісторыю" асобнага, звычайнага чалавека.

Змяніліся, сталі больш прагматычнымі адносіны паміж людзьмі, якія апынуліся ва ўмовах сацыяльнай адзіноты і вымушаны весці індывідуальную барацьбу за існаванне. Чалавек павінен заставацца чалавекам, здольным на дабрату, чалавечнасць, пошукі адказу на пытанне пра сэнс свайго існавання.

У сучаснай літаратуры духоўныя каштоўнасці існуюць як пошук, як акт унутранага гарэння, як вышэйшы пункт чалавечага жыцця, і зусім не як апрыёрныя рашэнні, адпаведна якім размяшчаюцца станоўчыя і адмоўныя персанажы, будуецца сюжэт.

Пазнанне чалавека было і застаецца галоўным прадметам літаратуры. Больш таго, сёння цікавасць да чалавечых глыбінь асобы выходзіць у літаратуры, як і ва ўсім сучасным мастацтве, на першы план. Не заўсёды ёсць патрэба рэзка размяжоўваць літаратуру па тэмах і звязваць з гэтым мастацкія крытэрыі літаратурнай творчасці. Не варта, скажам, "народны характар" звужаць пераважна да паняцця "характару селяніна", бо ў складанні гэтага характару прымала ўдзел не толькі сялянства, але ўвесь народ, усё грамадства.

Хай ваенна-гістарычная літаратура шчыльней і арганічней спалучае ў сабе гэтыя два крылы — летапіс і чалавеказнаўства!

На плешчаніцкай пілараме, кажуць, усё яшчэ крышацца аб кулі і асколкі сталёвыя зубы піл, калі распілоўваюць былыя партызанскія, а цяпер леспрамгасаўскія сосны. А ў Чысціку, які цяпер увайшоў у гарадскую рысу Плешчаніцаў, яшчэ матляецца на трывалым сасновым суку пятля з тоўстага дроту, на якім карнікі вешалі партызан і падпольшчыкаў. Яшчэ доўга не пераржавее гэты стальны дрот, але калісьці пераржавее і ён.

Вобраз вайны, уяўленне пра чалавека на вайне ў памяці наступных пакаленняў будуць жыць дзякуючы літаратуры і мастацтву. Цікавасць да твораў на ваенную тэматыку выклікана не толькі патрэбамі сённяшняга дня, але і будучыняй чалавецтва, якое павінна ведаць, што такое вайна, і ўсё зрабіць дзеля прадухілення гэтай жахлівай трагедыі.





Íà çäûìêàõ: Óëàäç³ì³ð Ãí³-ëàì¸äàâ; ó êóëóàðàõ ïëåíóìà — Àíàòîëü Êðýéäç³÷ ³ Ì³õàñü Ïàçíÿêîâ; Àëåñü Ñàâ³öê³, Íàâóì Ãàëüïÿðîâ³÷ ³ Âàëÿíö³í Ëóêøà.

Фота Кастуся Дробава

# Галоўнае — правільна прачытаць




**Важная справа часта не толькі на прафесіяналах трымаецца, а і на энтузіястах. А яшчэ лепш, калі гэтыя якасці цудоўна спалучаюцца ў адной асобе. Гэтая выснова вельмі добра стасуецца і да самога Івана Ярашэвіча, і да таго, што ён робіць. Па прафесіі Іван Паўлавіч — педагог, скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта яшчэ ў савецкія часы. Адпаведны кірунак мела і навучанне студэнтаў, прынамсі, будучых гісторыкаў: на лекцыях болей гаварылася пра дружбу народаў і меней — пра тое, наколькі кожны з гэтых народаў па-свойму адметны.**

Ды тыя са студэнтаў, хто прыйшоў на факультэт па пакліканні, безумоўна, і самі былі, як кажуць, не лыкам шыты. Лекцыі — лекцыямі, але ж да ўсяго можна займацца і самаадукацыяй. Да такіх студэнтаў-энтузіястаў адносіўся і І. Ярашэвіч. Таму, калі ён атрымаў дыплом аб вышэйшай адукацыі, быў чалавекам не толькі дасведчаным у тым, што зроблена ў галіне пэўных навук, але і дакладна ведаў пра тое, што трапляе пад вызначэнне так званых "белых плям". Яны ж датычылі ў першую чаргу замоўчвання або скажэння пэўных перыядаў гісторыі, найперш беларускай.

У прыватнасці, слабым звяном з'яўлялася тапаніміка. Ёю і зацікавіўся малады настаўнік, які нарадзіўся ў вёсцы з прыгожай назвай Хатынічы, што ў Ганцавіцкім раёне, а быў запатрабаваны на Чэрвеньшчыне, куды прыехаў па размеркаванні. (Цяпер І. Ярашэвіч працуе дырэктарам Смілавіцкай сярэдняй школы № 1).

Памкненні даследчыка ў гэтым кірунку з цягам часу пачалі даваць плён.

Асабліва важкія набыткі І. Ярашэвіча ў галіне краязнаўства Чэрвеньшчыны. Калі ж глядзець у гістарычным ракурсе — Ігуменшчыны. У гэтым я ўпэўніўся, калі пазнаёміўся з яго кнігай "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах", якая толькі што пабачыла свет у рэдакцыйна-выдавецкай установе "Літаратура і Мастацтва".

Не сказаць, праўда, каб я нічога не ведаў пра гэты куток Бацькаўшчыны — пісалі ж пра яго яшчэ Павел Шпілеўскі, Аляксандр Ельскі. Ёсць сякія-такія напрацоўкі ў томе гісторыка-дакументальнай хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі "Памяць", прысвечаным Чэрвеньскаму раёну.

Аднак кніга "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах" сапраўды адметная. Нешта не прыпамінаецца, каб падобнае выходзіла пра іншыя раёны. Безумоўна, нельга не ўзгадаць ухвальным словам Леаніда Пракопчыка з яго кнігай "Адкуль у вёскі імя". Як нельга не адзначыць шматтомнік з серыі "Мой родны кут", у якім кожнай вобласці адведзена па кнізе і які з'явіўся дзякуючы Аляксею Ненадаўцу. Аднак у абодвух выпадках змешчаны легенды і паданні. І. Ярашэвіч пайшоў іншым шляхам. Ён кожнаму тапоніму дае навуковае тлумачэнне. Таму і чытаў я кнігу з надзвычайнай цікавасцю. Пачынаючы з таго раздзела, у якім аўтар "Чэрвеньшчыны..." дае ўласную версію паходжання даўняй назвы гэтага райцэнтра, што бытавала да пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя, а калі канкрэтна, то да 18 верасня 1923 года, калі Ігумен стаў называцца Чэрвенем.

І. Ярашэвіч не проста прыводзіць уласнае меркаванне адносна з'яўлення тапоніма Ігумен, а аргументавана даводзіць, што неабходна зыходзіць не з назову настаяцеля праваслаўнага манастыра, а з таго, што слова "ігумен", якое паходзіць ад грэчаскага iegumenos, мае не адно, а некалькі значэнняў. Сярод іх такія, як "ісці наперадзе кагосьці; начальнічаць; паказваць шлях".

Іван Ярашэвіч прыйшоў да высновы, што даўным-даўно праз гэтыя "мясціны старажытныя грэчаскія купцы асвойвалі і шукалі шляхі гандлю з Поўначчу. Справа была цяжкая, небяспечная. Вось адзін з гандляроў і заснаваў апорны пункт. Ён павінен быў садзейнічаць руху наперад. Тут суайчыннікі, якія пазней ішлі па слядах першапраходцаў, атрымлівалі патрэбную дапамогу. Галоўнае — ім тлумачылі далейшы шлях. А ён быў складаны. Трэба было пераадолець нямала перашкод, у тым ліку мнагаводныя рэкі. Адсюль пайшла назва "Ігумен" — той, хто паказвае шлях. З цягам часу пункт перарос у паселішча".

Гэтаксама і ў далейшым, расказваючы пра паходжанне пэўнага населенага пункта, І. Ярашэвіч не "хапае", як кажуць, тое, што ляжыць на паверхні (у дачыненні да Ігумена — гэта звязванне назвы з тым, што тут, маўляў, некалі знаходзіўся манастыр), а імкнецца зыходзіць з канкрэтных рэалій. Незалежна ад таго, ідзе гаворка пра паселішча, пра якое ведаюць многія, ці пра такое, што на слыху ў асноўным толькі ў мясцовага люду.

Узяць, скажам, Смілавічы, што сталі для Івана Паўлавіча роднымі. Адсюль вядомы мастак Х. Суцін. У Смілавічах карані роду Ваньковічаў. Гэты гарадскі пасёлак — адно з найбольш вялікіх на Беларусі месцаў пражывання татараў. Ёсць тут і свая прамысловасць. "Пералік цікавых падзей, людзей, спраў, — піша І. Ярашэвіч, — можна доўжыць і доўжыць..." — і тут жа задае пытанне "Але дзе ж пачатак, дзе карані?".

Выяўляецца, далёкія-далёкія продкі тых, хто жыве тут сёння, "былі адважныя, здабычлівыя, спрытныя паляўнічыя, рыбакі. Суседзі і суродзічы за гэта іх называлі "смелыя лаўцы", "смелыя лавічы" — людзі з роду смелых лаўцоў. Адсюль і пайшла назва Смілавічы", што "спачатку гучала як Смелавічы, а потым трансфармавалася ў Смілавічы".

А вось вёска Чарнаградзь. Я, напрыклад, пра яе ведаю, бо колісь студэнтам-першакурснікам быў накіраваны ў мясцовы калгас капаць бульбу. Праўда, чаго не ведаў, дык таго, што існуюць і іншыя варыянты напісання і вымаўлення назвы згаданага населенага пункта: Чарнаградзь і Чорнаград. І. Ярашэвіч тлумачыць: "назва расшыфроўваецца так: паселішча на чорнай, не зарослай градзе". Хоць апошнюю кропку ставіць рана: "Ёсць меркаванне аб магчымасці паходжання назвы ад слоў "Чорны град". Маецца на ўвазе "Чорнае гарадзішча".

Важна і тое, што кожным разам І. Ярашэвіч імкнецца разнастаіць гаворку так, каб гэта было не толькі пераканаўча (што, безумоўна, у дадзеным выпадку першаступенна), а і зацікаўлівала чытача яшчэ да таго, як размова пяройдзе да галоўнага. Як тады, напрыклад, калі тлумачыць паходжанне назвы вёскі Убель: "Вы жадаеце ўбачыць бела-малочныя берагі? Дык наведайце вёску Убель. Калі летнім ранкам глядзіш на луг, то зеляніны не бачыш. Здаецца, увесь ён заліты малаком. Асаблівыя тут туманы сцелюцца. Гэтаму спрыяе Волма. Як нідзе, і росы тут буйныя. Вачэй не адарваць — дзіва дзіўнае. Ніколі не забудзеце карціну і хвіліны ранняў". Дый інакш і нельга пісаць, бо каб правільна "прачытаць" назву паселішча, трэба адштурхоўвацца менавіта ад гэтай прыгажосці: некалі "жыхары навакольных вёсак звозілі сюды палатно. Мясціну, дзе выбельвалі тканіны, празвалі людзі Бель, а паселішча, якое ўзнікла тут, Убель – вёска ў белі".

Усяго ж расказваецца пра паходжанне назваў прыкладна 200 населеных пунктаў Чэрвеньшчыны. Тым самым здзейснена работа, якая па сіле далёка не кожнаму.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Вечнае, неўміручае



**"Сонца маё — Беларусь" — так, на першы погляд, крыху патэтычна, а на самай справе шчыра і ад душы, назваў кніжку сваіх выбраных вершаў Генадзь Казак, на творчым рахунку якога пяць паэтычных зборнікаў. Ягоныя вершы друкаваліся ў многіх беларускіх і рускіх выданнях, гучалі на радыё, уключаліся ў якасці дыдактычнага матэрыялу ў школьныя дапаможнікі.**

Перада мной — вынік шматгадовай працы творцы, роздум і перажыванні, надзеі і сумненні, радасць і смутак. Дык якім жа паўстае перад чытачом паважаны мною паэт і чалавек, блізкі не толькі па зямляцтве, але і па духу сваёй творчасці?

А паўстае ён паэтам арганічным, які ідзе не ад тэорыі, а ад натхнення, паэзія жыве ў ім. Усё тут беларускае, не выдуманае, не кніжнае, бо аўтар нарадзіўся на жыватворнай зямлі, увабраў у сябе яе гукі, пахі і колеры. Чаму не піша па-беларуску? На гэтае пытанне сёння ніхто з нашых рускамоўных паэтаў пераканаўча, бадай, не адкажа.

У чым жа праяўляецца арганічнасць і арыгінальнасць вершаў Г. Казака? У светаўспрыманні, адкажу, у генетыцы — памяці продкаў, закладзенай ад нараджэння, ад жыццёвага вопыту, натхнёнай душэўнай і разумовай працы.

Чытаючы старонку за старонкай, я прыжываюся ў радках і строфах, дыхаю іх харавством, раўняю свой сардэчны рытм з рытмам вершаў і адчуваю непарыўнае адзінства з усім тым, што жыве, квітнее і, паміраючы, нараджаецца зноў. Не памірае толькі памяць. Не магу адказаць, чаму атрымалася так: на пачатку зборніка верш-успамін, пра вяртанне бацькі з вайны — "и, громче грома, упали на пол костыли", і напрыканцы зноў блізкае па духу — "и слышит лес, и слышит осень скрип уходящих костылей". Тут, напэўна, не зважаючы на аўтара, і спрацавала спружына памяці — першыя дзіцячыя гады прыпалі на вайну, і боль яе жыве разам з болем за тых, хто даў нам усім магчымасць жыць мірна. На вялікі жаль, у сучаснай беларускай паэзіі тэма вайны знікае, калі ўжо не знікла зусім. Ці то памяць слабне з гадамі, ці то нейкая модная пошасць апанавала?.. Гламур, віртуальшчына, бодрапіс часта без складу і ладу, а калі са складам, то, упэўнены, наперакор сваёй натуры. Абы ціха, абы друкавалі. Штампуюцца вершы-аднадзёнкі з выкрыкамі, клічнікамі, тэатральным надрывам. Пакуль хапае дыхалкі, а не духу…

Генадзь Казак умее абыходзіцца без гэтага. Узросшы на ўлонні роднай прыроды Віцебшчыны, сярод яе мудрых і працавітых людзей, ён жыве і суперажывае разам з імі, глядзіць іхнімі вачыма на блізкае і далёкае, матэрыяльнае і духоўнае, радуецца і засмучаецца за ўсё, што адбываецца з радзімай і на радзіме. Ён — у руху, неспакоі, трывозе, спадзяванні. Як, напрыклад, у гэтых радках:

Живу. Работаю. Люблю.
Мечтаю. Радуюсь. Скорблю.
Слагаю. Думаю. Дружу.
Не лебежу. И не дрожу.

З кожным напісаным радком і вершам паэтычны зрок аўтара робіцца ўсё больш вастрэйшым, склад і лад больш строгім, метафарычным, насычаным думкай і пачуццём, простым і зразумелым, а таму запамінальным. Ён там, куды заўсёды кліча роднае поле, дзе блакітнае і чыстае раздолле, дзе свеціцца кожны каласок, дзе "серп луны воткнула в небо жница и на стерне ребёнка родила".

Чытаючы такое, міжволі захапляешся прачытаным і адчуваеш кроўную сувязь з усім жывым на зямлі і шкадуеш, што "не подвязал надломленную ветку, не напоил усталого коня, не улыбнулся молодой соседке...". Шкада, што такое адчуванне прыходзіць да нас крыху пазнавата, а то і зусім запознена, калі ўжо нельга нічога змяніць і перайначыць. "На исходе дня", — як піша паэт.

Ды не будзем песімістамі, калі сам аўтар — аптыміст, жыццялюб у кожным сваім імгненні, пачуцці, у любові да ўсяго існага, у ціхім, а ён можа быць і такім, патрыятызме, у адносінах да сябе і людзей — строгіх і бескампрамісных, без дурняў, груба кажучы, калі "в делах — ни рвенья, ни уменья. И пушкой их не прошибёшь. Но всех устраивает мненье: Что, дескать, с дурака возьмешь?".

Не на апошніх патрэбна раўняцца, маўклівых і абыякавых, а на тых, хто можа сказаць праўду ў вочы, якой бы горкай яна ні была.

Душа, па справядлівай і дакладнай думцы знанага паэта М. Забалоцкага, абавязана працаваць. У аўтара новага зборніка яна працуе, як і патрэбна, — дзень і ноч. Яна вучыцца, мучыцца, плача і смяецца, спазнае з кожным пражытым годам і напісаным вершам неспазнанае:

Дремлют деревья
в раздумье.
Дышит прохладой земля.
Полночь луну, как глазунью,
Жарит на звездных углях.

Такіх арыгінальных вобразаў вельмі шмат у кнізе. У ёй шмат веры, якая змагаецца са стомай і адзінотай, імкнучыся наблізіцца да таго, як павінна быць. Інтымныя вершы Г. Казака дыхаюць такой чысцінёй і вышынёй, што іх хочацца піць:

Грустный свет
над лесами и нивами.
Нет ни добрых,
ни горьких вестей...
Может, где-то смеешься,
счастливая,
Может, плачешь тайком
от людей.

Паэзія аўтара выніковай у многім кніжцы адлюстроўвае ягоныя адносіны як да зямнога, так і да нябеснага, як да рэальнага, так і да сакральнага ў непарыўнай іх сувязі. Сыноўняе пачуццё да бацькоўскага і матчынага арганічна ўплецена ў кранальныя радкі:

Под плащом тоски
и жалости
Не могу я тихо жить
Рядом с теми,
кто сражается,
Рядом с теми,
кто лежит...

Под березами
и пальмами
Тишина напряжена.
Прохожу по полю памяти,
Окликая имена.

І яшчэ адзначу: у сваіх вершах паэт апявае Радзіму, верыць у яе жыватворную сілу, у жаночую красу, кланяецца тым да зямлі, хто выстаяў у апошняй самай крывавай вайне, дзякуе за падараванае лёсам жыццё, за кожны пражыты дзень, імкнецца прыняць яго не такім, які ён ёсць, а крыху лепшым, напоўненым сэнсам і святасцю.

З вялікім задавальненнем успрыняў я сказанае нядаўна на старонках "Літаратуры і мастацтва" вядомым літаратарам і вучоным Уладзімірам Гніламёдавым: "Я чакаю ад паэзіі простых, але, праўда, дарагіх рэчаў — шчырасці, чысціні, пяшчоты, цеплыні, даверу. Мне хочацца пачуць ціхі, душэўны, да болю ў сэрцы родны і мілы голас — як бы гэта заспявала перапёлка ў жыце. Каб я прачытаў і заплакаў ад пачуццяў, якія нахлынулі на мяне ад таго, што ёсць яшчэ паэзія, не ўсё праглынула утылітарнасць".

Чытаючы зборнік "Сонца маё — Беларусь", можна святлець і прычашчацца да ўсяго вечнага, дарагога і неўміручага.

Алег САЛТУК

**Гісторыя літаратуры ведае мала прыкладаў, калі малады празаік пачынае свой творчы шлях менавіта з буйных жанравых формаў. Маладосці з яе адносна сціплым жыццёвым вопытам больш уласцівыя лірычныя, а не эпічныя формы: менавіта лірыка здольная найбольш арганічна перадаць неўтаймаванасць пачуццяў ды неўпарадкаванасць думак. Проза ж (а тым больш буйныя яе жанры) патрабуе ўмення аналізаваць: не толькі адлюстроўваць дзеянні герояў, але і глыбока раскрываць сувязь гэтых дзеянняў з рэчаіснасцю.**

# Збіральнік глянцавых зорак

Тым большую цікавасць уяўляе сабой дэбютны раман Андрэя Вязава "Збіральнік зор" (у рускамоўным арыгінале — "Звездочёт"). Аўтар называе сябе экзістэнцыяльным пісьменнікам, а свой раман — экзістэнцыяльным раманам; да таго ж сваімі літаратурнымі настаўнікамі называе такіх пісьменнікаў, як Камю і Сартр...

Але перад тым, як аналізаваць твор у гэтым кірунку, зробім важкую агаворку...

Гісторыя напісання твора сведчыць пра тое, што ў азначэнне "экзістэнцыяльны" аўтар укладвае не зусім традыцыйны, прынятый ў асяродку літаратараў, сэнс. Так, ён распавядае, што "стварыць раман было зусім нялёгка. Першапачаткова я планаваў адкласці яго публікаванне на бліжэйшую будучыню, г.зн. пасля сканчэння універсітэта. Але ў 2007 я прайшоў суперпзію ў групе экзістэнцыяльнага вопыту і, дзякуючы гэтаму, прыняў рашэнне выдаць раман як мага хутчэй. Магчыма, і Вы на гэтай канферэнцыі здолееце вырашыць для сябе якое-небудзь важнае пытанне...". Далей даецца спасылка на адно "грамадскае аб'яднанне экзістэнцыяльных кансультантаў, псіхолагаў, псіхатэрапеўтаў, а таксама нашых аднадумцаў".

Аднак нават добра дасведчаны ў экзістэнцыяльнай псіхалогіі і псіхатэрапіі пісьменнік — неабавязкова пісьменнік экзістэнцыяльны. Самы час звярнуцца да твора.

Раман складаецца з трох частак: "Летні вакж", "Снег у красавіку" і "Гамбургскі адлік". Галоўныя героі — Антон і яго сябар Лёша — паўстаюць ва ўсіх трох частках перад чытачом амаль у аднолькавым асвятленні: безвынікова намагаюцца распачаць нейкія адносіны са шматлікімі, але пераважна безаблічнымі дзяўчатамі (цікава, што імёнаў у дзяўчат часцей за ўсё ўвогуле няма, ёсць дзяўчына "лошадь", дзяўчаты К. і І., Е., Р., Д., Н., Т., С. і Л., А., П., О. і іншыя); яшчэ нашыя маладыя героі беспрастанку п'юць і наракаюць на лёс. У першай частцы асноўная "бяздзейнасць" адбываецца ў курортных клубах, у другой — у клубах роднага горада Мегаполіс, у трэцяй — на чужым вяселлі ў Гамбургу. Па сюжэце героі раскрываюцца вельмі слаба, яны менавіта апісваюцца, як у віртуальных дзённіках, дзе галоўнае — выказацца пра сябе і свой дзень у межах датаванага запісу. Магчыма, твор зайгучаў бы якасна па-новаму, калі б аўтар выкарыстаў фармат дзённіка.




Наконт сувязяў з экзістэнцыяльнай філасофіяй можна адзначыць, што ў рамане сапраўды вядзецца гаворка пра бессэнсоўнасць жыцця. Твор багаты на эмацыйныя адступленні, якія поўняцца раздражненнем, незадаволенасцю і абвінавачваннямі свету, але часцей за ўсё яны выкліканы далёка не сур'ёзнымі жыццёвымі выпрабаваннямі: ролю "раздражняльніка" часцей за ўсё выконвае адмова дзяўчыны, "дрэнная" дзяўчына, дарагі чужы аўтамабіль і штосьці падобнае. Вось, напрыклад, адно з такіх выкрывальных адступленняў:

"Для меня не секрет, что мир прогнил. Люди — как исчадия ада. Я не праведник, но трудно не заметить повсеместные продажность, лицемерие, разврат и глупость. Увлёкшись прогрессом, люди нашего времени обречены на бездуховность. Кастрированный и рахитичный гуманизм, давно уже доказавший свою несостоятельность, не в состоянии совладать с пороками человека. Ведь всё дело не в каких-то там воззрениях, а в самом человеке, его ответственности перед собой за проживаемую жизнь".

Разважанне нібыта пра сучасныя заганныя нормы, але калі прыгадаць дыялог, які папярэднічае гэтаму адступленню, дык падобна ўжо падобна да таго, што перад намі проста незадаволенасць маладых людзей "дрэннымі" дзяўчатамі:

"— Да, как бы, — уныло говорит Лёша, — семейка не для меня. Я, как бы, не люблю таких тёлок, как Р. Они у меня вызывают отвращение.

— Таких, как Р., очень много в этом мире. Ты не рассчитывай, что легко найдёшь девушку ангельской чистоты. Ну, я имею в виду, чтобы тебя от неё трясло и чтобы она не была с**ой. Знаешь, сколько тебе ещё б**дей попадётся, пока ты найдёшь нормальную девушку?

— Конфеты почти все такие..."

Паказальна, што гневаючыся на свет, героі не ў стане ацаніць культуру ўласных паводзін. Наконт лексікі трэба сказаць асобна.

Так, часам дзеля найбольш трапнай характарыстыкі герояў ахвяраваць літаратурнасцю мовы можна і нават патрэбна. Але канцэнтрацыя лаянкі ў дыялогах рамана часта збыткоўная, і "прыхаваныя" зорачкамі літары сітуацыі не змяняюць. І ўжо зусім ненатуральна гучыць жаргон з вуснаў прадстаўнікоў старэйшага пакалення:

"— Бухали вчера? — интересуется встречающий меня отец.

Он несёт мой чемодан к машине.

— Угу, — невнятно отвечаю я.

— Тёлки были?

— Были... — в моём голосе звучит чувство вины".

Лаюцца ў "Збіральніку зор" і жанчыны сталага ўзросту.

Філасофскія адступленні, напісаныя высокім стылем, поруч з такімі лексічнымі перагібамі ў дыялогах часта ствараюць камічны эфект. Аднак аўтарскага смеху ў "Збіральніку зор" не чуецца.

Творчы вопыт пісьменнікаў-экзістэнцыялістаў не абмяжоўваецца канстатацыяй бессэнсоўнасці жыцця; наадварот, іх творы кажуць нам пра тое, што годнасць асобы у тым, каб, адначасова ўсведамляючы марнасць і бессэнсоўнасць чалавечага існавання, мець мужнасць жыць далей. Героі Вязава так і не ўзнімаюцца да гэтага разумення. І бессэнсоўнае тут не жыццё, а хутчэй самі героі гэтага сэнсу сабою і перад сабой не ўяўляюць. Сам аўтар у інтэрв'ю на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё вельмі дакладна акрэсліў сутнасць паводзін сваіх герояў — "прыкрываюць фаталізмам бязвольнасць". Сугучча з ідэямі экзістэнцыялізму мізэрнае.

У тым жа інтэрв'ю, якое вялося ў межах абмеркавання вечнай праблемы "бацькоў і дзяцей", былі намаганні знайсці гэтую праблематыку і ў рамане. Гэтага канфлікту ў "Збіральніку зор" няма. На пачатку твора ёсць толькі згадка пра тое, што грошы ў бацькі даводзілася "выцарапываць". А калі памёр бацька Лёшы, то яго сябар — Антон, адно адступленне-разважанне якога мы ўжо згадвалі, мяркуе такім чынам: "Машину отец покупал для себя, а вышло так, что досталась сыну. Досталось сыну то, чего достиг отец. Обесценивание усилий. Смерть настигла его у приоткрытых ворот мечты".

Паказальна і тое, што "ворота мечты" — гэта дзверы гаража. Узровень каштоўнасцей уражвае. І ў той жа самы момант раман прасякнуты абвінавачваннямі ў адрас спажывецкай псіхалогіі. Герой увогуле мае схільнасць супярэчыць самому сабе ў сваіх тырадах: "Цель моя — быть при деньгах. Но как этого добиться, я точно не знаю. Догадываюсь только, что придется работать сутками. Перед глазами сразу же возникает образ измученного, уставшего от жизни тридцатитрехлетнего мужчины, успешного коммерсанта, героя нашего времени. Его жизнь протекает под лозунгом потребления. Он глянцево счастлив.

Глянец радостно восторгается: "Успех! Вершина всей жизни!". Открывай журнал, пролистывай страницы и покупай, покупай, трать всё больше и больше! Только потребляя, ты будешь по-настоящему счастлив! Беги, пока не выбьешься из сил!

Ложь! Ложное царство!".

І адначасова герой вельмі ахвотна сам служыць гэтаму "ложному царству".

Так, напрыклад, на старонцы 117 герой кідае абвінавачванні адукацыйнай сістэме, кажучы пра тое, што "главная цель учебного процесса — занять время человека, который не умеет и не желает учиться работать самостоятельно без чьих-либо понуканий. Можно нормально жить, будучи наёмным работником, постепенно продвигаясь по карьерной лестнице? Что значит нормально?! Подсчитывать гроши и жаловаться на то, что тебе мало платят?.. Эй, первосортный человек! Да, да, который с высшим образованием, не опускай глаза и ответь, не оправдываясь обстоятельствами, почему ты так мало зарабатываешь? Ты же такой умный! В университетах одни бездельники других поучают...". А на старонцы 145 Антон, пазнаёміўшыся з маладым чалавекам П., які "бросил институт на втором курсе и помогает отцу в бизнесе", ужо адзначае: "Институт я не люблю, но, по-моему, если уже ввязался, то надо закончить. Потрачены время и деньги, так зачем же бросать?".

Вялікая колькасць супярэчлівых адступленняў-разважанняў з аднаго боку і зусім не адпаведная ім "бяздзейнасць" герояў з другога не дазваляюць твору стаць адзіным цэлым. Падобна да спробы рашыць ураўненне, у якім яшчэ зашмат невядомых.

А напрыканцы дамо аўтару адну не самую благую параду: прайсці свой творчы шлях па "правілах" літаратурнай біяграфіі — ад малой прозы да вялікай...

Наталля ПАХОМЧЫК

## Калонка Алы БРАДЗІХІНАЙ

# Гульні без правіл: два плюсы і адзін мінус



Чытачам новай аповесці-фэнтэзі "Рок@нат" С. Мінскевіча ("Маладосць", 2010, № 2) нудзіцца не давядзецца. Максімальная ступень "шчыльнасці" прыгодніцкіх элементаў на старонку тэксту, парадаксальна-нечаканыя павароты дзеяння адпавядаюць папулярным у сённяшняй кінаіндустрыі слоганам, кшталту "калі вы здагадаецеся, што будзе далей, мы вернем вам грошы". Не выключана, што падманная лёгкасць аповеду ў спалучэнні з рэпутацыяй фэнтэзі як жанру прымітыўнага, заснаванага на культурных штампах, могуць сфарміраваць уяўленне пра "Рок@нат" як пра твор масавай (тут: пара-, псеўда-) літаратуры. Безумоўна, аповесць не прэтэндуе на статус інтэлектуальна-філасофскай чытанкі, але і займальнымі функцыямі не абмяжоўваецца. Змястоўнасць твора, як ні дзіўна, звязана з закладзеным у аснову паэтыкі тэксту гульнёвым прынцыпам, парушэннем канонаў і правіл.

Падзагаловак твора — "фэнтэзі ++" — абазначае, паводле слоў самога аўтара, "сумесь сайнс-фікшн, трохі кіберпанку і фэнтэзі". У творы сумяшчаюцца дзве розныя прасторы — навукова-фантастычная і фэнтэзійная. На Кермендзе — адным са спадарожнікаў далёкай планеты, што мае красамоўную назву Зея, — з'яўляецца падобны да гіганцкага грэцкага арэха загадкавы аб'ект іншапланетнага паходжання. Шматлікія спробы людзей пранікнуць у рок-нат (англ. скала-арэх) беспаспяховыя. Урэшце знаходзіцца "моцны арэшак" — Ял Днеж Смоўж, які, пераадольваючы ўсе перашкоды, трапляе ўнутр і аказваецца ў населеным фэнтэзійнымі расамі сімпатычных гмунаў і агідных гвіблаў, блізкім да феадальнага свеце, дзе і працягваюцца прыгоды героя.

Альтэрнатыўнай рэальнасці рок-ната не ўласціва такая прасторава-часавая маштабнасць, як, скажам, Міжзем'ю Дж. Р. Р. Толкіена ці Земнамор'ю Урсулы Ле Гуін, прычынай чаму — замкнёнасць выдуманай краіны межамі зоркалёта. Тым не менш мадэль фэнтэзійнага свету прадумана аўтарам дэталёва: чорна-ружовая каларыстыка і панарамнасць у падачы пейзажаў; арыгінальная міфалогія і фальклор, уклад жыцця і моўныя адрозненні рас, што насяляюць рок-нат; наяўнасць магічных артэфактаў і істот "няпэўнай заалагічнай арыентацыі". У сваю чаргу, у поўнай адпаведнасці з законамі science-fiction падаецца рэальнасць Зеі, дзе касмічныя шлюпкі, бластэры і тэхніка кланіравання — звыклыя ў сваім выкарыстанні здабыткі цывілізацыі. Дзве прасторы звязаны паміж сабой не толькі матывам квеста (вандроўкі — пошуку — місіі), яны падобныя болей, чым здаецца на першы погляд. Містычны свет рок-ната насамрэч аказваецца... камп'ютэрнай сімуляцыяй. Такі прыём наводзіць на думку, што перад намі адметная (новая адважуся сказаць толькі ў дужках) разнавіднасць тэхнафэнтэзі.

Квазіпрастора — адзінае, што яднае твор з кіберпанкам, але гэтыя прыкметы характэрны і для камп'ютэрных гульняў action-adventure, эстэтыка якіх відавочна паўплывала на з'яўленне "Рок@ната". Цяжка не заўважыць адметную экспазіцыю (на мове геймераў — "легенду"); герояў, якіх можна забіць "не да канца" (Сог, Архатор) ці якія валодаюць некалькімі жыццямі (а ў аповесці нароўні з аўтэнтычным персанажам дзейнічаюць два яго клоны і нават сімулякр — клон клона); нарэшце, шматстайныя галаваломкі, што даводзіцца рашаць персанажам у час падарожжа.

Пераадолець інерцыю ўспрымання фэнтэзі як жанру беззмястоўнага дазваляе расшыфроўка аўтарскай сімволікі і літаратурных алюзій. Чытач мімаволі ўцягваецца ў асацыятыўныя гульні, пачынаючы ад "Гэта здарылася ў далёкай-далёкай планетарнай сістэме...", што да болю нагадвае культавае "In a galaxy far far away...", да вобразаў крылатых гепардаў (рэверанс у бок "кошкакрылых" Урсулы Ле Гуін). Тэкставыя "рэбусы" не абмяжоўваюцца, аднак, рэмінісцэнтна-цытатным канструктарам. Маніпуляцыя сэнсамі сімвалаў трохкутніка, ростаняў, лабірынта, фантомаў-міражоў, лічбы 2 і інш. заклікана ўзняць шэраг сур'ёзных пытанняў. Гэта даследаванне парадоксаў чалавечай падсвядомасці і адноснасці дабра і зла, ідэя Голема і тэма вечнага вяртання, праблемы чалавечай камунікацыі і псеўдагуманізму, псіхалагічныя аспекты кланіравання і апазіцыя "прырода — цывілізацыя". Пералік можна доўжыць. Асабліва захапляе майстэрская "эксплуатацыя" пісьменнікам вобраза смаўжа, які трансліруе цэлы спектр значэнняў і з'яўляецца нават у назве твора (знак @ у многіх моўных культурах, у тым ліку ў беларускай, чытаецца як слімак, смоўж), дзе злучае мёртвае і жывое (скала-арэх).

І ўсё ж песпектывы развіцця айчыннай фэнтэзі звязаны не толькі з парушэннем правіл. Неабыякавы чытач аповесці "Рок@нат" абавязкова задасца пытаннем, калісьці хваляваўшым самога пісьменніка: "Тут безліч водараў — дзе ж беларускі дух?"

№ 13 2 красавіка 2010 г.



Ярына ДАШЫНА

* * *

Ïàýòû÷íûÿ ìàöÿæû,
ìóäðàãåë³ñòûÿ äýïåøû —
ìîé çíà¸ìû ïàýò ó ææ
âåíû ðýæà.
¨í æûâå ¢ ææ, æû-æû-
æûööÿï³ñ áÿçäçåòíû
ï³øà. ¨í ì³ðàâû ìóæûê —
³íòýðíåòíû.

* * *

Ìîæàø ïàïëàêàöü, ²ðà.
Ó ñýðöû ñêðàçíûÿ äç³ðû.
Âàæíåéøû çà ãîíàð ìóíäç³ðà —
ãîíàð çàñòàööà æûâîé…
Óñ¸, øòî âûõîäç³öü ç ìîâû,
àäçíà÷àíàå øòðûõ-êîäàì,
ìàå ñâàå êàðíÿïëîâû
³ âûéñöå ¢ Êîñìàñ ñâîé.
Òû, ²ðà, äç³¢íàÿ ÷àñàì,
íåçðàçóìåëàÿ ìàñàì,
ñëîâû ³ âûêðóíòàñû,
³ ñâÿäîìàñö³ ïàòîï…
Ãóëüí³ áåç ïðàâ³ëà¢ ãýòà
ñóìï³öåëüíàÿ ïðûêìåòà
äîáðàãà ³ìóí³òýòó
íà ïàýòû÷íû ì³êðîá.

* * *

Íà àïîøí³ì ïàâåðñå ìà¸é äàç³íîòû —
ïàä ì³íóñ äâàööàöü.
Òàê âûñîêà ÿø÷ý í³õòî ³ í³êîë³, í³õòî ³ í³êîë³…
Àäóñþëü ìîæíà ¢áà÷ûöü òðóáû ýëåêòðàñòàíöûé,
äûìîê óçäûìàåööà ¢ íÿáåñíûÿ ñòîë³.
Ó ïåðûÿä ðàñïàäó íà ÷àñö³íû-÷àñö³öû,
òàáîþ ïåðàõâàðýëà, ðóê³ ïðý÷ àä ìàéãî Áîãà.
ß âûâó÷ûëà íà ïàìÿöü óñå òâàå íåáûë³öû:
òàííóþ áåëåòðûñòûêó, ïàïóðû-íåêðàëîã³.
Àä òàãî, øòî ¢ ãýòûõ ïà÷óööÿ¢ òýðì³í êàðîòê³
äçåÿííÿ ³ ãàðàíòûé íÿìà ô³ç³÷íûõ,
ó ñâà¸é áåçâûõîäíàñö³, ñòî äàñîòêà¢,
ÿ ïàìðó àä õâ³ë³ííàé ïÿø÷îòû ³øýì³÷íàé.
Íà àïîøí³ì ïàâåðñå ìà¸é äàç³íîòû —
ïàä ì³íóñ äâàööàöü.
ß äà íåáà äà¢íî ïðûðàñëà äàãàðû êàðàíÿì³.
Ìàìà ñí³ööà áàëþ÷à æûâîþ. ×àñ ïðà÷ûíàööà
¢ ñþäû, äçå ñîíöà ðýíòãåíà¢ñê³ì³ ïðàìÿíÿì³.

* * *

Íàïðàñòê³, ïðàç öýíòðàëüíû ïàðê,
í³áû ñîíöà ïà ¢ëàñíàé àðá³öå
(ÿ ïàäîáíà äà Æàíû Ä'àðê,
òû — íà äîêòàðà Àéáàë³òà),
ìû áðûäçåì äà ïÿë¸íàê-ãàðøêî¢.
² íà ãýòàé ø÷àñë³âàé íîöå
ÿ ï³øó ïà äàðîçå äàìî¢
ñâîé ÷àðãîâû, àá äàç³íîöå
âåðøàõëóñ. Íàø ñûíóëÿ ñï³öü.
Ó êàëÿñöû, ëÿ ñàìàãà êðàþ
ñðýáíàêðûëû àí¸ëàê ñÿäç³öü, —
ó ðàæîê ãðàå.

* * *

Òðýáà áûöü ìîöíàé, í³âûòà ñòàë¸âàÿ êóëÿ,
ÿê ïëàñòûë³í ïëàñòû÷íàé, êàëþ÷àé ÿê äðîò,
êàá íåçíàðîê íå ðàçá³ë³, ó äóãó íå ñàãíóë³,
íå ðàçàìêíóë³ êàíòàêò, íå çëàìàë³ çàâîä,
íå çàø÷àì³ë³ ñýðöà íÿñïðà¢íûì êàõàííåì.
Êîæíóþ ðàí³öó òû âûõîäç³ø íà ðûíã.
Ó æûëàõ ïóëüñóå ñàìà-òâà¸-çàõàâàííå —
ìàöåðûêîâû, òâîé ìàöÿðûíñê³ ³íñòûíêò.
Òðýáà áûöü ìîöíàé, óñ³ì íåíàæýðíûì "¢ àäìåñòêó",
êàá íàæäàêîì êðûòû÷íûì íå ñö¸ðë³ ¢ ïûë.
Ïåñí³ òâàå — ñÿðîïì ïà àäíûì ìåñöû,
ìàþöü òóæë³âû ³ äýïðýñ³¢íû ¢õ³ë.
Óñå ÿíû — âûê³äûøû ³ àáîðòû, ï³êàíòíû
íàòóðàë³çì ïðà ìàñàâàå íûöö¸.
Âîíê³ íóòðîì — àòðûìë³âàåø âûäàòíà
ïà äûñöûïë³íå "Óâîäç³íû ¢ æûöö¸".
Òðýáà áûöü ìîöíàé. Ó âîãíåííàé ãëåíå
ãýòàé ñàòëå¢ ìàê³ÿæ ïåðìàíåíòíû òâîé.
Êîæíóþ ðàí³öó òû àäïóñêàåø ñ÷àïëåííå
ñýðöà ñâàéãî ³ ðàñïà÷ûíàåø áîé
çà ñÿáå.

## Ñûíó

Ïàä ñêóðàé áëàê³òíûõ ïÿë¸íàê
õàâàåø ìàëåíüê³ÿ êðûëû,
³ðâåøñÿ ç óñ³õ àáàëîíàê
ó ãýòû ñëåçàòà÷ûâû
ñâåò. ¨í ìàéãî àäãàëîñàê,
à ìåæû òàáîé àáðàíûÿ,
ìàã÷ûìà, — ô³ëàñîôñê³ÿ:
ïà Ðîçàíàâó ö³ Ðàçàíàâó.

Öÿïåð ÿ íàïàëàâ³íó —
¢ñÿ. ²ðâó àáàëîíê³.
Çàë³çâàþ øíàð ïóïàâ³íû
çÿë¸íêàé.



Алесь БАРДОЎСКІ

## Акопы

Нарадзіўся я ў сорак шостым,
Сорак шостым пасляваенным.
І дзяцінства было няпростым,
І юнацтва даволі бедным,

Як ва ўсіх.
Не забыць ніколі.
І да ведаў зашмат ахвоты,
А дарога праз лес да школы.
І акопы вакол, акопы,

Дзе вайна прыхавала гукі —
Чорны прывід
нядаўняй ночы —
І гублялі там хлопцы рукі,
І гублялі там хлопцы вочы...

Сёння ў гэтых акопах сосны
Аднагодкі. Сасна з сасною,
Бы трымаюць рубеж апошні
Паміж праўдаю і хлуснёю...

## Паланез

Восень. Ранак. Шпак спявае,
Ды малітвай спеў гучыць —
Шпак радзіму пакідае,
Каб нягоду перажыць.

Панясуць у вырай крылы
З асэнсоўваннем таго,
Што, калі не хопіць сілы, —
Дзеці вернуцца яго.

І зляцеў адсюль таксама,
Нібы птушка. Як і ўсе.
Немагчыма. Тут жа мама —
Хто ёй кветкі прынясе...

Шмат разоў ужо світала,
Быццам мроіцца здаля.
Так і мама вось чакала,
А цяпер чакаю я.

Ранак. Восень прысыпаше
Цераз поле, цераз лес.
На галінцы шпак спявае,
А я чую паланез...

* * *

Мой сад у снезе па калена…
А. Пісьмянкоў

Шукаць, гукаць ужо дарэмна.
Даўно мінулыя гады –
І снег ужо не па калена,
І сад даўно не малады.

Ці, можа, іншым свет зрабіўся,
Ці, мо, змяніліся мы з ім,
І ў марнай марнасці забыўся
Чароўны водар цнотных зім...

Вадою талаю сплыло
Жыцця цудоўнае імгненне…
Ды сумна ад паразумення,
Што ў садзе снегу не было…

* * *

Ў Бялынкавічах выйду з цягніка,
Увачавідкі выйду, а не ў сне,
Няхай мяне тут некаму чакаць
І сустракаць тут некаму мяне.

І дом аслеп. І сад ужо памёр,
Які штогод антонаўкі радзіў.
Яго садзіў калісьці дзед Ягор,
Для ўнукаў і для праўнукаў садзіў...

Там франтавік-калека жыў калісь
І жаліўся ён неаднойчы мне
Што па начах і ломіць, і баліць
Нага, што засталася на вайне.

І ў гэтых дзён заблытанай чарзе,
Як той калека ля другіх разор
Стаю, нібыта на адной назе, —
Другая ж там,
дзе дзедаў сад памёр...

Ў Бялынкавічах сяду я ў цягнік,
Даруе вёска на сыходзе дня,
Бо так і я з малой радзімы знік,
Як дзедаў сад, як хата, як радня...

## Рэха журбы

Леаніду Левановічу

Быццам кара спасцігла нас божая…
Як мы вытрымаць гэта змаглі?..
Ў Клеявічы паехаў бы можа я,
Ды няма іх ужо на зямлі...

Колькі вёсак бяда тая вырвала —
Не змясціць усяго ў галаве,
Не змясціць...
Вось і еду з Пятрылава,
Дзе зямляк знакаміты жыве.

Нас разнеслі жыццёвыя ветразі —
Час бязлітасны сёння такі.
Там няма ні буслоў,
а ні Бесядзі,
Толькі з лесу прыходзяць дзікі.

А наўкола лясы жывапісныя,
Траў гаючых квітнее дыван
І прыходзяць радкі рукапісныя,
Каб пакласціся ў новы раман.

А старонкі, як соты пчаліныя,
Сэнсам поўняцца,
мёдам нібы...
Толькі сняцца кліны жураўліныя,
Ды над Бесяддзю рэха журбы.



Фота Аляксандра Высоцкага

# Слодыч і атрута



Зінаіда ДУДЗЮК

## Урывак з рамана

29 сакавіка споўнілася 60 год вядомай берасцейскай пісьменніцы Зінаідзе Іосіфаўне Дудзюк — паэту, празаіку, драматургу. Рэдакцыя "ЛіМа" віншуе Зінаіду Дудзюк з юбілеем і зычыць ёй натхнення, здароўя і прапануе чытачам урывак з новага твора аўтаркі, які друкуецца ў №№ 3, 4 часопіса "Полымя".

Інтрыга ў рамане Зінаіды Дудзюк "Слодыч і атрута" развіваецца ў любоўным трохкутніку: дзве сястры, Зося і Каця Барэйшы, закаханы ў маладога спрытнага вяскоўца — Гардзея Рахубу. Малодшая з сясцёр, Зося, чакае ад яго дзіця, але Гардзей не хоча прызнаваць свайго бацькоўства. Старэйшая Каця намагаецца адбіць каханка ў сястры. Фонам рамана служаць няпростыя сацыяльныя ўмовы Заходняй Беларусі, палітычнае змаганне беларусаў за сваю долю ў польскай дзяржаве.

Гардзей абняў яе, пачаў цалаваць, адчуваючы як трапяткое ўсхваляванае цела. Падхапіў на рукі, панёс на запечак, пытаючы на хаду:

— Твае не вернуцца?

— Не ведаю, — разгублена адказала Каця.

— Ну мы ж пачуем, — адказаў ён, кладучы яе на пасцель і загаляючы спадніцу.

— Не! Што ты! Што надумаў? — крыкнула Каця і з усяе сілы адштурхнула Гардзея.

— Нічога такога… А ты для чаго мяне запрашала? — у сваю чаргу запытаў ён.

— Грэх табе! Грэх!

— Вядома, грэх. Але ж без яго і людзей не было б на свеце.

Каця затуліла твар рукамі і заплакала.

— Прабач, — сказаў Гардзей. — Не хацеў цябе пакрыўдзіць. Жыццё і мары — рэчы розныя. Бывай!

Гардзей выйшаў з хаты, акінуў позіркам двор і ля клуні ўбачыў Зосю. Ён хмыкнуў сабе пад нос і весела падумаў: "Вось дзе ты схавалася. Ад мяне не ўцячэш…" Хлопец няспешна выйшаў з двара, нават не зірнуўшы на вокны, адкуль за ім магла назіраць Каця, накіраваўся ў бок вёскі, але як толькі дайшоў да кустоўя, адразу павярнуў да клуні.

Зося складвала дровы, якія ранкам насек Серафім. Раптам нехта моцна абняў яе за плечы. Яна ажно ўскрыкнула ад нечаканасці. Азірнулася, убачыла Гардзея, рашуча вызвалілася з яго абдымкаў.

— Ты чаму такая злосная? — спытаў хлопец, напускаючы на твар выраз крыўды.

— Чаго накідваешся, як галодны на сала? Я ж табе не жонка!

— Зоська, які дурань жонак абдымае? — засмяяўся Гардзей.

— Ага, вам абы запрэгчы, а пасля не да абдымкаў…

— Я так даўно цябе не бачыў, засумаваў страшэнна, а ты нават паглядзець на мяне не хочаш, — упікнуў дзяўчыну Гардзей і стаў таксама падбіраць палены і складваць у касцёр.

Нейкі час яны працавалі моўчкі, як бы цалкам занятыя справаю. Але калі абедзве рукі пацягнуліся да апошняга палена, а хлопец і дзяўчына сутыкнуліся лбамі і ледзь не зваліліся, Гардзей засмяяўся, падтрымліваючы Зосю пад локаць. І яна таксама не здолела стрымацца, залілася звонкім смехам. Тады Гардзей абняў яе і пачаў цалаваць. Так, цалуючы, і завёў у клуню, далей ад чужых вачэй. Зося раптам схамянулася, адштурхнула Гардзея і сказала з дакорам:

— Зноў за сваё?

— Пра што ты, Зоська? Няўжо я калі цябе пакрыўдзіў? Давай пасядзім, пагамонім. Я так даўно твайго голасу не чуў. Толькі ў хату зайшоў, дык ты адразу збегла…

Гардзей узяў Зосю за руку, павёў у глыбіню клуні, сеў на сена, пасадзіў дзяўчыну побач, палез у кішэню, дастаў загорнутага ў бліскучую паперку цукровага "пеўніка", даў Зосі са словамі:

— Частуйся.

— Вой, "пеўнік"! Такія на рынку ў Самары прадаваліся! — здзівілася дзяўчына і міжвольна пацягнулася рукою да ласунка, якога не каштавала ўжо шмат гадоў.

Яна разгарнула паперку, лізнула цукерку і з асалодаю прашаптала:

— Смаката! Здаецца, што смачней, чым было ў маленстве. Пакаштуй, — Зося працягнула "пеўніка" Гардзею.

Хлопец лізнуў і задаволена сказаў:

— Давай па чарзе.

Зося павярнулася да Гардзея тварам, з усмешкаю паднесла "пеўніка" да сваіх вуснаў, а потым падавала хлопцу. Так аддаюць пяшчоту і каханне, захапленне і таемныя пацалункі. Яны лізалі цукерку, пакуль тая не стала зусім празрыстаю, як пачуцці, што свяціліся ў маладых вачах. Тады Гардзей узяў гэтую смактульку і кінуў у дальні кут:

— Няхай мышкі пачастуюцца за наша здароўе. А я зліжу слодыч з тваіх вуснаў.

Гардзей пачаў цалаваць Зосю, навальваючыся на яе ўсім целам. Яна знясілена папрасіла:

— Не чапай мяне. Ты і ўявіць сабе не можаш, колькі ўжо гора мне прынёс!

— Якое гора? Я ж нічога не ведаю. Чаму ты са мною ніколі не дзелішся сваімі нягодамі?

— Як дзяліцца з хлопцам дзявочымі бедамі? Ты ж мне чужы чалавек!

— Не ведаю, мо я табе і чужы, але ты мая! Мая! — горача прашаптаў Гардзей ёй на вуха.

Ягонае дыханне раптам адгукнулася ў яе целе гарачым прылівам пяшчоты і жарсці. Прыйшло адчуванне, што ён кахае яе, але яна ўсё яшчэ не верыла свайму шчасцю і спытала:

— Чаму ты забываеш пра мяне, месяцамі не заходзіш, а потым раптам з'яўляешся, як снег на галаву? Я не разумею цябе і сябе! Зусім заблыталася. Не ведаю, як і чым жыць…

Ён усміхнуўся. Прыгладзіў яе валасы, што выбіліся з-пад хусткі. Яна скінула хустку і ўздыхнула вальней, як быццам толькі гэта і замінала ёй.

— Працей трэба жыць. Ты ж разумееш, быў я вельмі заняты: вяселле сястры, выбары ў гміну, гаспадарка і яшчэ шмат што. Прабач, калі цябе гэта крыўдзіць, але ж ад мяне таксама не ўсё залежыць…

— А што ад мяне залежыць? Задавальняць твае патрэбы?

— Зоська, Зоська, якая ж ты сур'ёзная! Мне ж нічога не трэба. Толькі слухаць твой голас, адчуваць тваё дыханне побач...

Гардзей заплюшчыў вочы, быццам задрамаў. Зося схілілася над ім, з любасцю ўзіралася ў прыгожы твар і міжвольна пацягнулася вуснамі да яго вуснаў. Ён быццам чакаў гэтага моманту, абняў яе, пачаў горача цалаваць, шаптаць нешта няўцямнае. Зосіна душа вырвалася з цела і безразважна палялела насустрач каханню, якое лілося з ягоных вачэй, рук, наталялася, як жывою вадою, і не магла наталіцца. Бо каханне — гэта толькі фантом, што нечакана з'яўляецца і гэтак жа нечакана знікае, пакідаючы гарачы след. Гэтак маланка разразае надвое неба, здаецца, зараз дзве ягоныя палавіны са страшэнным грукатам зваляцца на зямлю. Але маланка знікае, а чорнае неба параненейшаму нерухома груваcціцца над зямлёю. Зноў і зноў маланка апярэзвае неба ў марным намаганні раскалоць яго, пакуль не аціхне навальніца і не прыйдзе час спакою. Тады толькі выяўляюцца расколатыя дрэвы, абляцелая лістота, зламаныя галіны.

Такое ж і чалавечае жыццё — з хваляваннямі, нягодамі, навалам і часовым спакоем. Напэўна, трэба прымаць усё, што яно прыносіць, не палохацца, не хавацца, не адгароджвацца ад яго, каб пасля не шкадаваць пра няспраўджаныя спадзяванні, недасягнутыя мары, непадзеленае каханне. Зося была, як тая знічка, што губляе жыццё за адзін момант палёту. І, напэўна, гэта была не легкадумнасць, а падсвядомая мудрасць яе чалавечай сутнасці, бо аддавала сябе таму, каго кахала. Дзеля яго была гатовая ахвяраваць жыццём, калі толькі гэта яму спатрэбіцца. Здаецца, вечна ляжала б побач, паклаўшы галаву на яго плячо, і больш нічога ў жыцці не трэба…

Радныя сабраліся на чарговы сход гміны. Сядзелі ў прасторным пакоі, дзе на сцяне вісеў бронзавы польскі герб у выглядзе арла з распасцёртымі крыламі і стаяў на стале бела-чырвоны сцяг. Сяляне абменьваліся вясёлымі позіркамі, спадзеючыся, што ўпершыню войтам стане чалавек з сялянскага асяроддзя. У Гардзеевай душы змяёй варочалася сумненне. Занадта ўрачыстымі выглядалі паны Райскі і Бельскі. Стваралася ўражанне, што яны ўжо адсвяткавалі перамогу.

Пан Райскі выйшаў да стала, накрытага зялёным сукном, з паперамі ў руках і звярнуўся да прысутных:

— Панове, маю гонар абвясціць вам, што ваявода зацвердзіў кандыдатуру войта нашай гміны. І ад сённяшняга дня ў нас ёсць усе магчымасці для таго, каб плённа працаваць, да каляд зацвердзіць бюджэт гміны і памеры збораў, вызначыць асноўныя напрамкі дзейнасці і супрацоўніцтва з прадпрыемствамі і ўстановамі…

Сэрца Гардзея сцялася ад напружання. Ён ледзьве стрымліваў сябе, каб не крыкнуць: "Годзе малоць пустое!". А пан Райскі не спяшаўся называць імя чалавека, прызначанага войтам, а ўсё балбатаў пра перспектывы і планы будучай працы, пра адкрыццё новай польскай школы і бібліятэкі, пра наладжванне кірмашоў, нават падлічыў, якія прыбыткі з гэтага можна мець і запланаваў ураджай збожжавых на наступнае лета. Нехта з сялян не вытрымаў і сказаў:

— Каб гэтыя словы ды Богу ў вушы…

— Не бойцеся, Бог усё чуе і робіць так, як належыць, — строга азваўся пан Бяляцкі. — Майце гонар паводзіць сябе прыстойна, калі выступоўца трымае прамову.

Пан Райскі нарэшце зразумеў, што ён перабраў меру ў інтрыгаванні прысутных і сказаў:

— Прашу ўвагі. Настаў урачысты момант, я хачу абвясціць імя новага войта. Вось загад ваяводы, у якім гаворыцца наступнае: радны гміны пан Гардзей Рахуба не можа быць прызначаны войтам, бо з 1926 года лічыцца ненадзейным грамадзянінам, таму войтам прызначаецца пан Здзіслаў Бяляцкі, чыя кандыдатура таксама выстаўлялася на пасаду войта. Павіншуем жа пана Бяляцкага і пажадаем яму плённай працы на карысць гміны.

Пан Райскі запляскаў у далоні, але яго ніхто не падтрымаў. Сяляне незадаволена загаманілі. Гардзей падняўся і выйшаў, нікому не кажучы ні слова. Усе яго спадзяванні на тое, што з уладаю можна супрацоўнічаць, абрынуліся ў адзін момант. Акупанты ведалі сваю карысць і не жадалі адступаць ні на крок.

"Наіўны дурань, захацеў войтам стаць! Столькі часу дарма страціў! Столькі сілы і надзеі ўклаў! І ўсё сабаку пад хвост! — лаяў сам сябе Гардзей. — Ды хто ж табе дазволіць? Дзякуй Богу, што яшчэ ў турму не загрэблі. А што? Да гэтага трэба быць гатовым. Сёння ж перагледжу літаратуру, усё лішняе прыхаваю, каб ні адна нюхаўка не знайшла. А камуністы марацъ прайсці пятым спісам у сейм! Нічога ў іх не атрымаецца! Дарэмныя надзеі! Няўжо ўладары нам даюцца ад Бога? Можа, і так! У якасці пакарання і навукі!".

Гардзей разважаў сам з сабою, размахваў рукамі, нават час ад часу нешта прамаўляў услых. Ён і не пачуў, як яго дагнала фурманка.

— Здароў, Гардзей! — аклікнуў хлопца знаёмы голас. — Сядай, падвязу.

Гардзей зірнуў на фурмана. З воза прыязна ўсміхаўся Марк. Гардзей паціснуў працягнутую руку, ускочыў на воз.

— Ты чаго такі змрочны? — спытаў Марк. — Ці заганарыўся, што ў начальства трапіў?

— Няма чым ганарыцца. Іду з гміны. Войтам абралі не мяне, а прызначылі асадніка Бяляцкага.

— Хвароба ім у бок! Паны хітрыя, іх не абкруціш. Ну, нічога, у цябе і так пасада добрая. Радны — не апошні чалавек у гміне. Можа, і за мяне калі заступішся, — выказаў спадзяванне Марк. — Я вось ад сястры еду, маці пасылала праведаць.

— І як ёй там у замужжы? — спытаў Гардзей.

— Жывуць, хлеб жуюць. Сэрца забалела, як зірнуў на тое поле, што бацькі ёй аддалі ў пасаг. Пераарана абы-як! Зглумілі зямлю!

— Што пасеюць, тое і сажнуць. Чаго табе бедаваць?

— Ай-яй! Шкада зямелькі, — скавытаў Марк. — Яна ж жывая… Усё разумее… Мне здалося, што яна, як убачыла мяне, гэтак цяжанька ўздыхнула…

— Хто ўздыхнуў? — перапытаў Гардзей.

— Зямля па мне плача, што страціла гаспадара. Эх, мець бы столькі зямлі, як у асадніка!

— Для гэтага трэба быць асаднікам, — суха адказаў Гардзей.

Яны памаўчалі пад скрып колаў і тупат конскіх капытоў. Зямля ўжо ашэрхла, узялася марозам, але снегу яшчэ не было. Уздоўж дарогі цягнулася зялёная асаднікава рунь.

— Няма снегу. Азіміна памерзне, — сказаў Марк.

— То ж асаднікава! — з'едліва сказаў Гардзей.

— Жыта не вінаватае, яго ўсялякага шкада. Паслухай, Гардзей, які пасаг ты даў бы за Паўлінаю, каб я да яе пасватаўся?

— Табе што, няма да каго больш сватацца?

— Чаму? Ёсць. Але ж я выбіраю. Хочацца ўзяць дзяўчыну з добрым пасагам.

— Ведаеш, Марк, хлопец ты добры, але занадта скупы. Не аддам я за цябе Паўліну!

— Яна ж у цябе ўжо старая дзеўка! Хутка ніхто на яе не гляне!

— Яна мне самому трэба. Гаспадыня добрая. Дзе вазьму такую, як яна пойдзе замуж?

— Табе прымака ў хату трэба, тады Паўліна будзе дома.

— Ідзі ты… Знайшоўся мне дабрадзей! Сам разбяруся! — злосна адказаў Гардзей.

Аднак Марк не адступаўся. Пацягнуў лейцы, падагнаў каня і зноў запытаў:

— А малодшанькую таксама не аддасі?

— Прыйдзе пара — аддам добраму чалавеку.

— А мне аддасі? Я сватоў прышлю.

— Слухай, чаго ты да мяне прычапіўся? Калі хочаш ажаніцца, сам спачатку ў дзеўкі згоды папытай.

— Хто гэта і калі ў дзеўкі пытаўся? Вырашаць бацькі, так і будзе. Ты старэйшы ў сям'і, таму ў цябе і пытаюся. А дзеўка што? У яе сем пятніц на тыдні. Сення з адным полькy паскача, заўтра — з другім. Сама не ведае, каго выбраць. Мне ўсё роўна з кім пабрацца, абы зямлі далі ў пасаг пабольш!

— У мяне зямлі не шмат, Марк. Не аддам я за цябе сваіх сясцёр.

— А я падумаў: ты хутка з радных у пана перакінешся. Разумны, адукаваны, знойдзеш нейкую службу сабе ў горадзе. А нашы хаты побач, агароды можна з'яднаць…

— Як я пагляджу, дык ты, Марк, за мяне разумнейшы. Гэта табе трэба радным быць, — усміхнуўся Гардзей. — Не падмазвайся да мяне. Паўліна мне расказвала, як ты сваю сястру Антолю ледзь пад цягнік не кінуў. Ты ж за дзесяціну задушыць можаш. Навошта мне такі сваяк?

Марк з абурэннем паглядзеў на Гардзея і крыкнуў:

— Ану, злазь! Прыгрэў гада, а ён яшчэ на мяне вярзе абы-што!

Гардзей саскочыў з воза, паглядзеў услед фурманцы, якая хутка патарахцела ўперад, і сказаў сам сабе: "І з гэтым пасварыўся. А навошта? На халеру ён мне трэба?"

Хлопец зірнуў у змрочнае неба, навіслае над зямлёю, на нізенькую хатку, урослую ў зямлю ледзь не па вокны, уздыхнуў і пайшоў шырокім размашыстым крокам па цвёрдай замерзлай дарозе. У Сцяблове Гардзей зайшоў да Маркевіча, застаў яго дома. Гаспадар не надта ўзрадаваўся, але не падаў выгляду, толькі сказаў з дакорам:

— Ты не павінен да мяне так часта наведвацца.

— Прабач, у мяне ёсць навіна. Мяне не зацвердзілі войтам.

— Чаму?

— Для гэтай улады я чалавек ненадзейны, зацвердзілі Бяляцкага.

— Ненадзейны? Значыць, ты ўжо пад каўпаком? Тым больш нам не трэба сустракацца на людзях.

— Цяпер я пераканаўся, што з гэтай уладай трэба змагацца сілай, а сілы ў нас малыя, — падвёў выснову Гардзей.

— У народа сіла невычэрпная, трэба толькі яго падняць. У хуткім часе адбудзецца чарговая канферэнцыя, чакай ад мяне сувязнога. Сам мяне не шукай. Гэта загад.

— Я зразумеў, — адказаў Гардзей, развітаўся і выйшаў у вечаровыя прыцемкі.

Змрок, які ахутаў зямлю, запаўзаў у душу, сеяў смутную трывогу, апаноўваў стомай і безнадзейнасцю. Гардзей шукаў адказ на пытанні, чаму нікому не патрэбны ні яго розум, ні здольнасці, ні імкненне зрабіць людзей шчаслівейшымі, і не знаходзіў ніякага тлумачэння. Міжвольна падумалася, што, мабыць, гэтак жа адчуваюць сябе тысячы іншых людзей, а ніхто нават і не задумваецца, жывые, як набяжыць. Для нечага ж дае нам Бог жыццё. Трэба толькі разгадаць, зразумець, знайсці той адзіны свой шлях.

## Працяг тэмы

Размова пра культурныя прыярытэты нашага грамадства, пра перспектывы эстэтычнага выхавання новых пакаленняў беларусаў, пра набалелыя праблемы ў стасунках музыкантаў, дзеячаў тэатра, педагогаў, бацькоў з дзіцячай і маладзёжнай аўдыторыяй распачалася на старонках "ЛіМа" яшчэ пазалетась — палемічным выступленнем дацэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Н. Сцепанцовай (гл. артыкул "Ад еўрапейскіх «тусовак» да любаснай правінцыі" ў нумары за 19. 09. 08 г.). І тэма не страчвае актуальнасці: мы адчуваем гэта па тэлефонных водгуках і пісьмах нашых чытачоў, па новых матэрыялах няштатных аўтараў. Сёлета пад рубрыкай "Працяг тэмы" быў змешчаны ліст чытачкі "ЛіМа" А. Брацаннікавай ("Пажаданні ТЮГу", нумар за 15. 01. 10 г.) і водгукі на яго (гл. "ЛіМ" за 12. 02. 10 г.), а таксама публікацыя "Не стары, ды забыты тэатр" К. Пучыка (12. 03. 10 г.) пра надзённыя праблемы школьных тэатральных класаў. Аўтар сённяшняга артыкула М. Масціцкая звяртае ўвагу на самыя складаныя і тонкія аспекты ў выхаванні юных музыкантаў, і яе развагі зацікавяць не толькі спецыялістаў.

Аддзел мастацтваў "ЛіМа"

# Дзеці вучацца іграць

Вучань выйшаў на сцэну, сеў за інструмент — і … Педагог не заўсёды можа прадбачыць, што зараз пачуе ён і слухачы, якія сядзяць у зале. Мабыць, вучань сыграе невыразна і аднастайна; мабыць, для яго самым галоўным будзе дайсці да інструмента, а калі ён сядзе за раяль, дык хваляванне знікне, і мы пачуем яскравае канцэртнае выкананне. А можа быць і такі варыянт: здарыцца правал у памяці, і вучань пачне імправізаваць у тым жа рытме і стылі, у якім напісаны твор, пакуль не ўспомніць нотны тэкст, і паспяхова дайграе да канца. Ці такі: вучаніца перад выступленнем аддасць акуляры сяброўцы, бо нафарбавала вочы, а за акулярамі ніхто не ўбачыць іх прыгажосці, і будзе іграць усляпую, і клавішы будуць дваіцца, але яна ўсё роўна сыграе, прытым без асаблівых страт.

Дзеці, якія навучаюцца музыцы, у асноўным сур'ёзна ставяцца да заняткаў. А педагог, укладаючы ў вучня і ўвесь свой досвед, і душу, безумоўна, спадзяецца, што яго выхаванец данясе набытыя веды і навыкі да слухача. І тым не менш, вынік выступлення непрадказальны, бо стабільная іграа на сцэне, менавіта выразнае канцэртнае прафесійнае выкананне юнага музыкі (прафесійнае, безумоўна, у адпаведнасці з яго магчымасцямі і ўзростам) — гэта вялікая сур'ёзная праблема, якая вырашаецца складана, па-рознаму ў кожным індывідуальным выпадку.

Як зрабіць выкананне стабільным — гэта хвалюе мяне, як і іншых педагогаў, не толькі выкладчыкаў фартэпіяна. На якія аспекты навучання трэба звяртаць увагу педагогу, каб сцэна зрабілася для вучня амаль родным домам; каб юны піяніст адчуваў сябе больш камфортна, якія б пачуцці яго ні апаноўвалі; каб ёмістая праца, зробленая разам з педагогам, не страчвалася ў час выканання?

Складнікаў сцэнічнага поспеху шмат. Спынюся на некаторых.

На пачатковым этапе заняткаў, думаю, першая і галоўная задача — запаліць агеньчык цікавасці ў маленькіх вучняў. Тады пасля кожнага ўрока іх вочы будуць поўныя радасці ад таго, што ім падабаецца і педагог, і фартэпіяна, і самі заняткі на ім. Адразу вырашаецца і праблема наладжвання псіхалагічнага кантакту з вучнем, адбываецца прывыканне і прыстасоўванне вучня да настаўніка, ім робіцца камфортна ў асяроддзі адно аднаго. Наступны этап працы — пабудова сістэмы стабільных заняткаў не толькі ў класе, але і ў хатніх умовах праз стасункі "настаўнік — вучань — бацькі". На жаль, многія бацькі дужа занятыя на працы, дзеці знаходзяцца ў групах падоўжанага дня, таму ўзаемаадносіны настаўніка і бацькоў ладзяцца толькі па тэлефоне. Аднак, калі бацькі адчуваюць вашу неабыякавасць да іх дзіцяці і ведаюць, што яму падабаецца ў вас вучыцца, дык абавязкова падтрымаюць усе ініцыятывы педагога.

Найбольш спрыяльныя ўмовы для развіцця творчага патэнцыялу вучня стварае ансамблевая ігра. У калектыве дзеці адчуваюць сябе больш упэўненымі, смялей і ярчэй раскрываюць свае здольнасці. Калектыўнае музіцыраванне выхоўвае такія якасці, як узаемаразуменне, адказнасць, ініцыятыўнасць, дысцыплінаванасць, развівае поліфанічны слых і ўвогуле — мысленне. Бо ў адрозненне ад саліста ўдзельнік ансамбля павінен слухаць не толькі сябе, але і свайго партнёра і гучанне ансамбля ў цэлым. Самае ж галоўнае — удзельнік ансамблевай ігры адчувае сябе на сцэне больш упэўнена, чым саліст, лягчэй спраўляецца з хваляваннем.

Дарэчы, перспектыва публічнага выступлення дадае вучню энергіі, акрэслівае сэнс яго штодзённай працы за інструментам. Сцэна — гэта ўрэшце стымул для дзяцей: апладысменты, захапленне ў вачах аднакласнікаў і бацькоў, ухвала, пачуццё задавальнення і значнасці, радасць ад ігры на інструменце! Але спачатку вучню трэба адолець доўгі перыяд падрыхтоўкі праграмы, карпатлівай, пажадана штодзённай працы за інструментам, пэўнага самаабмежавання. І, зразумела, — падрыхтаваць сябе псіхалагічна да канцэртнага выступлення, што з'яўляецца адной з галоўных і важных задач, якую павінен вырашыць педагог у кожным індывідуальным выпадку.

Уласна выканальніцкае майстэрства — складаны і тонкі працэс, які залежыць ад фізічнага і маральнага стану таго, хто знаходзіцца на сцэне, бо кожны юны выканаўца — гэта найперш дзіця, якое трапіла ў незвычайныя для яго, стрэсавыя ўмовы, і таму без фізічнай падрыхтаванасці, без трэніраваных мышцаў цяжка добра выканаць праграму на сцэне. Паспяховасць выступлення залежыць не толькі ад якасці і надзейнасці засваення твораў, але і ад узроўню псіхалагічнай падрыхтаванасці вучня да кантакту з публікай. Хто ж не ведае: у самых розных сітуацыях залішняе хваляванне не дазваляе карыстацца ні магчымасцямі розуму, ні энергапатэнцыялам, а часам прыводзіць да краху задуманага. А як жа дзіцяці настроіцца на выступленне? Якія "ўнутраныя механізмы" варта ўключыць для дасягнення поспеху на сцэне? Настаўніку варта звярнуць увагу на тое, да якога псіхалагічнага тыпу адносіцца вучань: з'яўляецца ён экстравертам ці інтравертам. Псіхалагічная настройка вучня-экстраверта будзе доўгай, бо псіхіка такіх людзей, імпульсіўных і спантанных, вымагае большага кантролю. Прычым нават адзінкавае няўдалае выступленне можа назаўсёды пакінуць негатыўны след — пачуццё няўпэўненасці і боязь сцэны. Інтраверты, "скіраваныя" ў свой асабісты свет, замкнёныя, негаваркія маюць цяжкасці, як правіла, з раскрыццём мастацкага вобраза на сцэне. "Раскрыцца" перад публікай — галоўная псіхалагічная задача, якую павінны вырашыць педагог і так і вучань.

Выступленне музыканта з даўніх часоў і дагэтуль застаецца загадкавым і насычаным дзеяннем. І нам, педагогам, у цесным супрацоўніцтве з бацькамі неабходна далікатна падтрымліваць творчы стан юнага выканаўцы, ствараючы ўмовы для максімальнага развіцця яго таленту.

Марына МАСЦІЦКАЯ,
кіраўнік метадычнага
аб'яднання фартэпіяннага
аддзялення сярэдняй школы
№ 157 г. Мінска

# Музей адраджэння эмоцый

20 гадоў. У чалавечым грамадстве гэта ўзрост новага пакалення. У гісторыі ж — імгненне: або яскравае, або прыкметнае, або зусім незаўважнае. Усё адносна... Мабыць, таму супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі, справа якіх — адраджаць і захоўваць памяць пра натхнёны творчасцю імгненні далёкай і нядаўняй мінуўшчыны ды ладзіць духоўныя повязі між рознымі пакаленнямі, падтрымліваць гістарычную пераемнасць, неператвараюць 20-годдзе сваёй установы ў юбілейную падзею. Для калектыву музея гэта проста знамянальная дата, якую ён адзначыў новай выстаўкай.

Заснаваны ў 1990-м Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі першае дзесяцігоддзе свайго існавання месціўся ў будынку цяперашняга філіяла — "Гасцёўні Уладзіслава Галубка". Затым пераехаў у адрэстаўраваную камяніцу XIX стагоддзя — г.зв. "Дом масонаў". Афіцыйная імпрэза з нагоды ўваходзінаў музея ў новае памяшканне адбылася 10 студзеня 2002-га, пра што мы падрабязна распавялі (гл. "ЛіМ" за 25.01.02 г.) і ўжо з таго часу пачалі зацікаўлена сачыць за жыццём у гістарычным будынку па адрасе Музычны завулак, 5.







Адкрыццё першай пастаяннай экспазіцыі — "Выток тэатральнай і музычнай культуры на беларускіх землях", дзе прадстаўлены, прынамсі, найбольш характэрныя для Беларусі музычныя інструменты і рэгіянальныя варыянты батлейкі — нашага народнага тэатра. І наступныя экспазіцыі, прысвечаныя, адпаведна, музычнай і тэатральнай культурам XX стагоддзя. І апошняя, прадстаўленая летась, — яна паказвае развіццё музычнай культуры ўсіх традыцыйных канфесій, хрысціянскіх і нехрысціянскіх, спрадвек распаўсюджаных на беларускіх землях, а таксама дзейнасць школьных ды магнацкіх тэатраў. Мемарыяльныя пакоі, прысвечаныя выдатным дзеячам нацыянальнай сцэны: Л. Александроўскай, С. Станюце, акцёрскай дынастыі Ярменкаў. Зала, экспанаты якой распавядаюць пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча ды С. Манюшкі. А яшчэ — зменныя выстаўкі, прэзентацыі навуковых праектаў, музычныя вечарыны, сустрэчы з нагоды памятных дат і творчых юбілеяў...

Калі згадаць усе адметныя падзеі ды імпрэзы, што адбываліся ў гэтым гасцінным творчым доме і адлюстроўваліся на старонках "ЛіМа", атрымаецца не зусім звычайны летапіс: жывы, стракаты, захапляльны! Не здарма гэты музей называюць музеем адраджэння эмоцый, бо яго руплівцы імкнуцца прадоўжыць жыццё самых тонкіх і эфемерных мастацтваў. Адгучыць музыка; скончыцца спектакль; аціхнуць воплескі; сплывуць гады; зменяцца пакаленні выканаўцаў і гледачоў — а старыя інструменты і афішы, нотныя рукапісы і тэатральныя праграмкі, асабістыя рэчы акцёраў і сцэнічныя строі, замалёўкі мастакоў і архіўныя фотаздымкі, сабраныя ў гэтых сценах, дапамогуць узнавіць цудоўныя імгненні, абудзіць хвалю шчырых эмоцый ад сустрэчы з неўміручым светам творчасці.

"Узнавіць і захаваць" — так назвалі супрацоўнікі музея сваю новую выстаўку і ўключылі ў яе архіўныя матэрыялы па гісторыі будынка, (яму споўнілася 200 гадоў, і пра гэты помнік архітэктуры мы раскажам асобна), а таксама экспанаты з фондаў музея, якія не ўвайшлі ў пастаянную экспазіцыю. Вернісажу папярэднічаў канцэрт студэнтаў-вакалістаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Адбылася і віншавальная імпрэза з удзелам афіцыйных асоб, шматлікіх сяброў музея, прадстаўнікоў грамадскіх культурных арганізацый.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі Зінаіда Кучар і дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Мацевасян; лялькі, зробленыя вядомай артысткай Зояй Белахвосцік, і тэатральныя касцюмы; работа невядомага мастака "Партрэт народнай артысткі БССР і СССР Аляксандры Клімавай".

Фота Віктара Кавалёва

## Радуемся разам



"Оскарамі" айчыннага сцэнічнага мастацтва называюць крыштальныя статуэткі, якімі ўжо 18 гадоў запар Беларускі саюз тэатральных дзеячаў адзначае лепшых у гэтай галіне. Сёлета яго старшыня Аляксей Дударaў у Міжнародны дзень тэатра ўручыў пачэсныя прафесійныя ўзнагароды народнаму артысту Беларусі купалаўцу Генадзю Гарбуку ("Крыштальная Паўлінка" за яскравае жыццё ў тэатры), актрысе Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Галіне Букацінай ("Крыштальная зорка" за вялікі ўнёсак у развіццё тэатральнага мастацтва), артысцы Гродзенскага абласнога тэатра лялек Ларысе Мікуліч ("Крыштальны анёл" за выдатную працу ў сваім жанры), артыстцы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Валянціне Гарцуевай ("Крыштальная кветка" за акцёрскі дэбют). Групе дзеячаў сцэны міністр культуры краіны Павел Латушка ўручыў Ганаровыя знакі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Мажорныя, напоўненыя подыхам жывой расквітнелай прыроды, адметныя сакавітай дэкаратыўнасцю і кампазіцыйнай выразнасцю нацюрморты Валяр'яны Жолтак — нібы крыніца свята. Яшчэ ўзімку ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Л.Шчамялёва ў межах праекта "Прыватная калекцыя" ладзілася выстаўка "Крыху пра Валяр'яну Жолтак", якая дадала колькі мала-



вядомых штрыхоў да партрэта гэтай незабыўнай спадкаемцы традыцый славутай "віцебскай школы". Выстаўка "Кола часу", прымеркаваная да 90-годдзя з дня нараджэння В. Жолтак, прайшла нядаўна ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Апроч узораў жывапісу мастачкі, якая з асаблівым захапленнем малявала кветкі (таксама натхнялася роднымі краявідамі, працавала і ў жанры партрэта), былі прадстаўлены дакументальныя матэрыялы, сямейныя фота.



Свой стыль жывапісу гомельскі мастак і паэт Іван Саладоўнік называе "пуантыкалор". Праз мазаічнае "маляванне кропкамі" ён стварае эмацыйную прастору, працятую жыццядайнай энергіяй раслін, свежага паветра, сонца. І падтрымлівае жывапісны код сваіх карцін кодам слоўным — сімвалічнымі подпісамі. Падзівіцца на творчасць гэтага таленавітага ўраджэнца Браншчыны, які атрымаў у Беларусі адукацыю інжынера-чыгуначніка, працаваў у Гомельскім аддзяленні Беларускай чыгункі, а затым — на кіруючых пасадах у аблвыканкаме, можна ў Музеі гісторыі горада Гомеля. Там да 11 красавіка працуе выстаўка "Квітнеючае сонца саду. Дэкаратыўны жывапіс і празаічныя вершы Івана Саладоўніка".

Лана ІВАНОВА

На здымках: "Лета" Валяр'яны Жолтак; Іван Саладоўнік на вернісажы.

Фота Віктара Кавалёва

Значнай ды прадстаўнічай падзеяй у культурным жыцці нашай краіны назваў персанальную выстаўку жывапісу "Фрагменты Вавілонскай вежы" знанага мастака Віктара Альшэўскага ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі яго дырэктар Уладзімір Пракапцоў.

На вернісаж наведаліся прэм'ер-міністр Сяргей Сідорскі, старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Барыс Батура, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Анатоль Глаз, прадстаўнікі міністэрстваў, дыпламатычнага корпуса ў нашай краіне, творчай інтэлігенцыі, сябры і прыхільнікі творчасці Віктара Альшэўскага.





# Да будучыні… праз мінулае

Міністр культуры Беларусі Павел Латушка, якому неаднойчы даводзілася адкрываць выстаўкі Віктара Альшэўскага ў замежжы і тым самым прадстаўляць беларускую культуру на высокім узроўні, зазначыў сімвалічнасць Вавілонскай вежы, з дапамогай якой чалавек праз матэрыяльнае дамагаўся дайсці да Бога, але зразумеў, што гэта магчыма зрабіць толькі праз духоўнасць. І вельмі важна, што ў філасофіі мастацтва Віктара Уладзіміравіча галоўным з'яўляецца духоўнасць. Дзякуючы менавіта гэтаму падыходу, гэтай Вавілонскай вежы мы маем адзін з фрагментаў беларускага выяўленчага мастацтва як складніка знакамітай ва ўсім свеце сучаснай беларускай мастацкай школы.

Міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў таксама падкрэсліў вельмі актыўную выставачную дзейнасць творцы, работы якога сталі неад'емнай часткай высокага іміджу беларускага мастацтва і культуры за межамі нашай краіны. Экспазіцыя "Фрагменты Вавілонскай вежы", бясспрэчна, — вялікае свята не толькі для В. Альшэўскага, але і для яго сяброў. Глыбокая паэтычная творчасць Альшэўскага заўсёды надае жыццю святочнасці і лёгкага флёру загадкавасці.

Як вядома, мастакамі нараджаюцца. Але, каб спраўдзіцца ў жыцці і спраўдзіць свае мары, шмат у чым дапамагаюць спецыялізаваныя навучальныя ўстановы і таленавітыя настаўнікі. Рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Рычард Смольскі ахарактарызаваў Віктара Альшэўскага як стваральніка прыгажосці, філосафа беларускага выяўленчага мастацтва. Дадзеная выстаўка — падзея значная для культурнага жыцця, але перш за ўсё яна значная для БДАМ, для мастацкага факультэта і студэнтаў, якія ганарацца тым, што сярод іх выкладчыкаў знаходзіцца такі выдатны творца і настаўнік. Альшэўскі з той катэгорыі рэдкіх мастакоў, якія ставяцца да жыцця і адлюстроўваюць яго ў мастацтве сапраўды як філосафы.

Віноўцу ўрачыстасці віншавалі таксама першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, землякі, у прыватнасці супрацоўнікі Магілёўскага абласнога мастацкага музея імя П. Масленікава, Бялыніцкага раённага мастацкага музея імя В. Бялыніцкага-Бірулі…





Віктар Альшэўскі нарадзіўся ў вёсцы Вугольшчына Бялыніцкага раёна. Вучыўся ў Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка (1965 — 1972), закончыў аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (1980), творчыя майстэрні Акадэміі мастацтваў СССР у Мінску (1984). Ён з'яўляецца прафесарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Вучыўся ў Гаўрылы Вашчанкі, Віктара Нямцова, Міхаіла Савіцкага. У мінулым годзе стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за серыю жывапісных твораў для залы ўрачыстых пасяджэнняў Гомельскага палаца-паркавага ансамбля. Работы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Бялыніцкім раённым мастацкім музеі імя В. Бялыніцкага-Бірулі, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, у карцінных галерэях і прыватных зборах у Беларусі, Расіі, Швецыі, Германіі, Італіі, ЗША, Польшчы, Нарвегіі і іншых краінах.



У мінулым годзе Віктарам Альшэўскім быў распачаты праект "Легенды нашай цывілізацыі", прысвечаны Году роднай зямлі. Выстаўкі ладзіліся на роднай Магілёўшчыне: у Бялынічах, Шклове, Крычаве, Асіповічах, Бабруйску, Магілёве. Сімвалічна і важна, што мастак звярнуўся да сваіх вытокаў, крыніц свайго таленту: адкуль ён паходзіць, дзе ён нарадзіўся, адкуль вытокі менавіта яго крыніцы духоўнасці. Са слоў творцы, праект "Легенды нашай цывілізацыі" — легенды малых і вялікіх гарадоў нашай краіны і зямной цывілізацыі. У праекце знітаваліся, зліліся ў адно цэлае лёсы, светабачанне, ідэалогія, псіхалогія вёсак, невялікіх гарадоў, сталіц і паданні розных народаў.

"Фрагменты Вавілонскай вежы" — працяг выставачнага праекта "Легенды нашай цывілізацыі". Вавілонская вежа — міфічны вобраз імкнення чалавека да неабсяжнага пазнання. Але на працягу тысячагоддзяў на зямлі стваралася іншая вежа — духоўнай культуры. Кожная цывілізацыя, кожны народ і чалавек укладвалі ў падмурак гэтай вежы цаглінкі і разуменне сутнасці жыцця, свайго прызначэння на зямлі, духоўнага сталення.

Віктар Альшэўскі ўпэўнены, што свядомасць чалавека грунтуецца на фрагментарным мысленні. Уражанні, атрыманыя ў працэсе жыцця, — гэта тыя фрагменты зямнога падарожжа чалавека, якія фарміруюць яго як асобу. Фрагмент у нашым разуменні з'яўляецца часткай цэлага. Цэласная форма становіцца такой у выніку пэўных гарманічных узаемасувязяў гістарычных эпох.

Сёння мы спасцігаем разрозненыя фрагменты зямных цывілізацый. Час разбурае, сцірае сляды намаганняў чалавека, матэрыяльнай культуры, зводзіць у забыццё і дасягненні культуры духоўнай. На жаль, вельмі часта гэта робіцца рукамі самога чалавека. Незлічоныя падзеі мінулага засведчаны ў вобразнай пластыцы архітэктурных пабудоў, у скульптурных формах з каменю і металу, у знакавых сістэмах пісьменства, музыкі… Неверагодныя напластаванні сутнасці формаў, сэнсу, знакаў фарміруюць гістарычную памяць, веды чалавецтва, культурны і духоўны змест кожнага чалавека і дораць адчуванне бясконцасці, вечнасці душы.

Наша сучасная культура — фрагмент, пакладзены ў сцяну Вялікай Вавілонскай вежы, агульнай духоўнай ідэі, якая павінна наблізіць нас да ісціны. У ёй заключаны канкрэтнасць і бясконцасць, радасць новых адкрыццяў і расчараванне ў ранейшых поглядах-аксіёмах, будаўніцтва і разбурэнне адначасова. Мы ідзём да будучыні праз мінулае, засвойваем яго падзеі, вопыт як уласныя ўражанні…

У сяго ў экспазіцыі дэманструецца каля шасцідзесяці работ. Прыцягваюць красамоўныя, насычаныя фарбамі палотны "Свята для кветкі", "Рыбкі для вялікага акварыума", "Аранжавая мелодыя", "Ружаны", "Дзяцінства", памайстэрску фрагментарна аб'яднаныя "У дзень нараджэння Вікторыі", "Шлях з Пальміры ў Мір", "Ілюзія раўнавагі", "Трансфармацыя", "Рух свядомасці", "Траекторыя". Карціны выпраменьваюць цеплыню і затоеную радасць, дазваляюць засяродзіцца і патрапіць у той асаблівы, пазбаўлены штодзённай мітусні свет, які завецца спакоем ды гармоніяй. Ёсць на выстаўцы і серыя партрэтаў: "Партрэт акадэміка Міхаіла Высоцкага", "Сямейны партрэт Хінтэрштокераў", "Партрэт маці", "Партрэт Валянціна Елізар'ева"… Увогуле, работы выклікаюць не проста эстэтычныя эмоцыі, а цэлы шэраг пытанняў, глыбока філасофскіх, пра сэнс быцця.

Карціна "Фрагменты Вавілонскай вежы", якая дала назву выстаўцы, складаецца з трынаццаці фрагментаў. Гэта не проста твор мастацтва, але і ўвесь творчы шлях В. Альшэўскага, яго імкненне выказаць узаемасувязь розных цывілізацый. Задумы работ і кампазіцый сведчаць пра духоўную сталасць аўтара, пра глыбокае асэнсаванне тэм. На карцінах яны пазначаны ўмоўна, знакава — выявамі тых ці іншых аб'ектаў, якія сталі візітоўкамі гэтых цывілізацый, краін, народаў. Тут увасоблены сфінкс Старажытнага Егіпта, Ангкор-Ват — помнік культуры Камбоджы, піраміды Чычэн-Іца (Мексіка), лодка вікінгаў (Нарвегія), велічны і казачны Махабаліпурам (Індыя), тэракотавае войска Цінь Шы Хуандзі (Кітай), венецыянскі леў (Італія), Пальміра (Сірыя), Петра (Іарданія), Пергамскі алтар (Малая Азія), карыятыды Акропаля (Грэцыя) і Эфеса (Турцыя), Старое прадмесце Варшавы (Польшча) і Кападокія (Турцыя), Крамлёўскія куранты (Расія)… Родная Беларусь прадстаўлена старажытным Мірскім замкам. Ачольвае велічную кампазіцыю палатно "Лабірынт свядомасці".

Акрамя знакавых помнікаў архітэктуры, "Фрагменты Вавілонскай вежы" спалучаюць у сабе помнікі культуры ў самым шырокім сэнсе: навукі, музыкі, літаратуры, усіх відаў духоўнай дзейнасці чалавека на зямлі. Яны нібы зляпкі, у якіх праявіліся асаблівасці культуры і побыту народаў розных краін і кантынентаў. Архітэктура збудаванняў уражвае непаўторнасцю стыляў і багаццем фантазіі іх творцаў. Работы мастака, у якіх увасобілася геаграфія яго падарожжаў, даюць магчымасць наведвальніку выстаўкі прайсці гэты шлях разам з аўтарам.

Віктар Альшэўскі робіць акцэнт на тым, што "Фрагменты…" — спроба аб'яднаць свет, сказаць сучаснікам, як моцна мы звязаны з блізкім і далёкім — як у прасторы, так і ў часе. Наколькі людзі ўзаемазалежныя, а час — суцэльная плынь. Бо чалавецтва — адна сям'я. Нам трэба жыць ва ўзаемапаваге, памяркоўнасці і паразуменні. Захаваць сёння нашу агульную вежу — даць шанс нашчадкам весці яе будаўніцтва далей.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: В. Альшэўскі, С. Сідорскі, Б. Батура; работы мастака.

Фота аўтара

Паставы на працягу свайго існавання былі невялічкім горадам, які рэдка аказваўся ў гушчыні вялікіх падзей і здарэнняў. Жыццёвыя шляхі знакамітых людзей, што раскручвалі спіраль гісторыі, звычайна праходзілі далёка адсюль. Але надаралася, што па вуліцах шпацыравалі асобы, чые імёны ведае любы адукаваны чалавек.



# Аб'яднала іх парфорснае паляванне

Вялікі князь, генерал, унук расійскага імператара Мікалай Раманаў, вядомы палкаводзец, генерал-ад'ютант Аляксей Брусілаў, расійскі дыпламат, пісьменнік генерал-лейтэнант Аляксей Ігнацьеў, казачы атаман, князь, пісьменнік Пётр Красноў, прэзідэнт Фінляндыі Карл Густаў Манергейм, адзін з першых расійскіх кінарэжысёраў і аператараў Аляксандр Дранкоў. Верагодна, што тут бывалі апошні гетман Украіны Павел Скарападскі, генерал Урангель. Якім чынам гэтыя людзі патрапілі ў Паставы? Іх аб'яднала афіцэрская кавалерыйская школа і парфорснае паляванне.

Афіцэрская кавалерыйская школа — ваенна-навучальная ўстанова расійскага імператарскага войска, якая ў пачатку XX стагоддзя размяшчалася ў Санкт-Пецярбургу. На той час конніца складала асноўную баявую частку войска, і таму перад школай ставіўся шэраг задач. Яна павінна была весці падрыхтоўку афіцэраў кавалерыі і казацкіх войскаў для камандавання эскадронам або сотняй, а таксама дасведчаных наезнікаў унтэр-афіцэрскага звання ды спецыялістаў у кавальскай справе.

За час вучобы ў школе афіцэрам трэба было засвоіць шэраг тэарэтычных прадметаў і прайсці пэўныя практычныя выпрабаванні. Тэорыя была прадстаўлена такімі курсамі, як правілы верхавой язды, выхаванне і выездка коней, тактыка, звесткі пра ручную зброю, правілы кавальскай справы. У практычныя заняткі ўключаліся парфорснае паляванне, далёкія марш-кідкі, рашэнне тактычных задач на планах і іншае.

Вялікую ролю ў рэарганізацыі школы адыграў вялікі князь Мікалай Раманаў. Менавіта ён, заняўшы пасаду генерал-інспектара кавалерыі, увёў больш жорсткія патрабаванні для афіцэраў, якія прэтэндавалі на камандаванне эскадронамі, абавязаўшы іх прайсці курс навучання ў афіцэрскай кавалерыйскай школе. Ім былі арганізаваны парфорсныя паляванні ў Паставах як неад'емная частка развіцця практычных навыкаў верхавой язды.

З 1 жніўня да 1 кастрычніка ў гэты беларускі гарадок для трэніровак і правядзення парфорснага палявання прыязджалі з Санкт-Пецярбурга кавалерысты. Тут былі арандаваныя ў графа Пшаздзецкага яго велізарныя ўгоддзі, дзе з 1900 па 1913 год дзейнічала практычная афіцэрская кавалерыйская школа.

Пасля пецярбургскіх дажджоў і туманаў афіцэры траплялі на Пастаўшчыне ў пачатак залатой восені. Вось як апісвае ўражанні ад тутэйшых мясцін былы кіраўнік казацкага аддзела пісьменнік П.Красноў: "Тут, у Паставах, сапраўды яшчэ працягвалася чырвонае лета. Бясхмарнае неба падавалася высокае. Сонца грэла. У садах віселі залатыя яблыкі і сінія слівы. У кветніку перад школьным палацам бурна квітнелі высокія далікатныя флёксы, пярэстыя вярбены і цёмныя, касматыя астры і даліі…".

Афіцэры размяшчаліся ў паляўнічым палацы, які стаяў на высокім узгорыстым беразе Мядзелкі, коні ж і салдаты, што наглядалі за імі, — у стайнях і маленькай казарме на супрацьлеглым баку ракі.

Паляўнічы палац уяўляў сабой вялікі трохпавярховы будынак, акружаны цяністым гаем з алеямі. На ніжнім, каменным, паверсе знаходзілася вялікая сталовая на паўтары сотні чалавек, бібліятэка, більярдная, кватэры начальніка школы і яго памочніка і некалькі пакояў для гульні ў карты, а таксама вялікая веранда, якая была абстаўлена нізкімі шэзлонгамі і маленькімі столікамі. На другім, драўляным, паверсе размяшчаліся спальні для афіцэраў і ўмывальныя пакоі. На трэцім жылі дзеншчыкі. Усяго ў палацы налічвалася больш як 100 пакояў для афіцэраў і гасцей.

У паляўнічы комплекс уваходзілі таксама стайні на дзвесце коней, звярынец для аленяў і псярня. Акрамя гэтага, былі абсталяваныя траса для скачак і поле для выездкі. Для адпачынку гасцей меліся тэнісныя корты.

У 1901 годзе вялікі князь Мікалай Мікалаевіч наведаў Паставы і ўдзельнічаў у паляванні.

Парфорснае паляванне (ад французскага "par force" — браць сілай) — гэта такі від палявання, калі звер бярэцца ганчакамі без дапамогі чалавека або агнястрэльнай зброі. У ім удзельнічаюць, як правіла, адна або некалькі зграй ганчакоў па 30 — 40 сабак у кожнай. Сабак суправаджаюць конныя паляўнічыя. Правілы палявання, якія складаліся стагоддзямі, рэгламентуюць усе дробязі, аж да гарнітураў.

Калі ў ваколіцах Паўночнай сталіцы парфорснае паляванне было спрошчаным, без сур'ёзных перашкодаў і ладзілася па штучным следзе, то ў Паставах праграма была нашмат больш складаная. І многія афіцэры, асабліва тыя, хто не вельмі ўпэўнена адчуваў сябе на кані, баяліся пастаўскіх перашкод. Барон Манергейм гаварыў: "Паляванне з "вывалачкай" (навучанай лісой) — гэта не парфорс! Сапраўднае паляванне можна зведаць толькі ў Паставах графа Пшаздзецкага".

Парфорсныя паляванні падзяляліся на два віды: паляванне па штучным следзе і па жывым зверы.

Паляванне па штучным следзе з'яўлялася падрыхтоўчым практыкаваннем. Начальнікам палявання ("мастэрам") вызначаўся маршрут зададзенай працягласці, з вызначанымі характарам грунта і мясцовасці, колькасцю і відам перашкод. Некаторыя натуральныя перашкоды адмыслова ўскладняліся.

Па маршруце пракладаўся след: па зямлі працягвалася губка, якая была змочана спецыфічным пахам якога-небудзь звера, найчасцей — лісы. Сабакі, наведзеныя на след, ішлі вельмі хутка, а ўдзельнікі былі абавязаныя ехаць у пэўным парадку за начальнікам палявання, не адстаючы і не адхіляючыся ў бакі. Такім чынам, начальнік палявання, павялічваючы дыстанцыю, колькасць і памеры перашкодаў, рыхтаваў удзельнікаў да самастойнай язды па мясцовасці.

На паляванні па жывым звяры ўдзельнікі атрымлівалі амаль поўную самастойнасць, забаранялася толькі абганяць сабак і даездчыкаў, выскокваючы наперад або ўбок. Ні хуткасць руху, ні кірунак, ні колькасць перашкод загадзя не былі вядомыя. Паляўнічыя самі выбіралі, дзе ехаць і як пераадольваць перашкоды, але павінны былі паспець да часу, калі сабакі возьмуць звера. Вокрыкі "Ала-лі" былі сімвалам заканчэння палявання. Тым з афіцэраў, хто не паспеў да гэтага моманту пад'ехаць да звера, парфорс не залічваўся.

Паколькі на парфорсныя паляванні ў Паставы прыязджалі вядомыя гістарычныя асобы, у тым ліку і члены рускай імператарскай сям'і, то мястэчка не магло застацца незаўважаным для кінадакументалістаў, фатографаў і літаратараў. У пачатку XX стагоддзя было выпушчана некалькі фотакартак з адлюстраваннямі эпізодаў заняткаў у афіцэрскай кавалерыйскай школе. А ў 1908 годзе кінапрадпрымальнікам і рэжысёрам А. Дранковым зняты невялікі дакументальны фільм "Кавалерыйская школа ў Паставах", які захаваўся да нашых дзён.

З літаратурных твораў, у якіх згадваецца Пастаўская кавалерыйская школа, найбольш адметным з'яўляецца раман "Largo" былога кіраўніка казацкага аддзела школы атамана П. Краснова, які неаднаразова бываў у Паставах. У яго творы лёс герояў, кавалерыйскіх афіцэраў Петрыка і Партоса складваецца так, што яны трапляюць у паляўнічы замак Пшаздзецкага, дзе разам з іншымі курсантамі ўдзельнічаюць у розных мерапрыемствах. Падрабязна, эмацыянальна і жыва апісаны ўвесь працэс парфорснага палявання, а лірычныя адступленні вымалёўваюць прыгожыя краявіды пастаўскай прыроды.

З цікавасцю чытаюцца ўспаміны палкоўніка М. Мурахоўскага ў кнізе "Былое (З успамінаў Кавалерыйскага Афіцэра)". Важным гістарычным дакументам пра Пастаўскую кавалерыйскую школу з'яўляюцца фотаальбомы "Парфорснае паляванне афіцэрскай кавалерыйскай школы ў мястэчку "Паставы" Віленскай губерніі. 1900 год" і "Парфорснае паляванне афіцэрскай кавалерыйскай школы ў маёнтку "Паставы" Віленскай губ. 1902 год", укладальнікам і аўтарам ілюстрацый да якіх быў паручнік 41-га драгунскага Ямбургскага палка А.Далматаў.

Вядомы савецкі пісьменнік В.Пікуль сваіх літаратурных герояў гістарычнага рамана "Честь имею!" таксама правёў праз парфорснае паляванне ў Паставах і пазнаёміў чытачоў з загадкавай жанчынай, "багіняй палявання" Цэцыліяй Вылежынскай…

Ігар ПРАКАПОВІЧ

На здымку: Палац Пшаздзецкага ў Паставах, канец XIX – пачатак XX ст.



# Пецярбургская справа Іясафата Агрызкі

Знаёмячыся з эпістальярнай спадчынай рускага літаратурнага крытыка і публіцыста Міхаіла Дабралюбава, я звярнуў увагу на адзін ліст, які ён напісаў 24 мая 1859 года і даслаў свайму былому аднакурсніку па Галоўным педагагічным інстытуце, аднаму з самых адданых і блізкіх сяброў Міхаілу Шыманоўскаму. У лісце Мікалай Дабралюбаў расказваў пра надзвычайную падзею, якая адбылася нядаўна ў Пецярбургу: "Слова" польскае забаронена, рэдактар Агрызка сядзеў у крэпасці па патрабаванні Гарчакава Варшаўскага, пад выглядам дачыненняў з эмігрантамі, з той нагоды, што надрукаваны быў у "Slowie" ліст Лелевеля, абсалютна бяскрыўднага зместу. Агрызку пасадзілі было на месяц. Алеімператару прадставілі да дваццаці (расказваюць) дакладных запісак і прыватных лістоў па гэтай справе (у ліку іх былі – адзін ад Тургенева і другі ад Ягора Кавалеўскага, брата міністра), і Агрызка быў выпушчаны праз два тыдні. А часопіс (газета. — В.А.) усё-ткі застаўся забароненым! Падпісчыкі, якія не захочуць атрымаць назад сваіх грошай, могуць атрымаць замест "Slowa" — "Volumina legum" (тамы законаў. — В.А.), якія зноў цяпер выдаюцца Агрызкам (дазвол на што ён таксама атрымаў пасля найвялікшых клопатаў і з надзвычайнымі цяжкасцямі)".

"Рэдактар Агрызка"… А гэта ж наш суайчыннік, выдавец і журналіст Іясафат Пятровіч Агрызка. Нарадзіўся ён у Лепельскім павеце Віцебскай губерні ў небагатай шляхецкай сям'і. Скончыў Лепельскую павятовую вучэльню і Мінскую гімназію, а ў 1849 годзе — Пецярбургскі універсітэт са ступенню кандыдата права.

З 1850 года Іясафат Агрызка служыў у кадыфікацыйнай камісіі Царства Польскага, а затым віцэ-дырэктарам дэпартамента міністэрства фінансаў у Паўночнай сталіцы. Знаходзячыся ў Пецярбургу, Іясафат Пятровіч заснаваў друкарню, у якой пачаў выдаваць з 1859 года газету "Slowo" (на польскай мове — В.А.). У гэтай прагрэсіўнай газеце змясціў свой артыкул і наш зямляк А. Вярыга-Дарэўскі.

А ў пятнаццатым нумары "Слова" за 21 лютага быў надрукаваны артыкул, у якім цытавалася прывітальнае слова Іяхіма Лелевеля і давалася яму высокая ацэнка. Паколькі І. Лелевель быў адным з кіраўнікоў польскага паўстання 1830 года, адным з першых, хто падпісаў акт аб адрачэнні Мікалая І ад польскага трона, любое згадванне яго імя было строга забаронена. Данос намесніка Царства Польскага М. Гарчакава выклікаў, паводле царскай рэзалюцыі ад 26 лютага 1859 года, забарону "Слова", зняволенне рэдактара газеты І. Агрызкі тэрмінам на адзін месяц у Петрапаўлаўскай крэпасці, вымову цэнзару і "строгую заўвагу" Дзялянаву — як кіраўніку Пецярбургскага цэнзурнага камітэта.

Цікавыя звесткі з гэтай нагоды прыводзіць у сваім дзённіку вядомы мемуарыст, гісторык літаратуры і цэнзар А. Нікіценка. 7 сакавіка: "Агрызка стаў прадметам усеагульнага абмеркавання. Зняволенне яго ў крэпасці і забарона часопіса (газеты. — В.А.) выклікалі ў публіцы самае цяжкае ўражанне. Кажуць, імператар пагадзіўся на гэтую меру толькі таму, што Гарчакаў (Варшаўскі) аб'явіў, што не вернецца ў Варшаву, калі Агрызка не будзе пасаджаны ў крэпасць.".

У працытаваным вышэй лісце М. Шыманоўскаму М. Дабралюбаў дапусціў адну істотную недакладнасць. За вызваленне Агрызкі хадайнічаў не брат міністра Ягор Пятровіч, а сам міністр народнай асветы Яўграф Пятровіч Кавалеўскі. У прыватнай размове з Нікіценкам, якая адбылася 12 сакавіка, міністр сказаў: "Я ў савеце міністраў рашуча паўстаў супраць меры, якая нарабіла столькі непрыемнага шуму. Мяне падтрымаў адзін Растоўцаў. Але абодва Гарчакавы з такім запалам нападалі на Агрызку і яго газету, што мая абарона не дапамагла. Мне нават не далі прачытаць падрыхтаваную мной запіску".

З гэтай нагоды А. Герцэн пісаў у "Колоколе": "Калі ж наша самадзяржаўе зразумее, што… пераслед самога імя людзей, якія чыста і свята працавалі да старога веку, прызнаных усім светам, як І. Лелевель, б'е рыкашэтным ударам назад?"

Менавіта ў гэты перыяд Іясафат Агрызка падтрымліваў цесныя сувязі з рускімі рэвалюцыйнымі дэмакратамі М. Чарнышэўскім, М. Дабралюбавым, а таксама з рэвалюцыйным таварыствам "Зямля і воля". Пра гэта можа сведчыць наступны факт. Пасля смерці Дабралюбава Агрызка быў прызначаны галоўным прадстаўніком варшаўскага паўстанцкага ўрада ў Пецярбургу. У лістападзе наступнага года ён быў арыштаваны і судом прысуджаны да смяротнага пакарання, якое пазней было заменена на дваццацігадовую катаргу. Памёр ён у сакавіку 1890 года ў Іркуцку.

Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ

# Суладна з часам



Галоўны корпус Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта знаходзіцца ў сталіцы па вуліцы Захарава, 21. Ён суседнічае з будынкам, дзе размяшчаецца рэдакцыя "ЛіМа", і студэнты ВНУ падчас перапынку часта гуртуюцца на парозе рэдакцыйна-выдавецкай установы — сустракаюць вясновае сонейка, гамоняць пра жыццё і... сучасны літаратурны працэс.

Нехта з пісьменнікаў нават пажартаваў: варта арганізоўваць літаратурныя чытанні. І меў рацыю: універсітэт — вабны асяродак беларускай культуры, прычым культуры моладзі, якая свядома выбірае сваю будучыню. З нядаўняга часу тут пачалі распрацоўваць новы вучэбны курс — мастацкага перакладу. І вывучаць замежныя мовы праз беларускую, а не братнюю рускую мову.

Гэта — толькі некаторыя з апошніх напрацовак лінгвістычнага ўніверсітэта, вядомага раней як Інстытут замежных моў. Пра набыткі ўстановы па пашырэнні роднай мовы нашаму штотыднёвіку распавяла рэктар МДЛУ Наталля БАРАНАВА.

— Наша ВНУ стала універсітэтам з першай паловы 1990-х. Не выключаю, што ў час, калі атрымлівалі статус, не ўсе выкладчыкі да канца асэнсоўвалі, што трэба будзе выконваць агромністую працу. Найперш мы перагледзелі вучэбны план і змест падрыхтоўкі. Была ўзмоцнена фундаментальная і культуразнаўчая галіны. Мы зыходзілі з таго, што дыялог культур магчымы толькі тады, калі ты ведаеш сваю родную культуру. Таму мы надалі больш увагі вывучэнню культуры Беларусі. Гэта робіцца праз шэраг вучэбных дысцыплін і іншую працу. Найперш адкрылі ў сябе не толькі беларускамоўную плынь (а ў нас да 70 працэнтаў дысцыплін вывучаецца на замежных мовах), а распачалі падрыхтоўку спецыялістаў па замежных мовах на базе мовы беларускай. Спачатку — на факультэтах англійскай, нямецкай, французскай моў. У нас гэта не атрымалася пакуль на факультэце іспанскай мовы, паколькі, на жаль, яна ў беларускамоўных школах практычна не выкладаецца: іспанскую вывучаюць каля аднаго працэнта школьнікаў, школы, як правіла, знаходзяцца ў буйных гарадах, і па традыцыі яны працуюць на рускай мове.

Але ў нас вельмі моцныя выкладчыкі беларускай мовы і беларусазнаўства. Адначасова мы ўзбагацілі змест курсаў, што выкладаюцца, інфармацыяй пра гісторыю Беларусі, музеі Беларусі і нават пра беларускія касцюмы.

Кафедры цяпер напрацоўваюць свае цікавыя падыходы. Мы падрыхтавалі спецыялістаў, якія будуць выкладаць асновы мастацкага перакладу. Магчыма, летам гэтага года мы прапануем абітурыентам і тым, хто ўжо вучыцца на першым-другім курсах, займацца па гэтым напрамку. Сярод студэнтаў ёсць тыя, і іх немала, хто хацеў бы працаваць на базе беларускай мовы.

Калі мы сталі універсітэтам, паставілі задачу пашырыць і спецыяльнасці, па якіх мы працуем. Пашырыўся спектр менавіта спецыялізацый. Па сутнасці, яны ўсе былі аднолены, пачынаючы з 1996 года. Цяпер кожны студэнт, акрамя таго, што вывучае дзве замежныя мовы, яшчэ спецыялізуецца па нейкім напрамку: камп'ютэрная лінгвістыка (вывучэнне замежных моў па камп'ютэрных праграмах), краіназнаўства, замежная літаратура. Руская мова як замежная. А сёння і беларуская мова як замежная.

— ???... Як такое можа ўспрымацца ў сваёй краіне?

— Справа ў тым, што мы ў нашым універсітэце выкладаем беларускую мову замежным грамадзянам. Ёсць такія жадаючыя ў Германіі, ЗША, Канадзе, Францыі, нават у Паўднёвай Амерыцы. Да нас прыязджаюць на курсы менавіта беларускай мовы. А ў такім разе беларуская мова і ёсць замежная для слухачоў згаданых курсаў. Праз год мы выпусцім першых спецыялістаў па гэтым напрамку. Яны ў нас навучаюцца ўжо цягам чатырох гадоў. Калі я выступіла ініцыятарам вывучэння беларускай мовы як замежнай, некаторыя мяне не зразумелі: наўрад ці гэта будзе запатрабавана, але падтрымала кафедра беларускай мовы...

— Аднак, калі браліся за распрацоўку зусім новага кірунку, як пераадольвалі сумненні: ці прыйдуць абітурыенты, дзе знайсці для іх падручнікі, хто будзе выкладаць?

— Дэкан факультэта англійскай мовы, дзе мы зрабілі такі першы крок, была занепакоеная: а раптам ніхто не пойдзе на гэтую спецыялізацыю? Раней у нас было так: вывучалі англійскую мову, яшчэ адну замежную і беларускую мову і літаратуру. Але ўжо тады было зразумела: спецыяліст — "англічанін", "француз" і адначасова настаўнік беларускай мовы і літаратуры не будзе запатрабаваны менавіта па беларускай мове і літаратуры! Ён не выкарыстае напоўніцу такія свае веды. А вось беларускую мову як замежную з задавальненнем будуць вывучаць і літоўцы, і латышы, і ўкраінцы, і палякі, і нават расіяне.

Такую ж спецыялізацыю мы адкрылі і на факультэце нямецкай мовы — і яна таксама запатрабавана. На французскай мове пакінулі курс беларускай мовы і літаратуры. Цяпер у нас ёсць і адна спецыялізацыя, і другая.

Праз усе гады штосьці, звязанае з беларускай культурай, мы ва універсітэце развівалі. Яшчэ мы адкрылі найцікавейшы кірунак — новую спецыяльнасць "лінгвістычнае забеспячэнне міжкультурнай камунікацыі". У рамках яе мы прадумалі 5 адукацыйных напрамкаў: моўнае забеспячэнне, забеспячэнне кантакту ў сферы інфармацыйнага абслугоўвання (найперш камп'ютэрная рэклама), сувязі з грамадскасцю (тое, што развітае ў свеце і прыходзіць у Рэспубліку Беларусь па меры таго, як сярэдні бізнес выходзіць на знешні рынак), знешнеэканамічныя сувязі, міжнародныя палітычныя адносіны і міжнародны турызм.

— І ўсё-такі міжкультурны дыялог найлепш ладкуецца, калі гэта дыялог літаратур. І на дапамогу тут, бясспрэчна, прыходзіць мастацкі пераклад. Як арганізуецца праграма па мастацкім перакладзе? Ці існуе яна ўвогуле?

— Цяпер мы паставілі перад сабой задачу адкрыць падрыхтоўку студэнтаў па спецыялізацыі "асновы мастацкага перакладу" з нямецкай на беларускую і з англійскай на беларускую без рускай мовы як пасрэдніка. Гэты новы напрамак мы толькі-толькі пачалі развіваць. Вельмі актыўна працуе тут кафедра беларускай мовы і літаратуры. Яе ў нас узначальвае Пятро Васючэнка. Мастацкі пераклад выкладаецца на базе добра вывучанай замежнай мовы. Далей ідуць курсы: па стылях, жанрах, па аналізе таго, як раней выконвалі гэтую ж працу іншыя перакладчыкі. Вывучаем досвед Расіі ў гэтым напрамку — у Маскоўскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, і за мяжой. Невялікая група студэнтаў у нас навучаецца, адбываецца амаль індывідуальная падрыхтоўка спецыялістаў. Гэта тыя маладыя людзі, якія і самі могуць пісаць: вельмі дасведчаныя найперш у роднай мове. Іх спецыяльнасць — перакладчыкі, а спецыялізацыя — мастацкі пераклад. Думаем, такія спецыялісты будуць патрэбныя і для газет, часопісаў. Рыхтавалі б больш, але баімся, што кадры ў нейкі момант могуць стаць незапатрабаванымі на рынку працы. На кафедры беларускай мовы і літаратуры таксама працуюць выкладчыкі, якія ўжо шмат чаго зрабілі ў літаратуры. І не толькі на гэтай кафедры. Назаву кандыдата філалагічных навук, дацэнта кафедры тэорыі і практыкі англійскай мовы Алену Таболіч, загадчыка цэнтра "Слоўнік" Тамару Сушу. У цэнтры, між іншым, распрацоўваюцца двух- і шматмоўныя слоўнікі на базе беларускай мовы. Вядома і творчасць П. Васючэнкі.

— Ваша ВНУ таксама працуе па дзвюх праграмах ЮНЕСКА ў рамках кірунку "Культура свету — праз мову" і з'яўляецца адным з заснавальнікаў асацыяцыі лінгвістычных універсітэтаў краін СНД...

— Так, мы ўдзельнічаем у некалькіх праграмах ЮНЕСКА. Да прыкладу, "універсітэты-пабрацімы". Гэта дае магчымасць вывучаць досвед працы замежных ВНУ і перадаваць ім свой. І ў нас дзейнічае адмысловы праект па ўзаемаразуменні паміж народамі праз вывучэнне замежных моў. Вядзе праект кафедра педагогікі. Віктар Літвіновіч — чалавек, дасведчаны ў пытаннях беларускай культуры, арганізаваў суполку якраз па напрамку развіцця дыялога культур паміж людзьмі.

— А дыялог вядзецца, трэба сказаць, досыць магутны. Наколькі я ведаю, цяпер ужо дзейнічаюць больш як 70 дагавораў аб супрацоўніцтве, і універсітэт з'яўляецца ўдзельнікам 12 міжнародных праграм...

— У тым ліку такіх вядомых, як ТЭМПУС, ЛІНГВА-УНІ, ЛІНГВА-ПАКС, ТАСІС. Мы прадстаўляем Рэспубліку Беларусь у праекце Савета Еўропы "Моўная палітыка ў Еўропе ва ўмовах шматмоўя і шматстайнасці культур". Напрацаваныя арыгінальныя ідэі ў кантэксце праграмы Савета Еўропы "Адукацыя праз усё жыццё".

Універсітэт падтрымлівае цесныя кантакты з пасольствамі, акрэдытаванымі ў Рэспубліцы Беларусь. З Францыяй, Вялікабрытаніяй, Кітаем, Турцыяй, ЗША, Польшчай, Італіяй, В'етнамам і іншымі краінамі наладжаны сумесныя адукацыйныя і навуковыя праграмы. Сумесныя праекты ажыццяўляюцца таксама з пасольствамі Аўстрыі, Іспаніі і Швецыі, акрэдытаванымі ў Расійскай Федэрацыі. У МДЛУ вучацца студэнты з 43 дзяржаў.

— І тым больш важна, каб гучала ў сценах установы родная мова. Але, калі універсітэт лінгвістычны — то ён даследуе і тыя працэсы, якія адбываюцца ў мовах. Найперш — у беларускай...

— Я веру ў будучае роднай мовы. Мы дабіліся вялікіх зрухаў у пашырэнні яе выкарыстання. У пачатку 1990-х у нашай ВНУ было пераважна рускамоўнае асяроддзе сярод студэнтаў і выкладчыкаў, і вывучаць яе ніхто не хацеў. Але праз усе гэтыя гады паступова мяняліся падыходы, удасканальваліся праграмы выкладання. І цяпер адносіны да мовы сталі беражліва-кранальныя. Мы змянілі, так бы мовіць, унутранае ўспрыманне беларускай мовы і літаратуры. У душах людзей нарадзілася перакананне: сваё трэба берагчы, памнажаць. Вось у гэтым — самы галоўны вынік. А практычнае авалоданне мовай — гэта прыкладное. І яно абавязкова атрымаецца. Як памяняўся цягам гадоў і сам студэнт. Бачу, калі на лекцыях пачынаю выкладаць, прыкладам, канцэпцыю выхавання беларускай навучэнскай моладзі — натуральна, на беларускай мове — зала адразу прыцішае. Па вачах бачу: у гэтыя хвіліны і нараджаецца павага да свайго, нацыянальнага.

Думаю, не доўга чакаць і таго часу, калі са сцен нашай установы выйдуць даследчыкі ўзроўню акадэміка Аляксандра Падлужнага.

Цяпер мы заключылі дамову яшчэ з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый і плануем стварэць цэлыя школы ўсходніх моў. Зрабілі першыя крокі, і яны плённыя, будзем працягваць. Так што — шмат працы наперадзе.

Ірына ТУЛУПАВА

## Кніжная паліца



Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла кнігу дакументальных нарысаў Славаміра АНТАНОВІЧА "Ушедшие в бессмертие". Кніга напісана на аснове унікальных архіўных дакументаў КДБ, на якіх да гэтай пары стаіць грыф "Совершенно секретно". Гэта аповед пра рэпрэсіі ў Беларусі ў складаны перыяд жыцця савецкай дзяржавы, звязаны з імем Сталіна.



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла кніга Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА "Лебядзіны скіт" (казкі). Укладальнік А. Масла. Мастак М. Купава. Дзеці з цікавасцю прачытаюць творы "Жабкі і чарапаха", "Верабей, сава і птушыны суд", "Вясна ўвосень", "Касцёл з каменьчыкамі", "Вужыная каралева". Дарослы чытач таксама адкрые для сябе новага Уладзіміра Караткевіча — геніяльнага пісьменніка-казачніка.



У выдавецтве "Кнігазбор" выйшла кніга вершаў і разважанняў зэльвенскага паэта Генадзя КАЎША "Вершакроплі". Гэта тэксты пра жыццё, пра ідэалы дабрыні і справядлівасці. Паэт прысвячае вершы сваім вытокам — Бацькаўшчыне, глыбінным поклічам чалавечай душы, усяму, што створана людскім розумам і рукамі.



У выдавецтве "Эксмо" выйшаў раман-бурлеск у вершах Алеся МАСАРЭНКІ "Святое возера". У аб'ёмным творы даволі не толькі гумару і сарказму, але і элементаў будзённа-побытавага характару — эпізодаў, што насамрэч надараліся ў жыцці. Вымысел пераважае адно там, дзе была неабходнасць перастварыць сапраўднае з яго каларытнымі рэаліямі ў мастацкую праўду.



У "Кнігазборы" пабачыла свет кніга выбраных твораў былога настаўніка з Паставаў Леаніда ТРУБАЧА (1963 — 2009) "Паміж песняй і болем". У зборнік увайшло ўсё лепшае, напісанае аўтарам за гады яго кароткага жыцця, а таксама ўспаміны сяброў і калег, фотаілюстрацыі з сямейнага архіва. Кніга выдадзена пры фінансавай падтрымцы аднакурснікаў Л. Трубача, выпускнікоў-філолагаў Белдзяржуніверсітэта 1985 года. Укладанне і прадмова Сяргея Чыгрына.



У берасцейскім выдавецтве "Альтэрнатыва" выйшаў у свет зборнік вершаў Аляксея КАПАЦКЕВІЧА "Водар сонца". Аўтар — інвалід па зроку. Аднак цікава, што большасць яго твораў менавіта пейзажнага, яркага і запамінальнага плана. Ёсць у кніжцы і гумар, і сатыра, байкі і вершы для дзяцей. Творы на беларускай і рускай мовах. Прадмова Надзеі Парчук.

# Праверым і ўдакладнім



Вельмі добрую справу робяць тыя, хто прапагандуе нашу спадчыну, расказвае пра дзеячаў сівой даўніны ці больш позніх часоў. Дужа цікава — і карысна — чытаць пра выдатныя творы мастацтва, пра саміх творцаў, асабліва, калі яны з нейкіх прычын былі незаслужана забытыя ці малавядомыя. Аднак часам наша недасведчанасць яўна перабольшваецца або проста выдумляецца. Напрыклад, пішуць, што пра сусветна вядомага французскага мастака беларускага паходжання мы даведаліся ў 1990-я гады, хаця насамрэч ведалі ў 1960-я ці нават раней.






У “Прасторы Хаіма Суціна” Сашы Дорскай (“ЛіМ”, 7.08.09, с. 3) чытаем: “Выставы гэтых вядомых нашых землякоў праходзяць па ўсім свеце, карціны прадаюцца на аўкцыёнах за немагчымыя грошы, французы ўпарта лічаць іх сваімі мастакамі, але кожны з іх мае пэўную прастору тут, на Беларусі — Віцебск Юдаля Пэна і Лёзна Марка Шагала, пра якія беларусам прыйшла пара даведацца толькі ў пачатку 90-х, Гродна Льва Бакста і Гомель Міхаіла Кікоіна, а цяпер прыспеў час уключыць у нацыянальны кругагляд і мястэчка Смілавічы, што ў 35 кіламетрах ад Мінска, дзе прайшло дзяцінства сусветна вядомага мастака-экспрэсіяніста Хаіма Суціна”.

Чаму гэта пра Ю. Пэна мы даведаліся ў 1990-я гады, калі імя мастака з'яўляецца ў энцыклапедыях з 1930-х? Напрыклад, ва ўсіх выданнях “Большой Советской Энциклопедии”, у тл. 1-м (пад рэд. О. Ю. Шміта. М., 1939. Т. 44. С. 490), дзе між іншым напісана: “…вядомы беларускі савецкі мастак. Большую частку свайго жыцця правёў у Віцебску…”. БелСЭ (Мн., 1975. Т. 7. С. 647) піша, што ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР — 169 жывапісных і 20 графічных работ Пэна. А паводле ЭГБ (Мн., 2001. Т. 6, кн. 1. С. 15), у Віцебскім краязнаўчым музеі — 155 жывапісных і 15 графічных работ мастака. Перад вайною, у 1939 — 1941 гадах, у Віцебску дзейнічала мастацкая галерэя Пэна (налічвалася каля 800 яго твораў). Такім чынам, задоўга да 1990-х гадоў мы маглі не толькі чытаць пра Пэна, але і бачыць работы гэтага выдатнага мастака.

Ёсць артыкулы пра Пэна ў энцыклапедыях “Искусство стран и народов мира” (Мн., 1962. Т. 1. С. 184), “Беларуская ССР” (Мн., 1981. Т. 5. С. 498), “Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі” (Мн., 1987. Т. 4. С. 427), “Малая Советская Энциклопедия” (Мн., 1959. Т. 7. С. 767) і іншых. І ў ніводнай няма, што мастак гэты французскі (здаецца, ён у Францыі і не быў). Мабыць, усё, што звязвае Пэна з Францыяй, — тое, што яго вучань, Марк Шагал, стаўся французскім мастаком. Так што няма падстаў і думаць, быццам бы французы хочуць “перацягнуць” да сябе яшчэ і Пэна.

А пра Шагала БСЭ напісала яшчэ раней, чым пра Пэна, — том 61, на літару Ш, быў выдадзены задоўга да 44-га тома (з артыкулам “Пэн”) — у 1934 годзе. Артыкул “Шагал” вельмі добразычлівы, адзначаецца, што мастак “натуралізаваўся ў Франции”, але не парывае сувязі з сав. грамадскасцю”, сказана пра яго дачыненне да Віцебска.

Сваю недакладнасць у часе (Шагала і Пэна мы ведалі і да 90-х гадоў) С. Дорская кампенсавала дакладнасцю месца: Шагал нарадзіўся менавіта ў Лёзна пад Віцебскам, а не ў самім Віцебску, як чамусьці (для прыцягвання ў горад турыстаў?) пішуць апошнім часам. Дакладнасць захавана ў артыкуле “Вытокі Шагала” (“Памяць”: гісторыка-дакументальная хроніка Лёзненскага раёна”. Мн.: БелСЭ, 1992. С. 583): Шагал “нарадзіўся… у мястэчку Лёзна… Неўзабаве сям'я пераехала ў Віцебск, таму некаторыя крыніцы называюць гэты горад месцам яго нараджэння”. Забаўна, што БелЭн радзімай Шагала называе ў яго персаналіі Віцебск, а ў артыкуле пра Лёзна — гэтае мястэчка.

Л. Бакст як тэатральны мастак вядомы нам здаўна — ва ўсіх выданнях “Большой советской энциклопедии” ёсць артыкулы пра яго. А ў мінскіх даведніках персаналіі Бакста пачалі друкаваць толькі ў 1990-я гады. Гэта дзіўна! Мастак яшчэ да рэвалюцыі пасяліўся за мяжою, у невяртальнікі запісаны быць не мог і баяцца друкаваць пра яго энцыклапедычны артыкул не было прычын. Але “цуды” доўжацца! Першую персаналію Бакста даў аднатомнік “Беларусь” (Мн.: БелЭн, 1995). Ёсць яна і ў БелЭн (1996). А ў энцыклапедыі “Рэспубліка Беларусь” (7 тамоў, ХХІ стагоддзе!) Бакста зноў няма.

Х. Суцін таксама жыў за мяжою з дарэвалюцыйных часоў. У 3-м выданні БСЭ ён згадваецца ў артыкуле “Парыжская школа” (як мастак “з Літвы” — ён вучыўся ў Віленскай акадэміі мастацтваў), а яго персаналія ёсць у згаданай вышэй маскоўскай “ИСИНМ”: французскі мастак, ураджэнец Смілавіч каля Мінска. Чаму ў БелСЭ няма нават згадкі пра яго, незразумела…

Няўжо гісторыя з забытымі ці малавядомымі мастакамі можа паўтарыцца?

І вось такая заўвага: К. Ладуцька піша (“ЛіМ”. 18.09.09. С. 7), што “пра скульптара Макара Кандратавіча Вронскага, які нарадзіўся ў Барысаве ў 1910 годзе, раней чуць не даводзілася”, а прачытаў пра яго аўтар у энцыклапедыі “Мастацтва Украіны” (т. 1. Кіеў, 1995). Але ж БелЭн надрукавала пра М. Вронскага артыкул, ілюстраваны фотаздымкам помніка Б. Хмяльніцкаму работы нашага земляка-скульптара (т. 4. Мн., 1997). Яшчэ раней, да 1995 года, у якім пачала выдавацца ўкраінская энцыклапедыя, у энцыклапедыі “Искусство стран и народов мира” (т. 4. М., 1978, с. 599) змешчана персаналія Вронскага, дзе адзначана, што ён нарадзіўся ў Барысаве. А чаму імя гэтага выдатнага майстра няма ў БелСЭ ці ў ЭЛІМБел, цяжка сказаць. У новых даведніках, у тл. БелЭн, не пішуць пра адмысловага ўкраінскага жывапісца і графіка Зіновія Талкачова (1903 — 1977), які нарадзіўся ў вёсцы Шчадрын Бабруйскага павета Мінскай губ. (цяпер — Жлобінскага р-на Гомельскай вобл.). Яго персаналія ёсць у вышэйзгаданай энцыклапедыі “ИСИНМ” (т. 4. с. 611). А “Большая энциклопедия” (М., 2006, т. 51, с. 247) дала артыкул пра Талкачова з партрэтам (!), хаця пра Вронскага не змясціла нічога. Што Талкачоў мастак не абы-які, сведчыць ужо тое, што яшчэ ў 1933 годзе ў Харкаве выдалі пра яго кнігу (“Зіновий Толкачов”, аўтар — Е. Халастэнка).

Анатоль ІВАНЧАНКА

На здымках: Макар Вронскі, помнік Тарасу Шаўчэнку ў Данецку; Лявон Бакст, эскіз касцюма да балета “Сіні бог”; плакат выстаўкі твораў Зіновія Талкачова “Майданек”, што праходзіла ў Польшчы.

Фота Ланы Івановай

# З патаемным сам-насам

Васіль Бураў — самадзейны мастак з Маладзечна, працуе наладчыкам на Маладзечанскім заводзе парашковай металургіі, а ўвесь вольны час цалкам прысвячае выяўленчаму мастацтву. Скончыў завочнае аддзяленне Маскоўскай народнай акадэміі выяўленчага мастацтва. Арганізаваў некалькі рэгіянальных выставак. Апошнім часам вывесіў у Інтэрнеце сайт, на якім выставіў свае карціны на суд наведвальнікаў.





Чалавек сярэдніх гадоў, вельмі сціплы, у нечым нават сарамлівы. “Як бы вы самі вызначылі кірунак сваёй творчасці?” — спытаўся я, азнаёміўшыся з карцінамі Васіля Бурава.

— Мяне вабіць філасофскае асэнсаванне рэчаіснасці. Пішу алеем, атрымліваюцца такія настраёвыя карціны.

— Прыглядваючыся да вашых работ, можна сказаць, што дамінанта вашай творчасці — духоўнае спасціжэнне рэчаіснасці, работы прасякнуты глыбокім псіхалагізмам і выглядаюць даволі арыгінальна.

— Я вольны мастак, ні ад каго не залежу. Захачу — пішу Бога, захачу — штосьці іншае, што ляжыць на душы, тое і малюю. Іншы раз карціны ў душы вельмі доўга выспяваюць. Для мяне яны, як асабісты дзённік, які вядзеш на працягу некалькіх гадоў жыцця, запісваючы самае патаемнае, што са мной адбываецца. Колькі гадоў таму я адважыўся “вырваць” некалькі старонак гэтага дзённіка, каб паказаць людзям. Якія мае карціны — меркаваць гледачу. Час — самы аб'ектыўны крытык. Пакуль у свеце не знойдзены універсальны крытэрый ацэнкі любой творчасці. Намагаюся пісаць пра тое, што не бачна простым вокам, але ў той жа час, магчыма, яно адлюстроўвае яшчэ большую значнасць чалавечага існавання. Мастак жыве выставамі, таму і зрабіў сайт у Інтэрнеце.

* * *

У душы кожнага — божая іскрынка творчасці, праўда, не кожнаму ўдаецца раздзьмуць тлеючую іскрынку ў полымя мастацтва. Кожны па-рознаму прыходзіць да творчасці, матывуючыся рознымі прычынамі, пачынае спасцігаць сябе і сусвет праз мастацтва. Некаторыя зрабілі творчы занятак уласнай прафесіяй, іншыя займаюцца на стадыі захаплення, хобі і апантанасці. І зусім не залежаць вынікі працы (што ў цябе там выходзіць на палатне?) ад таго, кім ты сябе лічыш: прафесіяналам ці аматарам?

Мастак Васіль Бураў усё ж лічыць сябе аматарам. І не саромеецца гэтага, бо не думае, што такі статус прыніжае стваранае ім. У нас прафесіяналамі найчасцей чамусьці лічацца толькі сябры Саюза мастакоў, а калі ты не з'яўляешся такім, то і рэспубліканскія выставачныя пляцоўкі для цябе амаль зачыненыя.

Але вернемся непасрэдна да творчасці. Колькі напісана мастакамі пейзажаў “залатой восені” ці “бабінага лета”?!. Васіля Бурава да апошняга сюжэта падштурхнула сустрэча з аднакласніцай праз 25 гадоў жыцця, яна і стала ўвасабленнем “Бабінага лета”.

З часоў Арыстоцеля мастацтва імкнулася “пераймаць” прыроду. У такім разе ў выяўленчым мастацтве найгеніяльнейшым творцам быў бы фотаапарат. Але што ёсць прырода? Хіба толькі тое, што бачым? А нашы фантазіі, мроі і мары, нашы сны — хіба яны не належаць рэчаіснасці? Хіба яны не гэтак жа адчувальны, як і яўны свет? Ёсць не толькі тое, што мы бачым, і не ўсё тое ёсць, што часам нам уяўляецца. Акрамя відавочнага, ёсць яшчэ і нябачны свет: адчуванні, пачуцці — духоўны свет. Як, скажам, мастаку намаляваць зло? Або паказаць галавакружэнне? А як увасобіць жах ці адчай? Як выявіць пэндзлем і фарбамі на палатне пачуцці сэрца і зрухі душы?

Васіль Бураў па меры магчымасці імкнецца да гэтага: выявіць нябачнае, паказаць невідочнае, спазнаць, дакрануцца да патаемнага. Самі назвы работ высвечваюць накіраванасць творчых пошукаў: “Зло”, “Не лёс”, “Memento mori”, “Адчай”, “Ацаленне”, “Галавакружэнне”, “У Вадзянога”, “Вадаліў”… Некаторыя сюжэты падказаны літаратурнымі творамі: “Му-му”, “Сабака Баскервіляў”, “Юнона і Авось”.

Мне цяжка вызначыць мастацкую плынь, у якой працуе мастак, яго манеру пісьма і тэхніку, няхай гэтым займаюцца мастацтвазнаўцы, ёсць у яго і трапныя псіхалагічныя пейзажы, ёсць партрэты, тут і сюррэалізм і фларыстыка, але можна акрэсліць агульны кірунак творчых пошукаў і такім вымярэннем — духоўны рэалізм.

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

На здымках: “Тройчы Адзіны”; “Аўтапартрэт”.



**Напрадвесні, калі зямля яшчэ спачывала пад снегам, а паветра, удзень працятае сонечнымі промнямі, студзілі начныя маразы, тут ужо шчыравала пагодлівае лета — і запрашала ў свой кветкавы рай... Некалькі гадоў запар "Кветкавы рай", самы, бадай, рамантычны і вытанчаны сярод выставачных праектаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, разгортваўся ў яе галерэях у адзін і той жа час — на памежжы зімы і вясны. Сёлета дзякуючы ініцыятару і куратару праекта, старшыні Міжнароднай гільдыі жывапісцаў, загадчыку галерэйна-выставачнага аддзела НБ Беларусі Фёдару Ястрабу прыгожая традыцыя ўзбагаціла свой змест і атрымала новую назву: "Ціхае жыццё".**

# Імгненні «ціхага жыцця»

Ідэя наладзіць выстаўку нацюрморта і прысвяціць яе 200-годдзю з дня нараджэння нашага класіка гэтага жанру Івана Хруцкага выснаўвалася з усёй ранейшай арганізацыйна-творчай дзейнасці Ф. Ястраба і яго калег-аднадумцаў. Выявы кветак, вядома ж, належаць да жанру нацюрморта, і "Кветкавы рай", такім чынам, трэба ўспрымаць як частку больш маштабнага сёлетняга праекта. Наколькі трапны і арганічны выбар назвы — "Ціхае жыццё", пераконваюць развагі Ф.Ястраба:

— Здавалася б, жанр нацюрморта, які калісьці стаў самастойным, вылучыўшыся з жанравай карціны, з часам вычарпаў сябе, страціў актуальнасць. Але мастацкая практыка сведчыць, што сёння праз нацюрморт можна і выказваць свае пачуцці, і эксперыментаваць — і ў фармальным, і ў канцэптуальным сэнсах. Само слова "нацюрморт" французскага паходжання — ад "natur morte", што літаральна перакладаецца як "мёртвая прырода", і гэтае азначэнне, у якім закладзена нешта нерухомае, адарванае ад жыцця, мне не падабаецца. Многія мастакі ды мастацтвазнаўцы, і я ў тым ліку, аддаюць перавагу іншай, галандскай — "stilleven" ці блізкай да яе па гучанні нямецкай назве, што азначае "ціхае жыццё" і найбольш дакладна адпавядае сутнасці гэтага жанру. "Ціхае жыццё" — гэта адарванасць ад знешне бурлівых працэсаў, але неадлучнасць ад нашай жывой свядомасці, ад нашых асноў. Гэта асаблівы, убачаны мастаком, свет, напоўнены адчуваннем няспешнай размовы з нашым штодзённым атачэннем, свет, здатны ў кожным з нас абудзіць жаданне азірнуцца, прыгледзецца, па-новаму ўбачыць звыклую штодзённасць.

Жывапісец Рыгор Несцераў успрыняў гэтую выстаўку як цікавую нагоду "сутыкнуць" нашых мастакоў са славутым класікам нацюрморта і параўнаць, што сабой уяўляюць мастакі, што змянілася ў жыцці, што знаходзіцца вакол нас сёння і што чакае:

— Мастак цяпер інакш бачыць рэальнасць, дый глядач таксама. Нацюрморт змяніўся. У часы Хруцкага ён дэталёва адлюстроўваў дастатак жыцця. Для нас ужо не так цікавы фатаграфічны люструнак рэальнасці, як закладзены ў выяве ключ да вырашэння пэўных жыццёвых задач. Мы поўнімся чаканнямі, светлымі або трывожнымі. І адлюстраваныя прадметы з'яўляюцца для нас сімваламі, за якімі хаваецца нейкі сакрэт. Гэта потым ужо мастак пачынае асэнсоўваць, аналізаваць, што атрымалася ў яго на палатне, спачатку ж ён працуе, зыходзячы з нейкага адчування. У мяне ёсць работа, вобразам якой стала... выедзенае яйка. "Нацюрморт з яйкам" — іншы вобраз: разламаўшы шкарлупіну, на свет выходзіць чалавек, нібы дайшоўшы да нейкай мяжы і выспеўшы для ўжо новага жыцця.

Да пульсацыі "ціхага жыцця" ў сімбіёзе розных відаў выяўленчай творчасці спрычыніліся і майстры фота (яны, у адрозненне ад прафесійных мастакоў, не абазнаныя ў паняццях кампазіцыі, святлаценю і да т.п., таму не без праблем асвойваюць жанр нацюрморта), і керамісты. Мастак-кераміст Валерый Калтыгін кажа:

— Як малеча пачынае спасцігаць свет праз тыя прадметы, што знаходзяцца побач, так і кожны мастак пачынае спасцігаць свет свайго рамяства праз простыя прадметы. А потым пераходзіць да ўвасаблення нейкіх значных тэм і вобразаў, звяртаючы ўвагу на філасофскі аспект прадметнага свету, з якім падчас працы нават пачынае размаўляць. Так, прадметны свет — не "мёртвая прырода", а "ціхае жыццё", якое побач з намі, і праз яго мы выходзім на бясконцы шлях пазнання.

"Ціхае жыццё" складаюць творы жывапісу, графікі, фота, керамікі, батыка амаль 60 аўтараў з больш чым дзесяці краін, а таксама выстаўка "Майстар нацюрморта, пейзажу і партрэта" — рэпрадукцыі твораў Івана Хруцкага і публікацыі, прысвечаныя яму. Стваральнікі праекта імкнуліся настроіць гледача на асаблівы лад: не спяшацца, засяродзіцца, пражыць кожнае імгненне ціха, у суладдзі з прыродай, у сузіранні мастацтва, дзе нават абстракцыя ўспрымаецца як свежы позірк на мікрасвет, які зусім побач з намі: такі неахопны і неспазнаны.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ









На здымках: творы жывапісцаў Марыі Ісаёнак, Марты Шматавай, керамістаў Максіма Калтыгіна, Леаніда Трацэўскага, фотамастака Вадзіма Качана.

Фота Віктара Кавалёва і аўтара

## У наступным нумары

У наступным нумары тыднёвіка ў падрыхтаваным Ладай Алейнік матэрыяле "А ШТО ТАМ ДАЛЕЙ?" чытачы змогуць пазнаёміцца з прагнозам выпускнікоў філалагічнага факультэта БДУ адносна будучага развіцця нацыянальнай беларускай літаратуры. Хто з пісьменнікаў і якія творы сучаснай мастацкай літаратуры застануцца на плыні хуткацечнай ракі часу, а якія сыдуць у маргіналіі? Якія тэндэнцыі выявяцца ў нацыянальным красным пісьменстве ў сярэдзіне XXI стагоддзя? Якія тэмы і праблемы будуць цікавіць мастакоў слова праз 40-50 гадоў? Як бачым, пытанні пастаўлены актуальныя. Адказы будуць інтрыгуючыя…

З глыбінкі

## Багушэвічавых сцежак прыцягненне

**Актыўна адзначылі Сусветны дзень паэзіі і 170-годдзе з дня нараджэння пачынальніка і першага класіка беларускай нацыянальнай літаратуры Францішка Багушэвіча ўдзельнікі народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" Валожынскага раённага Цэнтра культуры.**

Напярэдадні свята рунеўцы ладзілі ў СШ №1 г. Валожына прэзентацыю свайго паэтычнага зборніка "Нашчадкі", куды ўвайшлі вершы ажно трох настаўнікаў названай школы: дырэктара Ніны Бобрык, намесніка дырэктара Ірыны Жытарук і педагога-арганізатара Наталлі Жылевіч. Вучні старшых класаў і настаўнікі з цікавасцю слухалі вершы валожынскіх творцаў, іх разважанні. Творчасць асобных стала прыемным адкрыццём. Юная рунеўка, вучаніца гэтай жа навучальнай установы, Анастасія Макар выканала ўласную песню пра Валожын, а ў выкананні Уладзіміра Данчанкі прагучала песня на словы старэйшага ўдзельніка "Руні" Яўгена Зялкоўскага "Плач вербаў", музыку якой напісаў сам выканаўца. Адкрылі ж і завяршылі гэтае літаратурнае свята, адпаведна, "Гімн школы" і "Гімн Валожынскай зямлі", абодва на словы таленавітага ўдзельніка аб'яднання Сяргея Маляўскага.

Акурат у юбілейны дзень народзін Францішка Багушэвіча ўдзельнікі творчай суполкі наведалі сядзібу-музей славутага творцы ў вёсцы Кушляны Смаргонскагага раёна. Зацікаўлена-ўдумліва слухалі рунеўцы грунтоўны расповед дырэктара музея Алеся Жамойціна, з хваляваннем разглядалі экспанты, звязаныя з жыццём і творчасцю паэта, змагара; з нескрываным пачуццём краталі таўшчэзныя бярвёны, якія памятаюць дотык слыннага гаспадара.

Нягледзечы на змрачнаватае туманнае надвор'е, якое выдалася ў гэты дзень, усе засталіся задаволеныя і ўзрушаныя далучэннем да беларускай спадчыны, да душы таленавітага творцы і змагара, які так любіў зямельку сваю і народ свой, заклікаў і нас не забываць родную беларускую мову, дадзеную нам Богам, "каб не ўмёрлі".

Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканская унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3057
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 1.04.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1527
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686